● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

20 красавіка 1996 г. субота, №№ 104-105 (22907-22908)



# ЗВЯЗДА



## ПРЭЗІДЭНТ АБЯЦАЎ РЭГУЛЯРНА БЫВАЦЬ У «ЧАРНОБЫЛЬСКІХ» РАЁНАХ

Падвядзеннем вынікаў трохдзённай паездкі Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі па рэгіёнах рэспублікі, што пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы, стала нарада, якая прайшла 18 красавіка ў Магілёве. У ёй прынялі ўдзел кіраўнікі шэрага міністэрстваў і ведамстваў, дэпутаты Вярхоўнага Савета, а таксама прадстаўнікі выканаўчай вертыкалі ўлады Гомельскай, Магілёўскай і Брэсцкай абласцей.

Паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, галоўная мэта гэтай сустрэчы -- вырашэнне некаторых найбольш вострых пытанняў жыццезабеспячэння насельніцтва пацярпеўшых раёнаў. Акрамя таго, нарада дала магчымасць вызначыць, наколькі выкананы даручэнні Прэзідэнта, дадзеныя ім у ходзе мінулагодняй сакавіцкай паездкі па «чарнобыльскіх» рэгіёнах.

Першым трымаў адказ міністр па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад вынікаў катастрофы на чарнобыльскай АЭС Іван Кенік. Ён паведаміў, што, згодна з папярэдняй дзяржаўнай праграмай па мінімізацыі вынікаў катастрофы, асноўная ўвага ўдзялялася пытанням адсялення людзей. На сённяшні дзень з «чарнобыльскіх» раёнаў выехала 131,2 тысячы чалавек, для якіх было пабудавана каля 60 тысяч дамоў і кватэр.

Па даручэнню кіраўніка дзяржавы ў Беларусі распрацавана новая «чарнобыльская» праграма. Паводле слоў Івана Keніка, яе асноўнае адрозненне ад папярэдняй заключаецца ў тым, што яна зарыентавана толькі на ўласныя рэсурсы.

Яшчэ адным прыярытэтам міністр назваў газіфікацыю раёнаў, што пацярпелі ад аварыі. У самы бліжэйшы час газаправоды будуць падведзены да Брагіна, Краснаполля і Быхава.

Шмат пытанняў ва ўдзельнікаў нарады ўзнікла наконт новага пераліку тэрыторый і населеных пунктаў, што адносяцца да зон радыяцыйнага забруджвання, які нядаўна быў зацверджаны Кабінетам Міністраў. Згодна з гэтым рашэннем каля 200 тысяч чалавек пазбавіліся «чарнобыльскіх» ільгот. Выслухаўшы аргументы Івана Кеніка, Прэзідэнт распарадзіўся падрыхтаваць рашэнне, якое аднавіла б права на бясплатнае аздараўленне дзяцей і бясплатнае харчаванне школьнікаў.

Рэзкай крытыцы Аляксандр Лукашэнка падверг сістэму атрымання і размеркавання гуманітарнай дапамогі, што паступае з-за мяжы, якая цяпер сканцэнтравана ў руках розных грамадскіх арганізацый. Прэзідэнт запатрабаваў у трохмесячны тэрмін правесці перарэгістрацыю «чарнобыльскіх» арганізацый і распрацаваць механізм, з дапамогай якога размеркаванне гуманітарнай дапамогі было б узята пад дзяржаўны кантроль.

Гэтаму пытанню Аляксандр Лукашэнка не дарэмна ўдзяліў вялікую ўвагу. Ён паведаміў, што пасля яго выступлення на венскай канферэнцыі ААН прыняла рашэнне аказаць буйнамаштабную дапамогу тром дзяржавам, што пацярпелі ад радыяцыі.

Адна з самых вострых праблем чарнобыльскіх рэгіенах -- адсутнасць дастатковай колькасці настаўнікаў і ўрачоў. Ёй былі прысвечаны выступленні міністра аховы здароўя Інесы Драбышэўскай і міністра адукацыі і навукі Васіля Стражава. Кадравае пытанне -- практычна адзіны пункт з даручэнняў Прэзідэнта, які не выканалі міністры. І хоць Інеса Драбышэўская адзначыла, што за кошт выязных брыгад наладжана медыцынскае абслугоўванне насельніцтва, пытанне замацавання кадраў застаецца адкрытым.

Праблему няхваткі кадраў, а таксама шэраг іншых пытанняў узнімалі ў сваіх выступленнях кіраўнікі пацярпеўшых абласцей і раёнаў. На думку многіх з іх, галоўнае цяпер -- стварыць нармальныя ўмовы для жыцця людзей, якія вырашылі застацца ў сваіх родных мясцінах.

Вынік гэтай больш чым трохгадзіннай нарады падвёў Аляксандр Лукашэнка. Ён адзначыў, што чарнобыльскія праблемы яшчэ доўга будуць хваляваць усіх жыхароў Беларусі. Асноўнай прычынай усіх нашых цяперашніх цяжкасцей Прэзідэнт назваў развал СССР. Паводле яго слоў, фінансаванне чарнобыльскіх праграм прыйшлося скараціць у некалькі разоў. Шмат было зроблена памылак за мінулае дзесяцігоддзе. Але самая страшная памылка заключаецца ў тым, што былі закінуты забруджаныя землі, падкрэсліў кіраўнік дзяржавы.

Яшчэ адной памылкай ён назваў бяздумнае перасяленне людзей з пацярпеўшых раёнаў, што выклікала мноства сацыяльных і псіхалагічных праблем. Аляксандр Лукашэнка падверг крытыцы кіраўніцтва Магілёўскай вобласці і Дрыбінскага раёна за дапушчаныя памылкі ў будаўніцтве і добраўладкаванні пасёлкаў для перасяленцаў з чарнобыльскай зоны, раскраданне недабудаваных дамоў. Ён аб'явіў аб зняцці з пасад асноўных віноўнікаў: намесніка старшыні Магілёўскага аблвыканкома Аляксандра Сёмкіна, старшыні Дрыбінскага райвыканкома Віктара Гушчы, пракурора раёна Мікалая Гайшуна і начальніка Дрыбінскага РАУС Івана Тагіля.

Нямала нараканняў было выказана Прэзідэнтам і ў адрас прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра, міністра фінансаў Паўла Дзіка, міністра па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС Івана Кеніка, міністра сацыяльнай абароны Вольгі Даргель і шэрага іншых службовых асоб.

□□□

19 красавіка на рабочай нарадзе кіраўніцтва Кабінета Міністраў і Адміністрацыі Прэзідэнта Аляксандр Лукашэнка падвёў першыя вынікі сваёй трохдзённай паездкі ў чарнобыльскія раёны Беларусі.

Як паведаміла прэс-служба Прэзідэнта, ён даў даручэнне вышэйшым службовым асобам рэспублікі падрыхтаваць канкрэтны план рэалізацыі ўсіх прапаноў, просьбаў і заўваг, што былі выказаны кіраўніку дзяржавы ў ходзе шматлікіх сустрэч з жыхарамі вёсак і гарадоў Брэсцкай, Магілёўскай і Гомельскай абласцей. План выканання наказаў будзе апублікаваны ў друку і ўзяты пад асабісты кантроль Прэзідэнтам.

Аляксандр Лукашэнка даручыў Кабінету Міністраў у тэрміновым парадку падрыхтаваць пастанову, што захоўвае сістэму бясплатнага харчавання для навучэнцаў школ забруджаных раёнаў і аздараўлення дзяцей за кошт бюджэтных сродкаў дзяржавы. У гэтых мэтах дадзена распараджэнне падрыхтаваць неабходную колькасць месцаў для аздараўлення дзяцей у санаторыях Беларусі, у тым ліку і на Чарнаморскім узбярэжжы.

Кіраўнік дзяржавы асабліва падкрэсліў, што павышэння платы за жыллёвую плошчу і камунальныя паслугі не дапусціць, разумеючы ўсю складанасць становішча грамадзян рэспублікі. Чуткі, якія распаўсюджваюцца наконт гэтага, Аляксандр Лукашэнка назваў спекулятыўнымі і не адпаведнымі лініі Прэзідэнта, накіраванай на стабілізацыю сітуацыі ў Беларусі.

**БЕЛТА.**



## *Калектыву рэдакцыі газеты «Чырвоная змена» ў сувязі з 75-годдзем з дня заснавання*

Паважаныя супрацоўнікі рэдакцыі!

Шаноўныя чытачы «Чырвонай змены»!

Гісторыя назаўсёды захавала той хвалюючы момант, калі 75 гадоў назад, 21 красавіка 1921 г., дэлегаты II з'езда камсамола Беларусі ўзялі ў рукі першы нумар газеты працоўнай моладзі.

З той пары жыццё ўсіх пакаленняў беларускага юнацтва запісана на старонках першай маладзёжнай газеты. Гэта велічная карціна нашай краіны ў яркіх падзеях і здзяйсненнях, гераічных біяграфіях нашых дзядоў і бацькоў. Прыгожае і непаўторнае жыццё, як сама маладосць, бурліць у кожным нумары «Чырвонай змены».

Газета заўсёды разам з моладдзю. У час аднаўлення народнай гаспадаркі пасля грамадзянскай вайны, у паходзе за асваенне вяршынь культуры і асветы, новага ладу жыцця. Творчасць рэдакцыі асвечана талентам Я.Купалы і Я.Коласа, паэзіяй К.Крапівы, А.Александровіча, М.Чарота, П.Труса. Яна да гэтага часу застаецца школай нацыянальнай літаратурнай творчасці.

На заводах, у калгасах і навучальных установах «Чырвоная змена» карысталася высокім аўтарытэтам. Газета выхоўвала патрыётаў і стваральнікаў. Вялікая яе заслуга ў тым, што беларуская моладзь была падрыхтавана да рашучага змагання з фашысцкімі захопнікамі. Сваёй партызанскай сястрой, сяброўкай па падполлю называлі яе абаронцы Радзімы ў час вайны.

У пасляваенны перыяд голас газеты стаў яшчэ больш звонкім. У яе змест увайшла новая эпоха. Асваенне космасу, працоўная гераіка моладзі, рамантыка студэнцкіх будаўнічых атрадаў, вырашэнне праблем нацыянальна-культурнага жыцця знайшлі яскравае адлюстраванне ў «Чырвонай змене». Вялікая выхаваўчая праца газеты ў 1976 г. была адзначана высокай узнагародай -- ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

З дзейнасцю газеты звязаны імёны вядомых грамадска-палітычных дзеячаў нашай дзяржавы, літаратараў, прадстаўнікоў навукова-тэхнічнай інтэлігенцыі, герояў вайны і працы. П.Машэраў, І.Мележ, І.Чыгрынаў, П.Клімук і іншыя слаўныя сыны беларускага народа былі героямі і аўтарамі газеты для юнацтва. «Чырвоная змена» стала адным з каштоўных набыткаў нацыянальнай культуры.

У наш складаны час газета імкнецца аб'ектыўна адлюстроўваць рэчаіснасць, дапамагае маладым людзям арыентавацца ў палітычных абставінах і вырашэнні многіх жыццёвых праблем.

Як Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь лічу, што сёння неабходна больш увагі ўдзяляць усебаковаму аналізу дзейнасці дзяржаўных органаў, грамадскіх арганізацый, працоўных калектываў, вырашэнню праблем самарэалізацыі маладой асобы, уключэнню юнакоў і дзяўчат у актыўную грамадскую дзейнасць, выхаванню патрыятызму, павагі да гісторыі, культуры, мовы, любові да сваёй Радзімы.

Моладзь -- асноўная каштоўнасць нашага грамадства, гэта светлы заўтрашні дзень Рэспублікі Беларусь. Таму чысты голас юнацтва павінен асабліва моцна гучаць у «Чырвонай змене» ў абарону адзінства беларускага народа, захавання ў нашым доме спакою і дабрабыту ўсіх людзей.

Шчыра віншую рэдакцыйны калектыў, усіх чытачоў з юбілеем газеты, жадаю здароўя, шчасця, творчага плёну і далейшага слаўнага шляху ў XXI стагоддзе.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р.ЛУКАШЭНКА.**

## ВІТАЮ ЎДЗЕЛЬНІКАЎ МІЖНАРОДНАГА КОНКУРСУ «МУЗЫКА НАДЗЕІ»!

У дні дзесяцігоддзя чарнобыльскай трагедыі горад Гомель стаў цэнтрам падтрымкі дзіцячай творчасці. Знамянальна і радасна, што імкненне да мастацтва аб'яднала перш за ўсё юных грамадзян Беларусі, Расіі, Украіны. Мастацтва ва ўсе часы ўзвышала, натхняла чалавека, было крыніцай суцяшэння і маральнай падтрымкі. Гэта асабліва неабходна юным душам у няпростых рэаліях сённяшняга жыцця. Дзіцячая творчасць прасякнута сонечным святлом, аптымізмам, і задача ўсіх дарослых — падтрымаць імкненне юнага чалавека да стварэння цудоўнага. Не абавязкова кожнаму з вас выбраць прафесію музыканта або мастака, але абавязкова захаваць у сабе і прымножыць імкненне да ўзвышанага, да ўсяго, што складае свет мастацтва і ўзбагачае духоўнае жыццё чалавека.

Жадаю вам, дарагія сябры, моцнага здароўя, шчасця, творчых здзяйсненняў.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

## КАЛЕКТЫВУ РЭДАКЦЫІ ГАЗЕТЫ «ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА»

Дарагія сябры!

Ад імя Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь прыміце сардэчныя віншаванні са знамянальным юбілеем — 75-годдзем з дня выхаду першага нумара Вашай газеты, старэйшыны беларускага маладзёжнага друку.

Слаўны шлях прайшла за тры чвэрці стагоддзя «Чырвоная змена», і галоўным на ўсіх этапах яе дзейнасці было праўдзівае адлюстраванне гістарычнага лёсу Беларусі ў свеце, дакладнае інфармаванне моладзі аб падзеях у краіне і за яе межамі. І ў мірны час, і ў ліхалецці на матэрыялах выдання фарміраваўся светапогляд не аднаго пакалення грамадзян нашай Айчыны.

У народзе да «Чырвонай змены» склаліся даверлівыя і прыязныя адносіны. І ў гэтым — асноўная заслуга калектыву яе рэдакцыі. Журналісты газеты заўсёды вызначаліся высокім прафесіяналізмам, патрабавальнымі адносінамі да сябе і сваёй справы, рэалістычным падыходам да асвятлення грамадска-палітычнага і сацыяльна-эканамічнага жыцця рэспублікі. Выданне было і застаецца аўтарытэтным настаўнікам маладых людзей, верным прапагандыстам іхніх спраў і памкненняў.

Змянілася не адно пакаленне супрацоўнікаў газеты, а яе традыцыі жывуць і развіваюцца. Трымайце і надалей высока марку «Чырвонкі». Няхай у жыцці і працы Вам заўсёды спадарожнічае ўдача.

Жадаю працоўнаму калектыву газеты новых творчых поспехаў, здароўя, асабістага шчасця і выказваю ўпэўненасць, што «Чырвоная змена» ва ўсе наступныя часы будзе рупліва працаваць на карысць Бацькаўшчыны.

**З павагай М.М.ЧЫГІР, Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь**

## ГАЗЕЦЕ, ЯКАЯ ВЫХАВАЛА НЕ АДНО ПАКАЛЕННЕ БЕЛАРУСАЎ

Віншаванне з нагоды 75-годдзя з дня выхаду ў свет першага нумара газеты «Чырвоная змена» прыслаў калектыву рэдакцыі старшыня Дзяржаўнага камітэта па друку, сам у недалекім мінулым галоўны рэдактар гэтага выдання Уладзімір Бельскі.

У віншавальным лісце, у прыватнасці, гаворыцца, што беларуская моладзь заўсёды бачыла ў «Чырвонай змене» цікавага суразмоўцу і вернага сябра. Тры чвэрці стагоддзя газета клапоціцца аб тых, хто толькі далучаецца да актыўнага грамадскага жыцця, вучыць юнакоў і дзяўчат любві да роднай зямлі. Газета выхавала не адно творчае пакаленне, была франтавічкай, з яе старонак прыходзілі да чытачоў новыя вершы класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа. Спецыяльна для «Чырвонкі» пісаў некалі і Уладзімір Маякоўскі.

— Зарука таго, што ў «Чырвонай змены» ёсць будучыня,— гаворыцца напрыканцы віншавання, — няўхільнае павелічэнне яе тыражу.

**БЕЛТА.**

*ГРОШЫ*

## ЦЭНЫ «З'ЕЛІ МЯДЗВЕДЗЯЎ»

Як паведамілі з Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, з 1 чэрвеня бягучага года спыняецца выпуск у абарот разліковых білетаў Беларусі вартасцю 50 рублёў (у простанароддзі «мядзведзь»).

Зараз цэнтральны банк рэспублікі рэкамендуе суб'ектам гаспадарання здаваць разліковыя білеты гэтай вартасці ў банкі для залічэння на рахункі.

З першага дня лета такія купюры ўжо не будуць прымацца на тэрыторыі Беларусі ва ўсе віды плацяжоў.

Аднак з 1 чэрвеня грамадзяне краіны змогуць абмяняць «мядзведзяў» у любых аддзяленнях банкаў без абмежаванняў і камісійных.

На думку спецыялістаў Нацбанка, гэта рашэнне прынята ў сувязі з немэтазгоднасцю далейшага выкарыстання разліковых білетаў дробнай вартасці і правядзеннем Міністэрствам эканомікі акруглення свабодных рознічных цэн і тарыфаў з дакладнасцю да 100 рублёў.

**Сяргей КУРКАЧ.**

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## У ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ РЫХТАВАЛІСЯ ВЫКАЗАЦЬ НЕДАВЕР УРАДУ

У традыцыйным раздзеле «Рознае» дэпутат Іван Цярэшка расказаў аб удзеле беларускай дэлегацыі ў канферэнцыі Міжпарламенцкага саюза ў Стамбуле 15—17 красавіка. Ён паведаміў, што на гэтай канферэнцыі па праблеме наступстваў Чарнобыля выступіў С Шарэцкі, прычым выступіў на беларускай мове, якую ўпершыню пачулі прадстаўнік 132 дзяржаў. «Прадстаўнікі нашых суседніх дзяржаў успрынялі гэта вельмі станоўча», — падкрэсліў І. Цярэшка...

Пётр Краўчанка звярнуўся з дэпутацкім запытам аб тым, чаму Беларусь, у адрозненне ад Украіны, не прымае ўдзел у якасці назіральніка на самміце сямёркі вядучых краін свету ў Маскве, які пачаўся ўчора і які прысвечаны пытанням ядзернай бяспекі і пытанням, звязаным з чарнобыльскай трагедыяй.

«Вы разумееце, што Украіна будзе настойліва ставіць пытанне, звязанае з кампенсацыяй па Чарнобылю. Ёсць прыблізнае рашэнне: выдзеліць каля 2 мільярдаў долараў Украіне. Мы аказваемся па-за гульнёй... у той час, калі гранды вялікай палітыкі вельмі сур'ёзна будуць абмяркоўваць пытанні, якія датычацца трох славянскіх нацый» — зазначыў П. Краўчанка. Ён запытаў, чаму ж беларускі МЗС не зрабіў усё магчымае, каб Беларусь прыняла ўдзел у гэтым пасяджэнні па формуле 7+1+2. «Калі гаварыць шчыра, мы паступова можам аказацца ў стане міжнароднай ізаляцыі», — падкрэсліў П. Краўчанка.

А галоўнае пытанне, якое абмяркоўвалі ўчора ў парламенце, — аб становішчы спраў у аграпрамысловым комплексе. Яго разгляд пачаўся яшчэ напярэдадні.

Вечарам 18 красавіка прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір зрабіў справаздачу па пытанню развіцця аграпрамысловага комплексу. Як паведаміў прэм'ер, у першым квартале гэтага года сельскай гаспадарцы выдзелена 750 мільярдаў рублёў авансу. Закупачныя цэны на зерне ўзняліся з 43,9 долара ў 1994 годзе да 130 долараў у 1996 годзе. Сёння ўрад гатовы фінансаваць пастаўку мінеральных угнаенняў, запасных частак, кармоў на жывёлагадоўчыя комплексы, урад абяцае кампенсаваць гаспадаркам падаражанне бензіну і дызпаліва, якое выклікана ўвядзеннем акцызаў.

Але на сёння крэдыторская запазычанасць сяла складае 2,4 трыльёна рублёў, з якіх толькі 1 трыльён — банкаўскія крэдыты, астатняе — бюджэтная падтрымка з розных крыніц. Чыгір рэзка адмовіў аграрыям у спісанні запазычанасці і пралангіраванні банкаўскіх крэдытаў да 2005 года. Прэм'ер заклікаў іх прызнаць нізкую эфектыўнасць сельскай гаспадаркі і неабходнасць яе рэфарміравання.

У судакладзе старшыня Камісіі ВС па аграрных пытаннях Генадзь Усюкевіч спыніўся на праблемах сельскай гаспадаркі, падзенні валавой вытворчасці, неплацяжах за здадзеную прадукцыю і г. д. Яго падтрымалі шматлікія выступаючыя, пераважна ад фракцыі аграрыяў. Выступленні былі вострыя. Дэпутат Павел Нявесценка нават заявіў, што ўрад вядзе шырокамаштабную вайну супраць сельгаспрадпрыемстваў. А старшыня ВС Сямён Шарэцкі ў прыватнасці, заявіў, што ўрад захаваў структуру часоў адміністрацыйна-каманднай эканомікі, што віцэ-прэм'еры выконваюць ролю перадатачных шасцерняў, якія забіраюць на сябе энергію і прыніжаюць ролю міністраў. Сямён Шарэцкі, адзначыў, што ўрад недаацэньвае ролю АПК у Беларусі. На яго думку, менавіта АПК можа стаць тым звяном ланцуга, за якое можна будзе выцягнуць нашу эканоміку з крызісу.

У цэлым у бок урада гучала шмат крытыкі. Яшчэ напярэдадні ў Вярхоўным Савеце прадстаўнікі фракцый аграрыяў і камуністаў пачалі збіраць подпісы над папраўкай у праект пастановы па гэтай праблеме, якая прызнае працу ўрада ў гэтым напрамку нездавальняючай і прапануе выказаць недавер Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь у яго здольнасці выпрацоўваць і ажыццяўляць эфектыўныя меры па стабілізацыі эканомікі і вываду рэспублікі з сістэмнага крызісу.

Пад гэтай папраўкай падпісалася каля паўсотні дэпутатаў. Гэтую папраўку, якая фактычна з'яўляецца патрабаваннем адстаўкі ўрада, падтрымалі на сваіх сходах раніцай 19 красавіка фракцыі аграрыяў і камуністаў.

У гэты дзень у кулуарах Вярхоўнага Савета гэта было самай актуальнай тэмай. Дэпутаты, аднак, падкрэслівалі, што паколькі не выпрацаваны прававы механізм адстаўкі ўрада, то выказванне яму недаверу, відаць, не будзе азначаць аўтаматычнага зыходу ўрада М. Чыгіра. Аднак гэта будзе сігналам для кіраўніцтва краіны, «званочкам», які павінен прымусіць падумаць аб праводзімай у эканоміцы палітыцы.

Тым часам пасля завяршэння дыскусіі слова ўзяў віцэ-прэм'ер У. Гаркун, які паспрабаваў адказаць на крытыку, зазначаючы, што ўрад мае праграмы па развіццю птушкагадоўлі, цяплічнай гаспадаркі і многіх іншых галін сельскай гаспадаркі і што да 1 чэрвеня «Аграпрамбанк» павінен зноў стаць дзяржаўным — пастаўлена задача давесці колькасць яго акцый у дзяржаўных структурах да 80 працэнтаў... У. Гаркун прызнаў, што сельскай гаспадарцы трэба ўдзяляць увагу і першачарговую падтрымку. Затым Генадзь Усюкевіч прадставіў дэпутатам праект пастановы, якая была прынята за аснову. Да абеду дэпутаты паспелі яшчэ прагаласаваць 116 галасамі за прызнанне нездавальняючай работы ўрада па вываду АПК з крызісу. Выказванне недаверу ўраду было перанесена на 16.00. Але і пасля абеду рашэнне не было прынята.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**



## Анатоль Кляшчук запрашае на сваю выстаўку «ЗОНА ЖУРБЫ»

**24 красавіка адкрываецца выстаўка фатаграфіі аб трагічных лёсах «чарнобыльскіх» дзяцей «Зона журбы».**

Аўтар гэтай цяжкай па зместу экспазіцыі — вядомы фотажурналіст, фотакарэспандэнт «Звязды» Анатоль Кляшчук. Выстаўка прысвечана дзесяцігоддзю чарнобыльскай катастрофы і пройдзе як дабрачынная ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі (вул. К. Маркса, 12).

Выстаўка з'яўляецца вынікам пяцігадовай працы фатографа над тэмай ахвяр атамных узрушэнняў — дзяцей імперыі анкалогіі. Многія работы аўтара ўжо экспанаваліся на конкурсах і выстаўках у ЗША, Японіі, Даніі, ФРГ і ў іншых краінах і былі адзначаны дыпломамі і прызамі. Як пісала наша газета, нядаўна за здымак «Хлопчык з Бараўлян» Анатоль Кляшчук стаў прызёрам конкурсу фатаграфіі ў Японіі па праграме UNEP.

Ідэю правядзення гэтай акцыі, акрамя рэдакцыі «Звязды», падтрымалі і прафінансавалі Беларускі фонд Сораса і Дзяржкамдрук Рэспублікі Беларусь.

**Аўтар і газета запрашаюць усіх сваіх чытачоў на выстаўку «Зона журбы», якая будзе працаваць з 24 красавіка па 12 мая.**

**ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**З 20 красавіка пачынаецца падпіска на нашу газету на другое паўгоддзе 1996 года.**

**Ідучы насустрач пажаданням нашых падпісчыкаў, кошт падпіскі на «Звязду» застаецца ранейшым:**

на месяц — **13.600** руб.
на квартал — **40.800** руб.
на паўгода — **81.600** руб.

**БУДЗЕМ СЯБРАМІ І НАДАЛЕЙ!**

*ПОГЛЯД*

## БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ

Агульнапрызнана, што асабістая харызма палітычнага лідэра — прадукт скараспелы і хутка псуецца. Асабліва ва ўмовах, калі бязмежны давер і ўсеагульная любоў уступаюць у непрымірымую супярэчнасць з жорсткай штодзённай рэальнасцю.

Гэта заканамернасць пацверджана на вопыце многіх постсавецкіх краін, лідэры якіх прыходзілі да ўлады на хвалі барацьбы з камуністычнай наменклатурай і імперскімі амбіцыямі цэнтра. Успомнім, як узнесліся на вяршыню ўлады, напрыклад, Леанід Краўчук, Звіяд Гамсахурдзія, Вітаўтас Ландсбергіс. І якім імклівым і балючым было потым для іх падзенне з палітычнага алімпу. Прыкладна па гэтай жа схеме адбывалася і ўзвышэнне Барыса Ельцына, які перажывае цяпер самы крытычны момант сваёй палітычнай кар'еры.

Лагічна было б меркаваць, што падобны лёс у блізкай будучыні напаткае і яго: увесь папярэдні вопыт схіляе менавіта да такога сцэнарыя падзей. Зрэшты, Расія заўсёды выбірала ўласныя шляхі і стварала ўласныя схемы. Да таго ж, у выпадку з Ельцыным і з расійскай сітуацыяй дужа шмат пастаўлена на карту сусветным супольніцтвам і маладым, і дужым расійскім бізнесам, каб так проста аддаць уладу ў рукі камуністам. Больш як сямідзесяцігадовы вопыт зносінаў з камуністычным рэжымам ніякіх ілюзій адносна «чалавечага твару» новых правадыроў у Захаду не пакідае.

Фігура Аляксандра Лукашэнкі ў гэтым шэрагу постсавецкіх харызматычных лідэраў стаіць асобна. І не толькі таму, што ён прыйшоў да ўлады ў іншы, больш позні час і зусім пад іншымі лозунгамі.

Беларускі прэзідэнт, падобна, выбраў прынцыпова іншы стыль зносінаў з электаратам, іншы спосаб стасункаў і з сусветным дэмакратычным супольніцтвам, і з палітычнымі інстытутамі ўнутры краіны. У гэтым сэнсе ў агульную схему ён не ўпісваецца.

Пасля амаль двух гадоў знаходжання пры ўладзе, якія былі адзначаны глыбокім эканамічным спадам і рэзкім пагаршэннем жыццёвага ўзроўню большай часткі насельніцтва, за Аляксандра Лукашэнку гатовы аддаць галасы на новых выбарах 57,8 працэнта апытаных. (Паводле вынікаў сацыялагічнага апытання, праведзенага 30 сакавіка—10 красавіка г.г. сацыялагічнай лабараторыяй Андрэя Вардамацкага «Новак» па заказу «Белорусской деловой газеты».) «Адмоўны» рэйтынг Лукашэнкі (доля тых, хто не стаў бы галасаваць за яго ні пры якіх абставінах) — 12,7 працэнта.

Для параўнання — рэйтынгі іншых вядомых беларускіх палітыкаў, якія патэнцыяльна здольныя скласці канкурэнцыю Аляксандру Лукашэнку (першая лічба — доля прыхільнікаў, другая — непрымірымых праціўнікаў):

Зянон Пазняк — 6,1 (33,3);
Станіслаў Шушкевіч — 3,7 (11,7);
Вячаслаў Кебіч — 2,9 (14,9);
Станіслаў Багданкевіч — 1,6 (2,7);
Генадзь Карпенка — 1,3 (0,0);
Васіль Новікаў — 1,0 (1,9);
Сямён Шарэцкі — 0,6 (0,0);
Міхаіл Чыгір — 0,5 (0,1);
Мечаслаў Грыб — 0,0 (2,1).

Фенаменальная для ўсёй постсавецкай прасторы з'ява: ва ўмовах катастрафічнага збяднення насельніцтва рэйтынг Прэзідэнта вярнуўся на тую ж высокую адзнаку, на якой ён быў летам 1994 года, падчас выбараў.

Логіка практычна ўсіх найважнейшых крокаў, зробленых Аляксандрам Лукашэнкам за час яго знаходжання пры ўладзе, падпарадкавана аднаму крытэрыю: волі большасці насельніцтва. Каб вызначыць гэту волю, гэтыя настроі і сімпатыі, Прэзідэнту няма патрэбы нават у сацыялагічных апытаннях ці рэферэндумах: ён сам па сабе — самы дакладны індыкатар гэтых настрояў. «Народны Прэзідэнт», паводле яго ўласных слоў, «нутром» адчувае, чаго хоча ад яго народ.

Такая тактыка мае свае перавагі і свае недахопы. Перавагі — гэта безумоўная падтрымка сярод большасці насельніцтва, чарговы вялізны крэдыт даверу, рэальныя шанцы на тое, каб застацца пры ўладзе як мінімум да 2004 года.

Але пры гэтым даводзіцца ахвяраваць многім з таго, чым не адважваецца ахвяраваць ніводзін з еўрапейскіх лідэраў, Падтрымліваючы настальгію большасці па камунізму і па СССР, нельга разлічваць на аўтарытэт і сімпатыю лідэраў Захаду (і не толькі лідэраў — усіх дэмакратычных інстытутаў, сродкаў масавай інфармацыі). Стрымліваючы рэформу адносінаў уласнасці, кансервуючы калгасна-саўгасную сістэму, спрабуючы захаваць пануючае становішча дзяржсектара, немагчыма прывабіць у краіну замежныя інвестыцыі, без якіх эканоміка ўвогуле можа задыхнуцца.

Знаходзячыся паміж гэтых двух агнёў, Прэзідэнт Лукашэнка, па вялікаму рахунку, не стаў лавіраваць, шукаць кампрамісы, падлажвацца пад грамадскую думку, за яе спінай спрабуючы захаваць дэмакратычны імідж. Ён выбраў шлях просты, небанальны і зразумелы для большасці: цалкам стаў на бок гэтай большасці. А большасць беларускага насельніцтва, як аказалася, не любіць буржуяў і «бээнэфаўцаў», не жадае прыватызацыі, хоча вяртання сацыялістычных заваёў, не бачыць перспектыў беларускай мовы, імкнецца да ўз'яднання з Расіяй...

Дзеянні ўдзельнікаў апазіцыйнай дэманстрацыі, якая адбылася ў Мінску 24 сакавіка, у той ці іншай ступені падтрымалі 20,7 працэнта апытаных. Паставіліся да яе адмоўна ці «хутчэй адмоўна» — 63,9 працэнта.

Зусім зразумела, якім будзе стаўленне і да планаваемай акцыі 26 красавіка.

У такіх умовах у апазіцыі, якая дэкларуе лозунгі, што не знаходзяць падтрымкі большасці, сёння няма шанцаў падняць свой рэйтынг з дапамогай гэтых пратэстаў.

Лідэр БНФ Зянон Пазняк у гэтыя дні — у Польшчы, спрабуе па-свойму растлумачыць Захаду сутнасць змен, якія адбываюцца ў Беларусі. Як паведамляе ў нумары ад 16 красавіка ўплывовая варшаўская газета «Rzeczpospolita», у Вроцлаве сп. Пазняк заявіў, што «Аляксандр Лукашэнка выйграў выбары пры дапамозе расійскага КДБ, функцыянеры якога ў сапраўднасці кіруюць цяпер беларускай дзяржавай. Абмежаванне свабоды прэсы, забарона на доступ апазіцыі да тэлебачання, прызначэнне афіцэраў расійскага КДБ на высокія дзяржаўныя пасады, змяншэнне на працягу апошніх трох гадоў колькасці беларускамоўных школ з 67 да 19 працэнтаў, прыпыненне ліквідацыі ядзерных узбраенняў і згода на большую залежнасць эканомікі Беларусі ад расійскай эканомікі» — гэта, на думку лідэра апазіцыі, доказы таго, што надыходзіць падпарадкаванне гэтай краіны Расіі. Умовай змены гэтай палітыкі з'яўляецца адстаўка Прэзідэнта Лукашэнкі».

Апазіцыя Народнага фронту ў свой час, калі мела нейкія шанцы на прыход да ўлады, выбрала тактыку, запазычыўшы яе ў суседзяў. Гэтая адсутнасць папраўкі на спецыфічныя настроі беларускага насельніцтва дорага каштавала БНФ. Той, што прамаўляе нават самыя дэмакратычныя лозунгі, якія, тым не менш, не знаходзяць падтрымкі сярод большасці, — можа прэтэндаваць хіба што на ролю прапаведніка, але не на палітычную ўладу ў дзяржаве.

Як бы там ні было, пакуль што мы назіраем карціну адзінства Прэзідэнта і большасці насельніцтва. Пры такім падмурку народнай падтрымкі ўладзе Аляксандра Лукашэнкі ў бліжэйшай будучыні нішто не пагражае, — што б ні гаварыў і якія б умовы ні ставіў Зянон Пазняк.

Іншая справа, што ў перспектыве адрыў Беларусі ад таго шляху, якім ідзе дэмакратычная Еўропа, можа дорага каштаваць найперш самім беларусам. Але наракаць у гэтым выпадку давядзецца толькі на саміх сябе.

**Валянцін ЖДАНКО.**

## КОЛЬКІ ЭНЕРГІІ МЫ СПАЖЫВАЕМ?

***Якая сёння доля ўласных энергарэсурсаў Беларусі? Колькі кВт/гадз. электраэнергіі прыпадае на душу нашага насельніцтва?***

*Анатоль Седзіч, Гомельская вобласць.*

Калі прытрымлівацца лічбаў, то доля ўласных рэсурсаў Беларусі не перавышае сёння 15,5 працэнта ад патрэбнасці. Спажыванне электраэнергіі на душу насельніцтва ў нас складае 3,4 тыс. кВт/гадз. (у Нарвегіі — 23 тыс., у ЗША — 12, у Францыі — 5,8 тыс. кВт/гадз. Дададзім, што спажыванне энергіі ў прамысловасці Беларусі ў 1990 годзе складала 22,9 мільёна тон умоўнага паліва (41,4 працэнта ад сумарнага аб'ёму спажывання), у 1994 годзе — 12 мільёнаў тон (31 працэнт), а на 2010 год плануецца на долю індустрыі не больш як 15,7 мільёна тон (33,3 працэнта).

## ШТО ПРАДВЯШЧАЕ ІНФАРКТ?

***Магчыма, у вас ёсць якія-небудзь даныя, каб адказаць на маё наступнае пытанне: хацелася б ведаць, ці існуюць дакладныя прыметы таго, што чалавеку пагражае інфаркт?***

*Алесь Конкін, Барысаў.*

Каб адказаць на гэтае пытанне, спашлёмся на нямецкіх медыкаў. Менавіта яны вызначылі прыметы непасрэднай пагрозы інфаркту. Яны наступныя: адчуванне, быццам сэрца знаходзіцца ў цісках; боль у грудной клетцы, якая мацней адчуваецца з правага боку: аддае ў руку, шыю, спіну і лапаткі; халодны пот на твары і верхняй губе; бледнасць, часам — непазнавальна зменены выраз твару; цяжкасць дыхання, пры якім хочацца прысесці ці паляжаць; нечаканае парушэнне кровазвароту, якое нярэдка суправаджаецца непрытомнасцю; панічны страх смерці.

***ДАРЭЧЫ***

## ЧЭКІ «МАЁМАСЦЬ»: ДА ЧАСУ «ПІК» — ДВА ТЫДНІ

**Як неаднойчы паведамлялася ў «Звяздзе», 30 красавіка заканчваецца тэрмін прыняцця заяў на налічэнне грамадзянам імянных прыватызацыйных чэкаў «Маёмасць». Не лішнім будзе нагадаць, што аддзяленні АСБ «Беларусбанк» плануюць выдаваць сертыфікаты чэкаў толькі да 1 ліпеня 1996 года.**

Паводле даных Міндзяржмаёмасці, актыўнасць у чэкавай прыватызацыі праявіла па Беларусі каля 70 працэнтаў насельніцтва. За ўвесь час уладальнікам сертыфікатаў стаў толькі кожны другі грамадзянін, што мае на гэта права. На думку спецыялістаў міністэрства, нават пры павышанай актыўнасці напрыканцы красавіка (нашы грамадзяне прызвычаіліся ўсё рабіць у апошні тэрмін) далёка не кожны жыхар Беларусі атрымае свой «ваўчэр». Папярэднія падлікі дазваляюць меркаваць, што ў выніку абяцанай дзяльбы дзяржаўнага «пірага» 25 працэнтаў насельніцтва ўжо нічога не прыдбае.

## ШТО ЧУВАЦЬ АБ ПРІФЕ?

***27 снежня 1994 года я здала 82 чэкі «Маёмасць» на суму больш чым 2,5 млн. руб. у Верхнядзвінскі філіял 1-га Рэспубліканскага фонду і ў выніку атрымала пасведчанне акцыянера № 52912 на права валодання 187 акцыямі. Параійце, як атрымаць мне грошы па чэках і дывідэнды з акцый?***

*Ірына Шабалоўская, г. п. Асвея.*

Каб адказаць на гэта пытанне, карэспандэнт «Звязды» звярнуўся па тлумачэнні да намесніка начальніка ўпраўлення чэкавай прыватызацыі Міндзяржмаёмасці Мікалая КРУЦЬКО.

Канфлікт вакол ПРІФа прыцягнуў увагу самых уплывовых асоб рэспублікі. Так, па даручэнню кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіла Мясніковіча Міндзяржмаёмасць падрыхтавала праект распараджэння ў адносінах фонду, у якім мяркуецца аднавіць яго працу. Міністэрствам сабраны і накіраваны ўсе матэрыялы па Першаму рэспубліканскаму ў Кабінет Міністраў з рэкамендацыяй ануляваць 5-ю, апошнюю падпіску з абавязковым вяртаннем чэкаў насельніцтву.

Мяркуючы па даце выдадзенага пасведчання, вы, Ірына Ігнатаўна, якраз і з'яўляецеся ўдзельніцай пятай падпіскі фонду. І таму ніякіх грошай за чэкі ці дывідэнды вы можаце не атрымаць. У выніку пры выхадзе з фонду вы атрымаеце толькі чэкі. Што датычыцца «сапраўдных» акцыянераў ПРІФа, то яго новае кіраўніцтва абяцае выплату кампенсацый акцыянерам ужо ў пачатку лета.

Ці будзе выканана гэта рашэнне, ці застанецца толькі блакітнай марай, пакажа час.

## НАВОШТА ЗАПАЛЬВАЮЦЬ СВЕЧКІ?

***Падкажыце, што сімвалізуюць свечкі і лампады, якія гараць у праваслаўных храмах? І яшчэ хацелася б ведаць, чаму ў царкве запаленыя свечкі ставяць і за здароўе, і за спачын?***

*М. Васільеў, Мінск.*

Свечкі і лампады заўсёды запальваюць у час богаслужэння. Па праваслаўнаму веравучэнню, гэта робіцца не толькі для таго, каб рассеяць цемру, але перш за ўсё ў азнаменаванне таго, што «Гасподзь, які жыве ў свеце непрыступным», прасвятляе духоўным святлом увесь свет, азарае сэрцы хрысціян, якія пазнаюць славу Тварца ў асобе Ісуса Хрыста.

Таксама запаленыя свяцільнікі азначаюць, што сэрцы веруючых сагрэты любоўю да Госпада, і яшчэ яны сімвалізуюць духоўную радасць Царквы. Яе статутам прадпісваецца пры больш урачыстых службах запальваць свяцільнікаў больш, а пры звычайных — менш.

Веруючы чалавек, які ставіць у храме свечку за здароўе, выказвае тым самым сваю гарачую любоў да Тварца і да сваіх бліжніх. Свечка, якая гарыць за спачын памёршага, сімвалізуе сабой тое Боскае святло, якім назаўсёды быў азораны хрысціянін у момант свайго хрышчэння.

## КАРАЦЬ ЦІ МІЛАВАЦЬ?

***Простае правіла жыцця: не забівай і цябе не заб'юць. Тым не менш, колькасць цяжкіх злачынстваў, у тым ліку забойстваў і згвалтаванняў, не змяншаецца. Вядома, што некалькі дзесяткаў чалавек у нашай рэспубліцы за такія віды злачынстваў прыгавораны да вышэйшай (ці выключнай, не ведаю, як правільна) меры пакарання. Зараз Беларусь імкнецца ўступіць у Савет Еўропы. Значыць, мы стаім на шляху адмены смяротнага пакарання? Хацелася б ведаць у гэтай сувязі, як дзейнічае ў нас апошнім часам сістэма памілаванняў.***

*Марына Ахачынская, г. Магілёў.*

Працэдурай памілавання займаецца спецыяльны аддзел, які да 1994 года быў падсправаздачны Прэзідыуму Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, а зараз (афіцыйная яго назва — Аддзел па пытаннях правоў чалавека, грамадзянства і памілавання) уваходзіць у структуру Адміністрацыі Прэзідэнта.

Трэба адзначыць, што працэдуру памілавання праходзіць кожная справа, што цягне на «вышку», нават калі асуджаны і не просіць змякчыць пакаранне. У камісію, якая разглядае гэтыя справы, уваходзіць 15 чалавек: у першую чаргу высокакваліфікаваныя, вопытныя юрысты, а таксама грамадскія дзеячы, вядомыя палітыкі. Рашэнне аб лёсе злачынцы прымаецца звычайным галасаваннем — адкрытым, пайменным.

Як нам стала вядома, за апошнія два гады члены камісіі ні разу не змянілі асуджаным «расстрэльны» артыкул на больш мяккі. У далейшым рашэнне, прынятае камісіяй, паступае на стол Прэзідэнту. Апошняе слова за ім. У 1994—95 гадах кіраўнік дзяржавы не памілаваў ніводнага са злачынцаў, прыгаворных да выключнай меры пакарання.

## ПЕНСІЯНЕРЫ ЎСЁ ЯШЧЭ ЕЗДЗЯЦЬ ЗА ПАЎЦАНЫ

***Непрацуючыя пенсіянеры з вашай дапамогай хочуць даведацца, ці адменены кіраўніцтвам краіны льготы на аплату праезду ў аўтобусе ў межах свайго раёна. У Іўеўскім раёне гэтую льготу скасавалі.***

*Журкевіч В. Т., в. Лежневічы.*

Кіраўніцтва рэспублікі не адмяняла ўведзеную льготу. Мы звярнуліся ў Іўеўскі райвыканком. Адказ атрымалі наступны. Фінансаванне праезду ў прыгарадных аўтобусах ажыццяўляецца з бюджэту. Аднак гэтых сродкаў дастаткова, каб аплачваць праезд пенсіянераў толькі два дні ў тыдзень. Таму ў будныя дні льгота дзейнічае. А ў суботу і нядзелю аўтобус ператвараецца ў маршрутнае таксі: пенсіянеры, як і астатнія пасажыры, аплачваюць поўны кошт білета — 300 рублёў. 150 рублёў плацяць інваліды І групы і асобы, якія іх суправаджаюць, ветэраны Айчыннай вайны і воіны-«афганцы». Гэтае рашэнне райвыканкома дзейнічае з 1 сакавіка, тое ж самае адбываецца і ў іншых раёнах Гродзенскай вобласці. Калі адмовіцца ад такіх умоў, то прыйдзецца скасаваць колькасць дзён, калі ходзіць транспарт, да двух.

## ДАПАМОГА ДЗЕЦЯМ БЕЗ БАЦЬКОЎ ПАВЯЛІЧЫЛАСЯ

***Якімі правамі карыстаецца асоба, што аформіла апякунства дзіцяці? Ці ёсць у непаўналетняга дзіцяці якія-небудзь ільготы, акрамя таго, што яму выплачваюцца пенсія і дзяржаўная дапамога? Ці можна вярнуць грашовыя зберажэнні маці, якая памерла, для гэтага дзіцяці, узятага пад апеку з блізкага замежжа? Мая дачка памерла, яе муж асуджаны на 8 гадоў, а дзяўчынка жыве з намі, сваімі дзядулем і бабуляй. Мы афармілі апякунства. Унучцы плацяць усяго 215 тысяч рублёў пенсіі. Бачыце, які здзек над сіратой? Яна быццам бы вінаватая, што маці-урач мела нізкую зарплату.***

*Р. Івангові́ч, Магілёўская вобласць.*

Адказ на гэтае пытанне нам далі спецыялісты Міністэрства сацыяльнай аховы. Дзецям-сіротам выплачваюцца пенсія і грашовая дапамога. У адпаведнасці з пастановай N16-12/32 ад 31 студзеня 1996 года Міністэрства фінансаў і Міністэрства адукацыі з 1 студзеня бягучага года ў рэспубліцы ўведзеныя новыя грашовыя нормы матэрыяльнага забеспячэння дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў. Для выхавання дзяцей у дамах сямейнага тыпу і апякунскіх (прыёмных) сем'ях на адно дзіця выдзяляюцца штомесячныя грашовыя сродкі, памер якіх вызначаецца памнажэннем прыведзеных ніжэй каэфіцыентаў на ўстаноўлены памер мінімальнай заработнай платы:

| | Дашкольнага ўзросту | Школьнага ўзросту |
|---|---|---|
| Першы год выхавання | 7,0 | 9,0 |
| Другі год выхавання і наступныя гады | 6,0 | 8,0 |

Такім чынам, калі дзіцяці, напрыклад, пяць гадоў і яно знаходзіцца ў апякунскай сям'і першы год, то памер дапамогі роўны 700 тысячам рублёў у месяц.

Што тычыцца вяртання зберажэнняў маці, на гэтае пытанне спецыялісты Ашчаднага банка дакладнага адказу не далі. Зараз вядзецца вяртанне сродкаў у кожнай рэспубліцы самастойна, за ўклады ў іншых рэспубліках беларускі банк адказнасці не нясе.

Пры паступленні ў навучальныя ўстановы рэспублікі дзеці-сіроты карыстаюцца льготнымі правамі: яны залічваюцца ў першую чаргу.

## СТАРОНКІ КАЛЕНДАРА ВЯЛІКАЙ ФРАНЦУЗСКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ

***Студзень, люты, сакавік і г. д. Назвы месяцаў для нас натуральныя і прывычныя. А вось у канцы XVIII стагоддзя французскія рэвалюцыянеры вырашылі адмовіцца ад старога, традыцыйнага адліку часу. Дэкрэтам ад 5 кастрычніка 1793 года быў уведзены новы каляндар, у якім і месяцы года называліся па-новаму. Усё гэта мне добра вядома з падручнікаў. Але вось усе назвы месяцаў я не змог адшукаць, бо падрабязных даведнікаў цяпер цяжка знайсці...***

*З пісьма маладзечанца Л. Яфстаф'ева.*

Прыводзім назвы месяцаў французскага рэспубліканскага календара, паходжанне гэтых назваў і адпаведнікі ў звычайным, грыгарыянскім календары.

1. Вандэм'ер (франц. vendémiaire — ад лат. «збор вінаграду»): 22/23 верасня—21/22 кастрычніка.
2. Брумер (франц. brumaire — г. зн. «туманны»): 22/23 кастрычніка—20/21 лістапада.
3. Фрымер (франц. frimaire — г. зн. «імжысты»): 21/23 лістапада—20/22 снежня.
4. Нівоз (франц. nivôse — ад лат. «снежны»): 21/23 снежня—19/21 студзеня.
5. Плювіоз (франц. pluviôse — ад лат. «дажджлівы»): 20/21 студзеня—18/19 лютага.
6. Вантоз (франц. ventôse — ад лат. «ветраны»): 19/20 лютага—20/21 сакавіка.)
7. Жэрміналь (франц. germinal — ад лат. «парастак»): 21/22 сакавіка—19/20 красавіка.
8. Фларэаль (франц. floréal — ад лат. «квітнеючы»): 20/21 красавіка—19/20 мая.
9. Прэрыяль (франц. prairial — ад слова «луг»): 20/21 мая—18/19 чэрвеня.
10. Месідор (франц. messidor — ад лат. «жніво» і грэч. «дар»): 19/20 чэрвеня—18/19 ліпеня.
11. Тэрмідор (франц. thermidor — ад грэч. «цеплыня» і «дар»): 19/20 ліпеня—17/18 жніўня.
12. Фруктыдор (франц. fructidor — ад лат. «плод» і грэч. «дар»): 18/19 жніўня—16/17 верасня.

Праіснаваў французскі рэспубліканскі каляндар крыху больш за 12 гадоў — да 1 студзеня 1806 года.н

***Адказы на пытанні чытачоў «Звязды» падрыхтавалі Жанна Катлярова, Сяргей Куркач, Яўген Ляхаў, Анатоль Сланеўскі, Ігар Шчучэнка.***



## ЦІ ЁСЦЬ ПРОЦІЯДДЗЕ СУПРАЦЬ ТЭЛЕФОННЫХ ЗЛАДЗЕЯЎ?

***І сам аднойчы трапіў у непрыемную гісторыю, калі званіў па тэлефоне-таксафоне з дапамогай магнітнай карткі, ды яна правалілася, і чытаў не раз у газетах пра падобныя здарэнні... Няўжо няма ніякага проціяддзя супраць такога зладзейства, бо інакш як назваць сапсаваны настрой, згубленыя грошы, сарваныя сустрэчы і г. д.?***

*З тэлефоннага званка мінчаніна В. Папярэцкага.*

Кажуць, што канструктары, якія распрацоўвалі тэлефонныя магнітныя карткі, цяпер займаюцца распрацоўкай прыстасавання, якое не праглытвала б гэтыя карткі. Але калі тое свята будзе!

Аднак нездарма ва ўсе часы прафесіяналам-вынаходнікам процістаялі непрафесіяналы-рацыяналізатары. І першыя ластаўкі ад іх ужо прыляцелі.

Адзін з нашых чытачоў, які пажадаў застацца інкогніта, носіць з сабой у кішэні разам з магнітнай карткай... звычайныя канцылярскія сашчэпкі, але не металічныя, а пластмасавыя. Перад тым, як апускаць картку ў таксафон, ён чапляе на яе сашчэпку, і картка не правальваецца.

Другі — мінчанін В. Налімаў — носіць з сабой прышчэпку для бялізны (пластмасавую або драўляную; але не металічную — алюмініевую і да т. п.) і робіць гэтак жа: перад апусканнем карткі ў гняздо таксафона чапляе на яе прышчэпку.

## У БЕЛАРУСІ ІСОП НЕ РАСЦЕ І Ў АПТЭКАХ НЕ ПРАДАЕЦЦА

***Я хварэю на бранхіальную астму, і мясцовыя і сталічныя ўрачы раяць мне піць адвар расліны ісоп. Але знайсці ў беларускіх аптэках гэтую траву немагчыма, відаць, таму што яна расце ў паўднёвай частцы былога СССР. Падкажыце, дзе можна яе набыць.***

*Міхаіл Іванавіч ГЛУСКІ, жыхар г. Ліда.*

Як паведамілі карэспандэнту газеты ў аддзеле фармацыі Міністэрства аховы здароўя, трава ісоп не ўключана ў спіс лекавых раслін, якія выкарыстоўваюцца ў медыцынскай практыцы. Яна вядома толькі як сродак народнай медыцыны. Таму ў аптэках гэтую траву шукаць бессэнсоўна — яе не завозяць. Звярніцеся да народных лекараў, магчыма, яны вам дапамогуць.

# ЗАЯВА
# ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

У сувязі з неабгрунтаванымі абвінавачаннямі, што прагучалі ў інфармацыйнай тэлепраграме «Панарама» 17 красавіка 1996 года ў адрас Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, аб затрымцы выплаты заработнай платы работнікам бюджэтнай сферы быццам бы па прычыне несвоечасовага прыняцця бюджэту на гэты год вышэйшым заканадаўчым органам краіны, Вярхоўны Савет заяўляе наступнае.

Сцвярджэнне аб тым, што затрымка з прыняццем бюджэту на 1996 год адбылася па віне Вярхоўнага Савета, поўнасцю не адпавядае рэчаіснасці. Праект Закона «Аб дзяржаўным бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1996 год» быў прадстаўлены выканаўчай уладай для абмеркавання на сесіі з парушэннем устаноўленага законам тэрміну і двухмесячным спазненнем. Вярхоўны Савет своечасова завяршыў разгляд праекта бюджэту.

Такія тэндэнцыйныя паведамленні, што неаднаразова распаўсюджваліся Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніяй Рэспублікі Беларусь, дыскрэдытуюць дзейнасць вышэйшага заканадаўчага органа краіны. Вярхоўны Савет даручае Генеральнаму пракурору Рэспублікі Беларусь правесці праверку па гэтаму факту, прыняць меры рэагавання і прыцягнуць да адказнасці вінаватых у распаўсюджванні заведама лжывай інфармацыі.

Звяртаем увагу Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на абуральныя факты дэзінфармацыі грамадзян, што сістэматычна распаўсюджвае Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія Рэспублікі Беларусь.

**Прынята на сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 18 красавіка 1996 года.**

***«ЧЫРВОНЦЫ» — 75***

***Аляксандр САЛАМАХА:***

## «ГАЛОЎНУЮ ЗАДАЧУ ГАЗЕТЫ МЫ БАЧЫМ У ВЫХАВАННІ Ў МОЛАДЗІ ЛЮБОВІ ДА БЕЛАРУСІ, ПАВАГІ ДА АЙЧЫННАЙ ГІСТОРЫІ, У ФАРМІРАВАННІ САПРАЎДНАГА ПАТРЫЯТЫЗМУ»

***У кожнага з журналістаў была першая заметка. Была і ёсць. Многія першыя заметкі «звяздоўцаў» друкаваліся на старонках «Чырвонай змены». Сёння «Чырвонцы» спаўняецца 75 гадоў. Віншуючы газету-паплечніцу, прапануем увазе чытачоў невялікую гутарку з галоўным рэдактарам «Чырвонай змены» Аляксандрам Саламахам.***

**— Аляксандр Пятровіч, зразумела, што па сённяшнім часе не да юбілейных размоў. Але ўсё ж такі 75 гадоў — такая дата, такая лічба, што ўвагай яе ніяк не абысці. Што ні кажы, падзея з вялікай літары. Можна толькі падзівіцца, колькі нумароў за гэты час выйшла, колькі рэдактараў змянілася...**

— 1921 год... Гэта не тое што далёка. Гэта вельмі далёка. Пачыналася ж «Чырвонка» з «Красной смены». Так, не здзіўляйцеся, газета спярша выдавалася на рускай мове. Увогуле, той даўні час, вядомы нам па многіх гісторыка-дакументальных згадках, па мемуарных занатоўках моладзі 20-х, варты сапраўднага рамана. Услед за «Красной сменой» пачалі выдавацца «Малады араты», «Юнгер арбетэр», «Гвезда млодзежы» (апошнія дзве газеты — на яўрэйскай і польскай мовах адпаведна), ды і вядомы часопіс «Маладняк». Усе рэдакцыі месціліся ў адным пакойчыку ў будынку ЦК ЛКСМБ. І для ўсіх быў адзін пісьмовы стол.

Калі гаварыць пра змест тагачаснай «Чырвонкі», то ён быў на дзіва лозунгавы. Але, відаць, заклікаў, рашучасці патрабаваў той час.

**— У свой час — напрыканцы васьмідзесятых — «Чырвонка» выразна акрэсліла сваю адраджэнцкую пазіцыю. Ці не забываецеся на беларускасць зараз?**

— Ізноў жа вярнуся да гісторыі. Стаўшы беларускай газетай па мове, «Чырвоная змена» заўжды ішла да чытача з беларускім духам, прапагандавала беларускую культуру, гісторыю нашай Айчыны. Якраз «Чырвонцы» ў свой час давервылі свае першыя радкі Пятро Глебка, Пятрусь Броўка, Паўлюк Трус, Мікола Хведаровіч. Наўрад ці трэба чытачу «Звязды» тлумачыць ролю і месца гэтых пісьменнікаў у гісторыі беларускай літаратуры.

А што да размовы пра сённяшні дзень, то пагартайце «Чырвонку». Кожны наш нумар — гэта няхай сабе і сціплы, але ўсё ж такі ўнёсак у падмурак агульнага беларускага дома. Звярніце ўвагу на раздзел «Сто пытанняў па гісторыі Беларусі». Чым не своеасаблівы падручнік, па якім можна і да школьных заняткаў рыхтавацца, які і ў студэнцкай рабоце выкарыстаць не лішне. Шмат змяшчаем матэрыялаў пра нашых славутых землякоў, друкуем артыкулы, прысвечаныя моўным пытанням. Ёсць і раздзел «Крыніцы» — у ім першыя крокі ў вялікую літаратуру робяць маладыя паэты і празаікі.

**— Колькі слоў пра палітычную пазіцыю газеты... Як-ніяк ваш тыраж у 73 тысячы 974 экземпляры даволі выразна сведчыць пра чытацкую падтрымку.**

— Заснавальнікам нашай газеты з'яўляецца ЦК Беларускага Саюза моладзі — самай шматлікай і ўплывовай маладзёжнай арганізацыі. На моладзь мы, безумоўна, найперш і працуем. Імкнёмся выконваць тыя задачы, што акрэслены ў дзяржаўнай праграме «Моладзь Беларусі». Што датычыць палітычных перакананняў, то кожны з супрацоўнікаў «Чырвонкі» ўсведамляе: мы павінны несці да чытача аб'ектыўнасць, працаваць на ісціну. Безумоўна, навакольны свет, падзеі вызначаюцца шматграннасцю. Але ж газета не павінна перадаваць, тыражыраваць крайнасці. З моладдзю, якая таксама ж розная, трэба быць шчырым, кампетэнтным. Вось і стараемся пра палітыку гаварыць вуснамі спецыялістаў-палітолагаў, аналітыкаў.

**— Застаецца яшчэ раз павіншаваць вас і пажадаць, каб з кожным годам шырэйшым, багацейшым станавілася кола чытачоў «Чырвонкі». З юбілеем вас і ўвесь калектыў любімай і «звяздоўцамі» старэйшай беларускай маладзёжнай газеты!**

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

***АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ***

# ПЕСНЯ МАРЫНЫ

У 1958 годзе на экраны краіны выйшла мастацкая стужка «Гадзіннік спыніўся апоўначы», створаная на кінастудыі «Беларусьфільм». У аснову яе сюжэта леглі падзеі, якія адбыліся ў Мінску 22 верасня 1943 года: па заданню партызанскага камандавання магнітнай мінай быў знішчаны гітлераўскі стаўленік — генеральны камісар Беларусі Вільгельм Кубэ. Падрыхтоўка да выканання прыгавору беларускага народа склала канву кінастужкі.

У фільме гучыць песня. Яна арганічна ўведзена ў сюжэт кінатвора і з'яўляецца не толькі яго прыўкрасай, але і адным з напружаных момантаў у разгортванні дзеяння. Галоўная гераіня Марына вымушана спяваць перад нямецкімі афіцэрамі.

Аўтары песні вызначылі для яе яшчэ адну ролю ў фільме: песня стала дамінуючым акордам у высвятленні адносінаў між людзьмі, вытлумачэнні лагічнасці іх паводзінаў. Яна прагучала як гімн любові — таму высакароднаму пачуццю, якое актыўна ўплывае на выяўленне сутнасці асобы, на рэалізацыю прадвызначаных прыродаю яе задаткаў. Людзі народжаны ствараць хараство ў самых разнастайных яго формах, несці радасць адно аднаму. І любоў асвятляе ім шлях, пабуджае дакладна акрэсліцца ў выбары, дапамагае суаднесці дзеянні з пачуццямі. Любоў да Радзімы патрабуе незвычайнай рызыкі і самаахвярнасці.

Паэт знайшоў вельмі трапнае параўнанне — любоў і песня. Яны заўсёды з чалавекам. Яны нараджаюцца ў яго душы, зберагаюцца там і абедзве выяўляюцца ў душэўных парываннях. Мелодыя адпавядае паэтычнаму тэксту. Кампазітар зрабіў акцэнт на праўдзівасці ўзнаўлення пачуццяў і настрою. Песня пачынаецца запаволена, выразна адчувальныя інтанацыі трывогі, аднак паступова ў мелодыі выяўляюцца новыя рысы: спакойнасць, перакананасць, упэўненасць. Па перадачы глыбіні пачуццяў,

## ПЕСНЯ МАРЫНЫ

**Верш Адама РУСАКА** **Музыка Ісака ЛЮБАНА**

*Не магу я знайсці тое слова,*
*Каб красу расказала тваю.*
*Не магу я знайсці тое слова,*
*Каб любоў расказала маю.*

*Не магу параўнаць цябе з зоркай*
*Днём не свеціць яна над зямлёй.*
*Не магу параўнаць цябе з кветкай, —*
*Не цвіце ў садзе кветка зімой.*

*Не магу параўнаць я і з сонцам*
*Тваіх ясных, агністых вачэй, —*
*Бо не свеціць і сонца з нябёсаў*
*Яркім светам у цемры начэй.*

*Толькі з песняй цябе параўнаю,*
*Што у сэрцы сваім берагу,*
*Тую песню я вечна спяваю.*
*Без той песні я жыць не магу.*

меладычнай распрацоўцы гэтая песня мяжуе з рамансам. Мабыць, гэтая адметнасць паўплывала на выбар назвы вакальнага твора (імя выканаўцы ўвайшло ў загаловак; прыгадаем аналагічнае: «Песня Рошчына» з рускага фільма «Розны лёс», у якой таксама меладычныя інтанацыі, блізкія да раманса).

Імёны аўтараў песні — кампазітара Ісака Любана і паэта Адама Русака — добра знаёмы насельнікам неабсяжнага Саюза. Песня «Бывайце здаровы», напісаная ў 1937 годзе (тэкст на рускую мову пераклаў М. Ісакоўскі) трывала ўвайшла ў побыт савецкага люду. Папулярнасць набылі іх сумесныя вакальныя творы «Толькі з табою», «Не шукай», «Не шуміце, клёны».

З цягам часу адбылося пераасэнсаванне зместу песні. Яе патрыятычны запал, што выяўляўся ў кінафільме «Гадзіннік спыніўся апоўначы», адышоў на другі план. Цяпер песня адрасуецца каханай асобе. У рускамоўным тэксце (пераклад зрабіў М. Лапіраў) аповяд вядзецца ад імя юнака, таму яе можна пачуць у мужчынскім выкананні (што і робяць маскоўскія акцёры). Песня засталася служыць любові, каханню.

**Міхась ШВЫРКІН.**

*«Песня Марыны» змяшчаецца па просьбе Алены Нікіфаравай, навучэнкі 2-га курса Маладзечанскага вучылішча будаўнікоў. У падборы песеннага рэпертуару раім нашым чытачам перагарнуць старонкі часопіса «Роднае слова», у якім з 1991 года шырока публікуюцца песні (народныя, літаратурнага паходжання, бардаўскія), а з вераснёўскага нумара за 1995 год падаюцца матэрыялы (з нотнымі ілюстрацыямі) па гісторыі беларускага рамансa.*





## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца малавоблачнае, без ападкаў надвор'е. Тэмпература паветра ў Мінску, Магілёве, Віцебску — 15—17, Гродне, Гомелі — 17—19, Брэсце — 18—20 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак чакаецца пераменная воблачнасць, без ападкаў. Тэмпература ўначы 3—8, удзень 21-га — 16—21, 22-га — 18—23 градусы цяпла.

### МЕДЫЦЫНСКІ ПРАГНОЗ НАДВОР'Я НА 20 КРАСАВІКА

Надвор'е істотна не зменіцца. У такіх умовах магчыма пагаршэнне самаадчування ў метэазалежных хворых, якія рэагуюць на неспрыяльныя ўмовы па геафізічных фактарах (20 красавіка — неспрыяльны дзень, наступны — 23-га).

У мэтах прафілактыкі рэкамендуецца захоўваць ашчадлівы рэжым, прытрымлівацца дыеты, прымаць заспакаяльныя сродкі (настойкі валяр'яну, півоні, сардэчніку) і полівітаміны, што ўтрымліваюць у сваім саставе вітаміны А і Е.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

«ПРАМАЯ ЛІНІЯ»

# На пытанні чытачоў «Звязды» адказвае міністр спорту і турызму Рэспублікі Беларусь Уладзімір РЫЖАНКОЎ



**Сённяшняе жыццё цяжка сабе ўявіць без спорту. Гэта датычыцца як вялікага спорту ў цэлым, так і звычайнай фізкультуры.**

**Нягледзячы на малады ўзрост, Беларусь ужо паспела заявіць аб сабе ў свеце. І гэта не пустыя словы. Спіс славутых імён пасля набыцця самастойнасці ўзначаліў герой Барселонскай алімпіяды гімнаст Віталь Шчэрба. Потым былі іншыя перамогі айчыннай гімнастыкі, біятлона, цяжкай і лёгкай атлетыкі, футбола, баскетбола. Дысцыпліны, дзе нашы спартсмены дабіліся значных поспехаў на міжнародных спаборніцтвах, можна пералічваць яшчэ.**

**Да нядаўняга часу ўся спартыўная індустрыя рэспублікі была пад апекай Камітэта па спорту, які знаходзіўся пры міністэрстве культуры і друку. Інакш кажучы, беларускі спорт, які сваімі дасягненнямі часам рабіў у свеце значна больш, чым дыпламаты і палітыкі, не меў свайго статусу і знаходзіўся ў ролі таварнага вагона ў вялікім пасажырскім цягніку.**

**Час расставіў усё па сваіх месцах. Указам Прэзідэнта Рэспублікі Аляксандра Лукашэнкі спартыўнае ведамства рэспублікі стала паўнацэнным міністэрствам, пад крыло якога трапіў і турызм.**

**Правапераемнікам старшыні Камітэта па спорту Уладзіміра Рыжанкова стаў сам жа спадар Рыжанкоў.**

**«Звязда» апошнім часам удзяляе даволі шмат увагі поспехам нашых спартсменаў і спартыўным падзеям, якія адбываюцца як унутры Беларусі, так і за яе межамі. Неаднаразова на яе старонках выступаў і Уладзімір Рыжанкоў. Таму, відаць, не дзіўна, што Уладзімір Мікалаевіч, атрымаўшы партфель Міністра спорту і турызму, з'яўляючыся да таго ж прэзідэнтам Нацыянальнага алімпійскага камітэта, згадзіўся правесці на новай пасадзе «прамую лінію» з чытачамі і аматарамі спорту і турызму менавіта ў «Звяздзе». Кіраўніку спартыўнага ведамства паступілі дзесяткі тэлефонных званкоў і пытанняў. Найбольш цікавыя з іх і адказы міністра мы сёння друкуем.**

**— Уладзімір Мікалаевіч, яшчэ некалькі месяцаў таму ваша ведамства называлася Камітэтам па спорту. Сёння яно з'яўляецца Міністэрствам спорту і турызму. Ці змянілася ў сувязі з перайменаваннем спартыўная палітыка дзяржавы?**

***Уладзімір Крыксін,***
***г. Горкі, Магілёўская вобласць.***

— З наданнем нам статусу міністэрства, безумоўна, павысіўся ўзровень выканання тых задач, якія стаяць перад спортам і фізічным выхаваннем. Калі раней мы былі Камітэтам па спорту пры Міністэрстве культуры, то не маглі самастойна вырашаць сур'ёзныя пытанні.

У Палажэнні аб Міністэрстве спорту прадугледжаны зусім іншы ўзровень кіравання сістэмай развіцця фізкультуры і спорту. Сёння рашэнне міністэрства абавязковае для ўсіх ведамстваў, што займаюцца пытаннямі развіцця фізкультуры і спорту.

**— Як будзе развівацца на дзяржаўнай аснове турызм? Вакол жа столькі прыватных, камерцыйных турыстычных фірмаў і агенцтваў. Гэта ж вашы канкурэнты.**

***Валянцін Хлебавец.***
***г. Ружаны.***

У Беларусі доўгі час не было дзяржаўнага рэгулявання турызму, яго развіцця. І вось зараз, пасля стварэння Міністэрства спорту і турызму, такая задача пастаўлена.

Мы маем намер стварыць дзяржаўную турыстычную кампанію, якая разам з іншымі фірмамі будзе займацца развіццём турызму ў рэспубліцы.

Пра нейкую канкурэнцыю не можа ісці і размовы, паколькі міністэрства будзе выступаць у якасці кіруючага органа для ўсіх турыстычных фірмаў і ўплываць на іх палітыку. А рэгуляванне гэта будзе адбывацца шляхам ліцэнзавання турагенцтваў і выдачы ваўчэраў на гэты від дзейнасці. Не думаю, што ўсе 1300 турыстычных фірмаў, якія маюць сёння дазвол на турыстычную дзейнасць у рэспубліцы, кампетэнтна і на высокім узроўні займаюцца гэтай справай.

Вы паглядзіце: наш выязны турызм ператварыўся сёння ў камерцыйна-мяшэчны ваяж. Хіба гэта парадак?

А самая галоўная задача турызму — добра адпачыць, набрацца ўражанняў, азнаёміцца з гістарычнай спадчынай той ці іншай краіны, яе традыцыямі.

Дарэчы, гэта датычыцца як цудоўных месцаў за мяжой, так і ў Беларусі. На жаль, нашы турыстычныя агенцтвы працавалі ўвесь час у асноўным на вываз людзей за мяжу. А прыёмам замежных грамадзян фактычна ніхто сур'ёзна не займаўся. Таму мы ставім сёння перад сабой задачу выправіць гэтую хібу ў турыстычнай дзейнасці рэспублікі.

А наогул, Міністэрства спорту і турызму будзе тым органам, які прымусіць усе фірмы, якія пройдуць перарэгістрацыю, ствараць якасны сервіс: нашым грамадзянам — за мяжой, а іншаземцам — у нас.

**— Вам не здаецца, што з турыстычнай дзейнасцю сітуацыя ў рэспубліцы дзіўная? Калі больш дакладна, то нават парадаксальная. У Туніс ці на Кіпр прасцей выехаць беларусу праз Польшчу, чым з Беларусі.**

***Сяргей Арлоўскі,***
***г. Мінск.***

Так, вы маеце рацыю. І тут існуе шмат прычын, чаму так склалася. Адна з іх — у нас пакуль не адпрацаваны пытанні атрымання візы, каб чалавек мог хутка выехаць за межы краіны. Наогул, у «выязной справе» нашы турагенцтвы яшчэ пазналі далёка не ўсе сакрэты. А калі дадаць сюды той фактар, што турыстычнай гаспадарцы Беларусі не хапае аўтобусаў, самалётаў і іншага транспарту, то стане ясна, чаму многія нашы грамадзяне свой адпачынак арганізоўваюць транзітам праз некаторыя дзяржавы.

Думаю, што нядаўна створанае Міністэрства спорту і турызму і будзе вырашаць гэтыя задачы. Спадзяюся, што ў пытаннях пагранічнага і мытнага кантролю, а таксама ў прававых нам дапамогуць іншыя зацікаўленыя Міністэрствы і ведамствы.

**— Ці рыхтуюць у Беларусі спецыялістаў па турызму? Мая дачка тры гады займаецца французскай мовай і добра ведае яшчэ дзве замежныя мовы. Хацела б паспрабаваць сябе ў якасці турыстычнага работніка.**

***Людміла Пятніца,***
***г. Лунінец.***

— У Беларусі ёсць некалькі навучальных установ, якія рыхтуюць спецыялістаў па турызму. Гэта Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт (былы інстытут народнай гаспадаркі), які займаецца падрыхтоўкай работнікаў фінансава-эканамічнага профілю для турызму. А Акадэмія фізічнага выхавання будзе рыхтаваць арганізатараў турысцкай дзейнасці, уключаючы туды самадзейны, мясцовы і міжнародны турызм.

Больш таго, пры БДЭУ існуе Вышэйшая турыстычная школа, якая спецыялізуецца на падрыхтоўцы экскурсаводаў і спецыялістаў іншых спецыяльнасцей, звязаных з турызмам.

Яшчэ ў Беларусі ёсць дзве-тры камерцыйныя ВНУ, якія спрабуюць рыхтаваць турыстычныя кадры. Але гэтыя ўстановы яшчэ не прайшлі праверку ў Міністэрстве спорту і турызму. Гэта значыць, што іх планы па падрыхтоўцы такіх спецыялістаў не зацверджаны.

Нагадаю, што тыя патэнцыяльныя турыстычныя работнікі, якія праходзяць навучанне ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце, вывучаюць дзве замежныя мовы і па заканчэнні курсаў павінны атрымаць дыплом рэферэнта замежных моў.

**— У сувязі з перайменаваннем Камітэта па спорту ў Міністэрства спорту і турызму наколькі павялічыўся штат яго работнікаў?**

***Сяргей Дзікі,***
***Віцебская вобласць.***

У нас не раздуты штат — работнікаў усяго 85 чалавек і рабіць упор на колькасць у бліжэйшы час мы не збіраемся. Наша мэта — працаваць эфектыўна. У параўнанні з іншымі міністэрствамі мы выглядаем даволі сціпла. Не забывайце, што наша міністэрства курыруе яшчэ і турызм. На гэту галіну працуюць каля 20 чалавек.

**— Уладзімір Мікалаевіч, крыху больш чым праз тры месяцы ў Атланце стартуюць XXVI летнія Алімпійскія гульні. Колькі ліцэнзій атрымалі нашы спартсмены? Якой па колькасці будзе беларуская спартыўная дэлегацыя і хто будзе яе ўзначальваць?**

***Сяргей Бальшакоў,***
***студэнт. Магілёўская вобласць.***

На сённяшні дзень Беларусь мае больш як 140 ліцэнзій амаль у 20 відах спорту. Праўда, гэта яшчэ не мяжа. Атрымаць права на паездку ў ЗША могуць весляры на байдарках і каноэ, якія няўдала выступілі на нядаўнім чэмпіянаце свету ў Фінляндыі, дзе разыгрываліся пуцёўкі за акіян. Цяпер ім трэба паказаць сваё майстэрства на першынстве кантынента.

Акрамя таго, пару ліцэнзій могуць атрымаць весляры «акадэмікі», ну, і яшчэ некалькі пуцёвак па іншых відах спорту.

Звыш 140 ліцэнзій рэспубліка будзе мець. Аднак гэта яшчэ не значыць, што ўсе спартсмены змогуць паехаць на Алімпіяду. Квоту для кожнай з краін—удзельніц Алімпійскіх гульняў вызначае Арганізацыйны камітэт Алімпійскіх гульняў. Дзесьці ў чэрвені 1996 года, напярэдадні Гульняў, аргкамітэт аб'явіць нам, колькі чалавек мы зможам адправіць у Атланту. Думаю, што гэта лічба не вельмі будзе адрозніваца ад колькасці ліцэнзій.

Успомнім зімовыя Гульні ў Лілехамеры. Тады Беларусь магла выставіць 40 спартсменаў, аднак квота раўнялася 33.

Калі нам прыйдзецца скарачаць спіс атлетаў, то ў першую чаргу пад скарачэнне трапяць тыя віды спорту, у якіх мы не маем вялікіх шанцаў на паспяховае выступленне ці ў нас няма там багатых традыцый.

Калі меркаваць, што за акіян змогуць адправіцца 140 спартсменаў, прыбавім сюды трэнераў, масажыстаў, дактароў, журналістаў і членаў афіцыйнай дэлегацыі, то алімпійскі спіс будзе налічваць прыкладна 220 чалавек.

Дэлегацыю згодна з Алімпійскай хартыяй узначальвае прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта. Значыць, у ролі кіраўніка ў Атланце буду я.

**— Скажыце, калі ласка, у якіх відах спорту на летняй Алімпіядзе мы маем найбольшыя шанцы заваяваць медалі?**

***Васіль Курыль,***
***г. Віцебск.***

— Наогул, не хацелася б раней часу раскрываць карты і рабіць прагнозы. Тым не менш, паспрабую абмаляваць сітуацыю. Сёння ў нас ёсць добрыя шанцы заваяваць узнагароды ў спартыўнай і мастацкай гімнастыцы, цяжкай і лёгкай атлетыцы, кулявой стральбе, вольнай і грэка-рымскай барацьбе, дзюдо. Магчыма, яшчэ нешта з'явіцца. На жаль, у гульнявых відах спорту мы не атрымалі ліцэнзій. І гэта не толькі бяда Беларусі. Краіны былога Саюза таксама засталіся амаль без ліцэнзій у гэтых дысцыплінах.

**— Ці праўда, што Міністэрства спорту і турызму фінансуе ўсе віды спорту па-рознаму? Калі так, то чаму?**

***Ігар Лях,***
***Слонім.***

— Сапраўды, у Міністэрстве спорту і турызму існуе пэўная градацыя ў фінансавым забеспячэнні спартыўных федэрацый. І вось чаму. Думаю, вы пагодзіцеся, што тыя віды спорту, якія маюць багатыя традыцыі, а спартсмены рэгулярна заваёўваюць медалі самай рознай вартасці, маюць большыя правы на падтрымку, чым тыя, дзе мы ездзім толькі дзеля «птушачкі».

Умоўна ўсе дысцыпліны падзелены на тры групы. Пра першую я ўжо сказаў. Гэта спартыўная і мастацкая гімнастыка, біятлон, лёгкая атлетыка і некаторыя іншыя. Іх мы, можна сказаць, фінансуем поўнасцю.

Ёсць віды спорту, якія атрымліваюць значна меншую дапамогу, таму што поспехі іх куды больш сціплыя. Гэта футбол, гандбол, баскетбол, хакей і некаторыя іншыя гульнявыя дысцыпліны.

Ну, і да трэцяй катэгорыі я аднёс бы віды, якія ў Беларусі не маюць асаблівай папулярнасці. Праўда, па меры патрэбы мы аказваем спартсменам — веласіпедыстам, коннікам — маральную падтрымку. Яны развіваюцца ў асноўным самастойна і фінансуем мы іх у выключных выпадках: пры паездках на чэмпіянаты свету, Еўропы.

Як вы зразумелі, у Беларусі ўсім відам спорту ёсць месца. І мы ніколі не будзем казаць пра ліквідацыю той ці іншай дысцыпліны.

Аднак пры абмежаваным дзяржаўным фінансаванні Міністэрству спорту і турызму да кожнай з федэрацый трэба захоўваць дыферэнцыраваны падыход. Інакш спартыўны бюджэт не падзеліш.

**— Уладзімір Мікалаевіч, зараз многія кажуць, што ў Беларусі спорт захаваўся дзякуючы саюзнай школе і нашы поспехі ў спорце прыходзяць як бы па інерцыі. Што ў такім разе чакае нас праз 5—7 гадоў?**

***Васіль Падгарадзецкі,***
***Гомельская вобласць, пенсіянер.***

На маю думку, нельга поспехі ў спорце ў Беларусі сувымяраць з поспехамі ў былым Саюзе.

Вядома, мы павінны сёння імкнуцца да таго, каб нашы спартсмены выступалі як мага лепш. Але беларускія балельшчыкі і аматары спорту не павінны забываць, што наша краіна мае крыху больш за 10 мільёнаў насельніцтва. І поспехі яе трэба параўноўваць з такімі краінамі, як Венгрыя, Галандыя, Бельгія, Румынія. Мы ж не павінны забываць і пра эканамічны стан рэспублікі.

Сёння ў нас сапраўды вельмі складаны перыяд пераходу ад былога Саюза да самастойнасці, ад таталітарнай сістэмы кіравання спортам да грамадскага кіравання.

Тым не менш, час паказвае, што зараз у Беларусі з'явілася многа спартсменаў, якія пры Саюзе не былі задзейнічаны. Яны сябе раскрылі непасрэдна тут. Патрэбны прыклады — калі ласка. Гімнаст Іван Іванкоў, фрыстайлісты Васіль Вараб'ёў і Аляксей Парфянкоў, многія біятланісты. Дарэчы, пра фрыстайл хочацца сказаць асобна. Пры Саюзе ў нас ён амаль не культываваўся. А сёння Вараб'ёў і Парфянкоў заваёўваюць высокія месцы на міжнародных спаборніцтвах самых розных рангаў. Па выніках 1995 года каманда Беларусі па фрыстайлу стала 4-й у свеце. Ці не гэта з'яўляецца доказам таго, што ў Беларусі ёсць свая школа выхавання спартсменаў высокага класа.

Пры абмежаванасці дзяржаўнага фінансавання мы павінны выбраць найбольш зручныя для нас віды спорту (фрыстайл, біятлон, лыжныя гонкі і некаторыя іншыя) і ўкладваць у іх грошы. Такі падыход будзе разумным, паколькі ў рэспубліцы для развіцця гэтых дысцыплін ёсць база, кадры.

**— Чаму нашу рэспубліку на многіх міжнародных спаборніцтвах называюць «Вайс Русланд», «Хайс Русланд», г. зн. Белая Русь, а не Беларусь. Тут, відаць, упушчэнне вашага ведамства?**

***Тамара Сыч,***
***г. Брэст.***

— Не пагаджуся з вам наконт таго, што гэта ўпушчэнне Міністэрства спорту і турызму. Я сказаў бы, што гэта агульнае ўпушчэнне ў сістэме прызнання нашай дзяржавы.

На тых жа Алімпійскіх гульнях у Лілехамеры нам прыйшлося вытрымаць косыя погляды арганізатараў і выйграць у іх няроўны паядынак за тое, каб наша краіна называлася не «Хайс Русланд» (гэта па-нарвежску), а Беларусь.

Ведаеце, у іншаземцаў яшчэ застаецца паняцце, што Беларусь — гэта частка Расіі. Ад гэтага і ўсе непаразуменні.

Міністэрства са свайго боку зрабіла ўсё неабходнае, каб такія міні-інцыдэнты не паўтараліся. Ва ўсе міжнародныя федэрацыі пасланы ўзоры нацыянальнага сцяга і атрыбутыкі.

На жаль, яшчэ праяўляюцца такія негатывы. І не толькі з боку іншаземцаў. На гэтым падчас праколваецца і айчыннае тэлебачанне. Памятаю, у мінулым годзе на знакамітым «Славянскім базары», які традыцыйна праходзіць у Віцебску, падчас выступленняў беларускіх артыстаў на экране з'явілася застаўка нашага старога сцяга. Тут, як кажуць, абыдземся без каментарыяў.

**— У свеце сённяшняй інтэграцыі з Расіяй як будзе далей жыць беларускі спорт? Ці не праглыне яго расійскі?**

***Пётр Старкоў,***
***Лельчыцкі раён.***

Справа ў тым, што інтэграцыя з Расіяй, як мне здаецца, не прадугледжвае змяншэння і страты аўтарытэту рэспублікі ў спорце і яе суверэнітэту. Таму мы як выступалі асобнай камандай на чэмпіянатах Еўропы і свету, Алімпійскіх гульнях і іншых міжнародных спаборніцтвах, так і далей будзем выступаць. І асцерагацца няма чаго.

Мне здаецца, што якая б ні была інтэграцыя, спорт застанецца самастойным. Прыклад таму — Вялікабрытанія, у састаў якой, як вядома, уваходзяць Англія, Шатландыя і Уэльс. Аднак усе гэтыя дзяржавы на спаборніцтвах могуць выступаць асобнымі камандамі. Ад такой інтэграцыі наша дзяржава стане толькі эканамічна мацнейшай.

**— Нядаўна прачытаў у «Звяздзе», што нашы спартсмены перад Алімпіядай збіраюцца прайсці допінг-кантроль дома. Няўжо ў нас будзе свая спартыўная лабараторыя? У такім разе колькі гэта будзе каштаваць?**

***Іван Стульскі,***
***г. Шчучын, Гродзенская вобласць.***

— Сапраўды, Міністэрства спорту і турызму збіраецца купіць такую лабараторыю, прынцыпы работы якой заснаваны па знакамітай методыцы нямецкага прафесара Доніке, і якая будзе прымяняцца і на Алімпійскіх гульнях у Атланце. Прынцып дзеяння лабараторыі грунтуецца на метадзе спектральнага аналізу, які дазваляе вызначыць сляды ўжывання анаболікаў з дакладнасцю да 120 дзён. Я думаю, што калі мы купім такую лабараторыю, то ўжо ў канцы красавіка-пачатку мая яна зможа прыняць першых «наведвальнікаў».

**Матэрыялы «Прамой лініі» падрыхтаваў Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**
**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

***(Заканчэнне будзе.)***

# ПАЎНОЧНЫ ПЕРАХОД

**Наш карэспандэнт пабываў на Браслаўскай мытні**

Заснаваны ў пачатку адзінаццатага стагоддзя Браслаў ад самых першых дзён свайго існавання як месца ўмацаванага і населенага выконваў ролю абарончага пункта на паўночным захадзе Полацкага княства. Найпершае значэнне ў гэтым паселішчы меў Замак. Ды і сам герб горада «Вока прадбачання» (выява чалавечага вока ў трохвугольніку на фоне сонечных праменяў) у нечым атаясамліваецца з вокам памежніка, мытніка, чалавека, які стаіць на варце інтарэсаў дзяржавы ў гэтым фарпосце славянскай дзяржавы. Памежны горад, адным словам. Стагоддзі яго існавання былі якраз і звязаны з рознымі і самымі непрадказальнымі стасункамі памежнага існавання.

Так сталася, што Браслаў і сёння фарпост — своеасаблівыя вароты якія вядуць нашага чалавека ў Прыбалтыку, у землі нядаўна яшчэ вельмі блізкія і саюзныя, а сёння ўжо закрытыя на досыць надзейны замок, туды, дзе арыентацыя не на саюзы, аб якіх так шмат сёння гаворыцца, а на саюзы іншага паходжання.

Так атрымалася, што я больш і лепш знаёмы з беларуска-літоўскім памежжам, пра гэта і пісаць даводзілася больш. Таму ў час гэтага наведвання Браслава, Браслаўскай мытні стараўся больш уважліва прыглядзецца да беларуска-латышскай мяжы, да міжнароднага пераходу «Урбаны» ў прыватнасці, хаця ёсць у Браслаўскай мытні і пераход на літоўскую тэрыторыю.

Браслаўская мытня некалькі дзён назад справіла сваё чатырохгоддзе. Хаця да гэтай гадавіны ў новае памяшканне адміністрацыя не перасялілася — не хапае ўсё-такі сродкаў — наваселле не за гарамі. Будаўніцтва ідзе поўным ходам. Але затое самі пераходы абсталяваны як мае быць. У тых жа «Урбанах» праз некалькі дзесяткаў метраў — латышскія збудаванні. І яны вельмі ўступаюць нашым. Неяк, расказваюць, наведала наш пераход іхні міністр фінансаў — там мытнікі падпарадкаваны гэтаму ведамству — і вельмі-вельмі захаплялася нашым збудаваннем, умовамі, у якіх працуюць і адпачываюць беларускія мытнікі, пагранічнікі. У іх такіх грошай няма. У нас знайшліся ў свой час. І тут, мне здаецца, трэба нарэшце пераадолець мяшчанскі падыход да тых, хто стаіць сёння на межах нашай дзяржавы: маўляў, чарговыя захрыбетнікі — более іх. Розныя тут могуць быць меркаванні, але калі ўжо мы сталі самастойнай дзяржавай — то і самастойнасць гэтую павінны сцвярджаць у поўнай меры. А Браслаўскую мытню, дарэчы, ніяк нельга аднесці да «захрыбетнікаў». Летась яна дала дзяржаве больш як два мільярды рублёў. На свае патрэбы пакідае дзесяць працэнтаў гэтай сумы.

Трэба шчыра сказаць, што ў першыя месяцы стварэння мытні і ў мясцовага кіраўніцтва да яе было стаўленне больш чым індэферэнтнае: хіба яна дапаможа нам атрымаць больш малака, мяса? Але ўсё стала на свае месцы, сёння і мясцовыя ўлады зразумелі неабходнасць, патрэбнасць існавання такой установы, а да таго ж і пагранічнай службы: у раёне дыслацыруецца камендатура Полацкага пагранічнага атрада. Сёння ўсё зразумелі, што мяжа — гэта немалое, а часам і даволі значнае ўліванне ў наш небагаты бюджэт. Іншая справа, што часам выкарыстоўваць прадастаўленыя магчымасці поўнасцю мы не ўмеем, а іншы раз сваімі супярэчлівымі законамі і пастановамі самі змяншаем гэты прыток. Але гэта ўжо іншая справа.

Помніце славутае, з «Белага сонца пустыні»: «Мытня дае дабро!» Так, мытня — гэта найперш людзі, людзі, пастаўленыя на варту інтарэсаў дзяржавы, але ж яны былі і застаюцца людзьмі са сваімі праблемамі, бедамі, слабасцямі. Як запэўніў мяне начальнік Браслаўскай мытні Валерый Чарамных, калектыў падабраўся даволі стабільны і надзейны, людзі разумеюць сваю адказнасць, у большасці няма ніякіх заўваг па службе. Але за мінулы год 15 чалавек давялося звольніць. Не вытрымалі патрабаванняў службы, а часам і спакусы. Усялякае бывае. Усе людзі. Але, гаворыць Валерый Чарамных, на мытні за гэтыя гады не ўзбуджана ніводнай крымінальнай справы супраць работнікаў. У суседзяў бывала. Служба ўвогуле спецыфічная, складаная і зусім нялёгкая, як гэта можа падацца крытыку новых «захрыбетнікаў». Тут патрабуюцца ўсё больш не толькі старанне, пільнасць, але і веды, пастаянная праца над павышэннем свайго ўзроўню.

Вось у апошнія дні мінулага года затрымалі на паўночным пераходзе «Урбаны» аўтафургон з Масквы. Перавозіў ён каляровыя металы. І дакументы былі нібыта ў поўным парадку. Пад гарантыяй Міжнароднай асацыяцыі дарожных перавозчыкаў ішоў фургон. Спецыялісты ведаюць, што гарантыя гэтая грунтоўная, членамі асацыяцыі з'яўляюцца і Беларусь, і Расія. 50 тысяч долараў закладу дае асацыяцыя за кожную транспартную адзінку. Але тут падазрэнні выклікалі ў мытнікаў якраз дакументы. У іх, гэтых гарантыях, былі дзве нязначныя памылкі. Праверылі — высветлілася, што кантрабанда. 50 тысяч долараў — у такую суму ацэнены канфіскаваны на карысць нашай дзяржавы груз.

Пераадолеўшы пэўныя цяжкасці, я ў той дзень усё-такі змог пабываць на самім перагоне «Урбаны». Гэта нейкіх пятнаццаць кіламетраў ад Браслава. Чыстая ўжо ад снегу лента асфальту не першай свежасці і якасці віецца сярод лясоў і пералескаў, мінае невялікія вёсачкі і раптам упіраецца ў новыя, сучасныя збудаванні. Міжнародны пераход. Сам уезд на гэту тэрыторыю з'яўляецца крокам да перасячэння мяжы. Тут нават грамадзянін Беларусі страчвае ў нейкай ступені свае звычныя правы на перамяшчэнне, свабодны выбар паводзінаў. Ён на мяжы.

Службу на пераходзе нясуць поплеч мытнікі і пагранічнікі. Раней вахта доўжылася суткі, цяпер — 12 гадзін. З аднаго боку, гэта і нязручна для саміх службоўцаў, часцей даводзіцца адрывацца ад дому, з другога боку для службы лепш — большая пільнасць, бадзёрасць. Раней, дарэчы, побач стаялі і прадстаўнікі ДАІ. Цяпер іх няма. І, як мне падалося, ад гэтага верагоднасць незаконных аўтамабільных пранікненняў «туды і назад» павялічылася. Усё-такі «даісты» былі спецыялістамі сваёй справы. А сёння мытнікам даводзіцца асвойваць і новую спецыяльнасць — кантроль за аўтамабільным транспартам, дзе вельмі шмат сваіх тонкасцей, а то і таямніц.

Увогуле ж вобразна можна сказаць, што людзі ў форме пагранічнікаў «цікуюць» у асноўным менавіта за людзьмі, а людзі ў форме мытнікаў — за рэчамі і грузамі. З пачатку года на пераходзе «Урбаны» было сем спроб пераадолець мяжу па падробленых альбо па чужых дакументах. Усе яны няўдалыя. Зазначым, што ў большасці выпадкаў парушэнні дапусцілі прадстаўнікі латышскага боку. Хаця да гэтага часу дзейнічае правіла, што неграмадзяне Латвіі, найбольш прадстаўнікі рускамоўнай часткі насельніцтва, якія пражываюць у гэтай рэспубліцы, маюць права бязвізавага перасячэння нашай мяжы. Акрамя таго, на пераходзе «Урбаны» ў выпадку тэрміновай неабходнасці (тэлеграма аб смерці, іншыя выпадкі) можна набыць візу прама ў прадстаўнікоў пагранічнай службы. З латышскага боку раней таксама былі прадстаўнікі Міністэрства замежных спраў і беларусы таксама маглі набываць візу на пераходзе. Сёння такога ўжо няма.

Увогуле, набыць візу на ўезд у Латвію жыхары прыгранічных раёнаў, а менавіта ж яны найчасцей маюць такую патрэбу, могуць толькі ў Мінску ці Віцебску. Напэўна, сёння няма магчымасці наблізіць консульскія паслугі менавіта ў гэтыя раёны, але і для мясцовых жыхароў нямала цяжкасцей. Як старому дабірацца ў той жа Віцебск, каб наведаць сям'ю сына ў Даўгаўпілсе? Звычайная віза на наведванне Латвіі з Беларусі альбо наадварот каштуе 10 долараў. Не так і шмат, калі не ўлічваць іншыя выдаткі. Трэба ж яшчэ ўлічваць і тое, што беларусаў у Латвіі жыве значна больш, чым латышоў у Беларусі. І менавіта нашаму ўраду трэба клапаціцца пра змяншэнне клопатаў, выдаткаў сваіх грамадзян у іх кантактах са сваякамі за мяжой.

Бывае, што «Урбаны» прапускаюць за суткі да тысячы грамадзян у абодва бакі. Але адназначна — з латышскага боку турыстаў, гасцей значна больш, больш і аўтамабіляў, аўтобусаў. Дарэчы, аўтобусы звязваюць бліжэйшы Даўгаўпілс з Мінскам, Шаркаўшчынай, Міёрамі, Браславам. Мне давялося ў час наведвання назіраць праходжанне пагранічнага і мытнага кантролю пасажырамі рэйсавых аўтобусаў і з Беларусі, і на Беларусь.

Догляд прынцыпова строгі і ўсеагульны. Любая сумка, валізка не застаюцца без увагі інспектара. Уласна кажучы, правозіць цяпер можна практычна ўсё — рэчы, прадукты, нават тыя ж ікру, золата. Але абмежаванне існуе. Агульная сума перавозімага — 2.000 долараў. Гэта многа. Гэта спакойна дазваляе людзям мець з сабою ў дарогу запас прадуктаў, падарункі сваякам, мець, калі едзеш у машыне, 20 літраў паліва на асобу. Але калі нават у гэтых дзвюх тысячах долараў будзе партыя тавару — давядзецца плаціць 60 працэнтаў пошліны. Можна правозіць з сабою і 500 долараў, аб'явіўшы іх у дэкларацыі. Лішняе мытнікі прапануюць пакінуць у іх на захоўванне. Калі ж выяўляюцца схаваныя долары, то яны канфіскуюцца. Ва ўмовах, калі паездкі беларусаў за гэту мяжу з мэтай набыцця аўтамабіляў вельмі частыя, — непазбежнасць валютнай кантрабанды відавочная. Але такія законы. Увогуле паток пераганяемых з Прыбалтыкі аўтамабіляў — безумоўна ж, у асноўным для перапрадажы — вагаецца ў залежнасці ад таго, як мы ахвотна ці не зусім ахвотна бяромся абараняць расійскі аўтамабільны рынак.

Асаблівая ўвага мытнікаў удзяляецца грузавым аўтамабілям — яны сёння з'яўляюцца на пераходзе «Урбаны» не толькі з Расіі, але і з Казахстана, іншых сярэднеазіяцкіх краін. Работнікі перахода адзначаюць, што кожны дзень колькасць аўтамабіляў, што перасякаюць мяжу, павялічваецца на добрую сотню. І не ўсе выклікаюць поўны давер мытнікаў, пагранічнікаў. Кожныя суткі дзве-тры аўтамашыны падвяргаюцца поўнаму дагляду, калі і тавар даводзіцца выгружаць. Часта бывае, што падазрэнні апраўдваюцца. Сустракаліся на пераходзе ўжо выпадкі перавозу наркотыкаў, газавай і халоднай зброі.

Блізіцца лета, а з ім і самы напружаны час дзейнасці перахода. Нагрузка павялічваецца нашмат, адразу становіцца зразумелым, што штаты, прадугледжаныя для дзейнасці міжнароднага пераходу ва ўмовах Рэспублікі Беларусь, не адпавядаюць тым абставінам, якія складваюцца сёння, пры мытным саюзе з Расіяй, пры новых міждзяржаўных пагадненнях. Штаты абяцаюць павялічыць, абяцаюць новую тэхніку, камп'ютэры. Але самае галоўнае, што неабходна сёння для дзейнасці міжнароднага пераходу, — уніфікаванае заканадаўства. Мала абвясціць адзіную эканамічную прастору, мытны саюз. Патрэбна, каб заканадаўства, падзаконныя акты дзяржаў былі прыведзены да нечага адзінага, не супярэчылі адзін аднаму, не стваралі розныя шчыліны і пралазы. Тады дзейнасць мытнікаў, усіх, хто заняты забеспячэннем інтарэсаў дзяржаў на мяжы, будзе эфектыўнай і карыснай.

А самае галоўнае ўражанне ад наведвання пераходу «Урбаны» — няма таго патоку «чаўнакоў», які назіраўся раней на ўсіх межах нашай роднай Беларусі. Што хаваць, раней і ў суседнюю Латвію сотні нашых суграмадзян імкнуліся вывезці праўдамі і няпраўдамі хоць з дзесятак кілаграмаў прадуктаў. Сёння сумкі, валізкі, і рукзакі патанелі, сталі больш прыстойнымі. Нявыгадна. Цэны ў Беларусі, асабліва на харчаванне, ужо ці не абганяюць цэны на гэтае ж харчаванне ў суседзяў. Добра гэта ці дрэнна — меркаваць эканамістам. Але выглядаем мы ўжо лепш, хаця б знешне.

**Алесь КАСЦЕНЬ.**

# ПАВОДКА ЎТАЙМАВАЛАСЯ, АЛЕ ШКОДЫ НАРАБІЛА

**У бліжэйшыя некалькі дзён тэма веснавой паводкі, якая не зыходзіць зараз са старонак газет, перадач радыё і тэлебачання, хутчэй за ўсё загадае доўга жыць — менавіта такую выснову можна зрабіць, пазнаёміўшыся з апошнімі данымі адпаведных службаў па барацьбе з надзвычайнымі сітуацыямі.**

Так, нягледзячы на тое, што пад'ём узроўняў вады ў рэках працягваецца і па-ранейшаму паводкавая сітуацыя застаецца даволі складанай у Столінскім, Ганцавіцкім, Івацэвіцкім і Жыткавіцкім раёнах Брэсцкай і Гомельскай абласцей, на думку спецыялістаў, можна смела гаварыць аб утаймаванні «вялікай вады». Тым не менш, апошнія яе «выбрыкі» ўсё ж такі аказаліся унушальнымі.

Па стану на 18 красавіка, у 9 раёнах краіны было падтоплена 45 населеных пунктаў з насельніцтвам больш як 4 тысячы чалавек. Пад вадой апынуліся 71.308 гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў, было пашкоджана 30 гідразбудаванняў. Бадай, найбольш складаная абстаноўка адзначаецца ў с. Чарнічы Жыткавіцкага раёна, якое зараз поўнасцю адрэзана вадой. Нягледзячы на тое, што пад'ём вады зменшыўся з 22 да 9 см за суткі, тут, на Прыпяці, узровень паводкі складае 531 см над нулём паста, што на 131 см вышэй узроўню выхаду вады на пойму і на 11 см вышэй небяспечна высокага ўзроўню па гэтаму пасту.

Па апошніх звестках, атрыманых па тэлефоне ў МНС падчас наведвання яго карэспандэнтам «Звязды», у с. Чарнічы пад напорам вады была часткова разбурана адна з дамбаў (на працягу 400 метраў).

***За апошнія дні ў раёне паводкі адзначаліся надзвычайныя сітуацыі, не звязаныя з «вялікай вадой». Так, у Магілёўскай вобласці ў некалькіх раёнах падчас выпальвання сухой травы згарэла ўвогуле больш як дзесяць дамоў. У Гродзенскай вобласці, у г. Масты, з каналізацыі адбыўся выкід каля 500 кубічных метраў сцёкаў. Зараз вядзецца ліквідацыя наступстваў гэтай аварыі, але, як сцвярджаюць спецыялісты, пагрозы забруджвання Нёмана няма.***

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

# НАЙБОЛЬШАЯ ПАГРОЗА — НА ПАЛЕССІ

У Жыткавіцкім раёне папярэдне падлічылі, што сёлета будуць падтоплены 42 населеныя пункты. Прагноз пакуль што, на шчасце, не пацвярджаецца. Бо па стану на 18 красавіка былі падтоплены 83 падвор'і ў Малым Малішаве, 28 — у Верасніцы, 35 — у Вільчы, 18 — у Запясоччы, 8 — у Пагосце і адно — у Перарове. Людзі адсюль пакуль што не высяляюцца, ахоўваючы сваё дабро, хаця вада пакрыла падлогу ў адзінаццаці дамах гэтых вёсак.

У вёсцы Чэрнічы напорам вады пашкоджана дамба на працягу чатырохсот метраў, і людзі з дапамогай тэхнікі змагаюцца са стыхіяй, якая падтапіла тут чатырнаццаць падвор'яў. Пад вадой у раёне апынулася дваццаць гектараў пасеваў пшаніцы і пяць — жыта. З васьмі да шаснаццаці гадзін 18 красавіка ўзровень вады на Прыпяці ў гэтым раёне падняўся на адзін-два сантыметры, а ў ноч на 19 красавіка чакаўся пад'ём яе яшчэ на чатыры-пяць сантыметраў, калі не прыбудзе «няпланавая» вада з Брэстчыны. Людзей супакойвала тое, што на Гарыні, якая несла ў Прыпяць найбольшы паток вады, у раёне рабочага пасёлка Рэчыца пачаўся спад яе ўзроўню (3) сантыметры.

У Петрыкаўскім раёне назіраўся пад'ём вады на 23 сантыметры, і ўзровень яе дасягаў 707 сантыметраў пры небяспечным узроўні ў 800 сантыметраў. Падтопленых населеных пунктаў тут пакуль няма. І калі пазаўчора ўведзены ў вобласці з 9 красавіка надзвычайны рэжым быў паўсюдна зняты, дык у Жыткавіцкім і Петрыкаўскім раёнах ён пакінуты, бо падстаў для заспакаення яшчэ няма.

А што ж на астатніх рэках вобласці? На такіх вялікіх, як Сож, Дняпро, Бярэзіна, яна прыбывала з інтэнсіўнасцю 9—12 см за апошнія суткі, аднак на іхніх прытоках — малых рэках — спадала. І, такім чынам, максімальныя ўзроўні паводкі акажуцца ніжэйшыя за тыя велічыні, якія прагназіраваліся раней.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

**ЗЯМЛЯ ПАВІННА ПАМЯТАЦЬ буйнейшыя падзеі, якія адбываліся ў яе нетрах і на самой паверхні: абледзяненні, вывяржэнні вулканаў, падзенні метэарытаў, паводкі, патопы... Некаторыя з гэтых падзей, калі яны парушалі звычайны ўклад чалавечага супольнага жыцця ці свету жывёл, прыводзілі да трагедыі на вялікіх тэрыторыях, прынята называць катастрофамі.**

**Да такіх адносяцца і вынікі выбуху на чацвёртым блоку Чарнобыльскай атамнай станцыі 26 красавіка 1986 года. Нягледзячы на тое, што гэта дата і месца аварыі былі прадказаны ў нейкім графічным рэбусе, надрукаваным адной з сібірскіх газет, Чарнобыль прыйшоў да нас зусім нечакана...**



**ЧАРНОБЫЛЬ: 10 ГАДОЎ ТРАГЕДЫІ**

# У ЧЫМ І ПЕРАД КІМ Я, БЕЛАРУС, ВІНАВАТЫ?

***Роздум пісьменніка: ці застанецца пасля ядзернай катастрофы на геаграфічнай карце свету месца для беларускага народа?***




Ніхто не аспрэчвае даных, якія паказваюць, што на зямлю Беларусі выпала тры чвэрці ўсіх чарнобыльскіх выкідаў. Дарэчы, аднак, вызначыць, колькі ж іх было наогул.

Паводле першых арыенціровачных ацэнак, з рэактара выкінута радыеактыўнай энергіі да 50 мільёнаў кюры. Паводле ўдакладненых і прызнаных у свеце разлікаў, праведзеных вучонымі Інстытута радыеэкалогіі Акадэміі навук Беларусі, выкіды склалі да 1 мільярда кюры. У разбураным рэактары ў якасці паліўнай масы засталося каля 130 тон урану. А да аварыі было 190 тон.

Некаторыя даследчыкі вызначаюць магутнасць выкідаў у 60, а некаторыя — у сотні атамных бомбаў, скінутых паўстагоддзя таму на японскія гарады Хірасіма і Нагасакі.

Але адарвёмся ад лічбаў і глянем на карту. Паспрабуем прасачыць на ёй развіццё падзей, а дакладней — дынаміку чарнобыльскай катастрофы. Акадэмік Ільін, які ў свой час служыў апорай вышэйшага партыйнага кіраўніцтва і праславіўся як ідэолаг па частцы чарнобыльскай дэзінфармацыі (нездарма ў Кіеве ён прызнаны персонай нон-грата), замоўчвае і цяпер, што тварылася ў паветранай прасторы ў тыя дні, калі раскрыўся біблейскі калодзеж. Ён толькі піша, што «на Украіне не было тых падзей, якія адбыліся на Беларусі 27—28 красавіка 1986 года».

А за гэтымі падзеямі, несумненна, стаяла небывалая па сваіх маштабах апрацоўка забруджаных паветраных патокаў з мэтай фарміравання з іх воблачнай масы і атрымання радыеактыўных ападкаў у выглядзе дажджу.

Гэта акцыя ваенных лётчыкаў спачатку мела месца ў 30-кіламетровай чарнобыльскай зоне, што, бадай, было апраўданым; потым сілы абаронцаў Айчыны былі перадыслацыраваны на 150—200 кіламетраў на ўсход, да граніцы Гомельскай і Магілёўскай абласцей з Браншчынай. Воблакі, закручаныя квазіцыклонам, ішлі на ўсход. Полчышчы ізатопнай саранчы пагражалі Маскве. Таму па восі на ўсход ад Гомеля і Магілёва была пастаўлена шчыльная паветрана-хімічная загарода. Аперацыя трымалася ў сакрэце.

Прыглядзімся больш уважліва да бурай плямы, да малюнка радыёлагаў на карце: там, на беларуска-расійскай мяжы, нібыта ўзарвалася яшчэ адна атамная станцыя — так густа і шчыльна, а галоўнае франтальна асыпана гэта зямля радыенуклідамі.

Хто прыйдзе і скажа мне: «Няпраўда, воблакі самі выбралі гэта месца для грандыёзнай звалкі радыенуклідаў»? Не, другі Чарнобыль нашаму народу падарылі палітыкі і стратэгі Генштаба Узброеных Сіл Савецкага Саюза.

Дарэчы, паводле назіранняў мясцовых жыхароў, у прыродзе ў тыя дні адбываліся дзіўныя з'явы. Навальнічныя, а дакладней ліўневыя, воблакі паяўляліся ў чыстым небе нечакана. Падганяемыя ветрам, яны займалі прастору паміж небам і зямлёй, ішлі імкліва і праліваліся раптоўным дажджом. На лужах, якія высыхалі пасля дажджу, заставаўся канцэнтраваны жоўты налёт.

■

Якая прычына аварыі? Распаўсюджана версія аб недасканаласці чарнобыльскіх рэактараў тыпу РБМК. Пра іх канструктарскую недасканаласць цяпер гавораць усе. Пагодзімся з тымі, хто разбіраецца ў атамнай энергетычнай гаспадарцы лепш за нас.

А знаўцы адзначаюць памылкі аператараў і інжынераў, якія праводзілі планава-папераджальны рамонт на блоку і эксперымент з «савецкім атамам». Сутнасць эксперыменту заключалася ў прыпыненні ўсіх механізмаў рэактара.

Нечакана неяк паявілася яшчэ адна версія. Яна, праўда, не адхіляе першую, але паказвае справу крыху ў іншым свеце. Прычынай выбуху, паводле гэтай версіі, з'яўляецца разлом зямной кары, на якім пабудавана Чарнобыльская АЭС, і звязаны з разломам землятрус, што па часе супаў з «эксперыментам».

Гэты ціхі землятрус зарэгістраваны нібыта трыма засакрэчанымі сейсмастанцыямі. Яны размяшчаліся па трохвугольніку прыкладна за 100 кіламетраў ад Чарнобыля — пасёлкі Глушкавічы, Нарынск, Падлубы. Сейсмастанцыі працавалі па спецыяльнай праграме сачэння за амерыканскімі атамнымі выбухамі. Зарэгістравалі і свае выбухі. Толькі іх чарнобыльская інфармацыя своечасова не была запатрабавана.

І вось у канцы 1994 года супрацоўнікамі расійскага Інстытута фізікі Зямлі ў адным з архіваў Алма-Аты знойдзены такія красамоўныя сейсмографы...

Дзіўна, аднак, чаму гэта новая па сутнасці інфармацыя даходзіць да нас не афіцыйнымі, а абходнымі шляхамі? Можа таму, што іншыя станцыі, як, напрыклад, Калінінская, Кастрамская, Ігналінская, Курская, Ровенская, на думку спецыялістаў, размешчаны ў зонах найбольш актыўных разломаў?

Выбух на Чарнобыльскай АЭС адбыўся ноччу 26 красавіка ў 1 гадзіну 24 хвіліны. Але за хвіліну да выбуху ў рэактарнай зале апаратар адчуў вібрацыю, пачуў гул, які ішоў нібыта з боку водазаборнай станцыі на сажалцы-ахаладжальніку. І адразу ж пачалі падскокваць чыгунныя пліты, якія складалі біялагічную ахову самога рэактара; самапісцы адзначылі галоўны сейсмічны ўдар, у наступную секунду адбыўся выбух рэактара.

«Да гэтага часу, — піша Л. Ільін, — мала хто ведае, колькі было выбухаў, афіцыйна зарэгістраваны два, з інтэрвалам 40 секунд. Прафесар Абагян, праўда, бачыў ноччу яшчэ адзін, трэці».

Незразумела зноў жа, чаму дасведчаны ва ўсіх калізіях чарнобыльскай драмы чалавек — Ільін у сваёй кнізе абыходзіць увагай версію аб землятрусе ў зоне размяшчэння станцыі? Але ж, паводле сцвярджэння некаторых асоб, над чацвёртым блокам засвяцілася паветра і зайгралі блакітныя, сінія, фіялетавыя блікі сама меней за паўгадзіны да выбуху рэактара, пры гэтым чуліся аднекуль знізу глухія ўдары, якія пераходзілі ў гул. Самапісцы ў Глушкавічах і Падлубах не драмалі — на сейсмаграме імі паказана падземная актыўнасць.

Адзінае, што не выклікае сумненняў, дык гэта жаданне палітычных вярхоў у Маскве ўтаіць аварыю на ЧАЭС і пакінуць з аднаго боку — свет, а з другога — уласны народ у няведанні, як гэта ўжо рабілася не адзін раз. Адсюль і ігнараванне небяспекі, раскачка, нежаданне прыняць рашучыя меры да выратавання людзей. Дарэчы, у медсанчасці АЭС ляжаў зусім сакрэтны «прэпарат Б» для аховы персаналу станцыі ад радыяцыі на выпадак аварыі. Але пажарнікі ішлі ў агонь і пекла зусім безабаронныя. Прэпарат і для іх заставаўся сакрэтам. Таму ўжо днём 26 красавіка ў медсанчасць трапіла 115 чалавек у стане прамянёвай хваробы цяжкай і сярэдняй ступені, а пацярпеўшых было не пералічыць.

Аб сапраўднай ідэалагічнай, а інакш канцэптуальнай, філасофскай накіраванасці дзяржаўнай машыны супраць народа ў той час красамоўна сведчаць распараджэнні і загады вышэйшых дзяржаўных чыноўнікаў.

Міністэрства аховы здароўя, здавалася б, самае гуманнае ведамства, дык не: распараджэннем ад 27 ліпеня 1986 года робіць каласальную гадасць: яно ўзмацняе рэжым сакрэтнасці, быццам гэта ратавала людзей. Для нагляднасці — некалькі пунктаў:

«4. Засакрэціць звесткі аб аварыі.

8. Засакрэціць звесткі аб выніках лячэння.

9. Засакрэціць звесткі аб выніках радыеактыўнага паражэння персаналу, які ўдзельнічаў у ліквідацыі вынікаў аварыі на ЧАЭС.

Начальнік 3-га галоўнага ўпраўлення Міністэрства аховы здароўя СССР Е. Шульжэнка».

Пытанне: ад якіх такіх ворагаў засакрэчваліся звесткі аб дозах апраменьвання і лячэнні пацярпеўшых? Ну, вядома, ад іх жа саміх, якія выступалі ўжо ў ролі дзіўнай і даўно вызначанай: не людзей, не паўнацэнных грамадзян, а ўсяго толькі паддоследнай масы.

І лагічна — у паслядоўнасці яму не адмовіш — гэта ж ведамства разаслала па рэспубліканскіх «даччыных структурах» распараджэнне аб выкарыстанні мяса жывёл, якія атрымалі высокія дозы апраменьвання ў 30-кіламетровай зоне. Больш як 30 працэнтаў кароў ужо пакутавалі ад прамянёвай хваробы.

Так, гэта забруджанае радыенуклідамі мяса ў прапорцыі 30 працэнтаў прапаноўвалася дабаўляць да чыстага. Прыкладна так і рабілася на Жлобінскім і іншых мясакамбінатах Беларусі: адна туша — ад д'ябла і дзве — звычайнай кандыцыі: усё гэта абкачвалася, перамешвалася, перакручвалася і ішло ў асноўным на каўбасы, на стол таму народу, які пакорліва прыняў на сябе і панёс два Чарнобылі. У харчовы ланцужок уключаліся таксама косці жывёл, нашпігаваныя ізатопамі стронцыю. Таму не выпадкова хутка ўтрыманне цэзію і стронцыю ў арганізме чалавека па ўсёй рэспубліцы пачало выраўноўвацца. І гэты факт на пятым годзе катастрофы вымушаны быў канстатаваць міністр аховы здароўя Беларусі.

Урадавая камісія пастаралася таксама ўнесці свой уклад у анемічную «галоснасць». Засакрэчваліся: 1. Звесткі аб узроўнях радыяцыйнай забруджанасці па асобных населеных пунктах, якія перавышалі ўзровень (ПДУ). 2. Звесткі аб паказчыках пагаршэння фізічнай працаздольнасці, страты прафесіянальных навыкаў эксплуатацыйнага персаналу, які працуе ў асаблівых умовах на ЧАЭС, або асоб, прыцягнутых да ліквідацыі вынікаў аварыі.

■

У маі 1989 года мне ўдалося пазнаёміцца з сакрэтнай даведкай аб радыяцыйнай сітуацыі, стане здароўя дзяцей і дарослых пасля трох гадоў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Гэту даведку, адрасаваную ЦК КПБ, падпісалі некалькі дырэктараў навукова-даследчых інстытутаў, спецыялісты Міністэрства аховы здароўя. Дынаміка змены здароўя нашых юных грамадзян у Гомельскай і Магілёўскай абласцях ашаламляла: у 3,5; у 4,0—4,9 раза павялічыліся ўсе распаўсюджаныя раней хваробы. І хіба гэта не сведчыла аб прамым уздзеянні радыяцыі і зніжэнні ахоўных сіл арганізма? Асабліва нарасталі захворванні дыхальных шляхоў, страўнікава-кішачнага тракта, шчытападобнай залозы; у дзяцей праяўляліся санлівасць і вяласць. Не намнога лепшымі былі паказчыкі і па іншых абласцях.

На жаль, такіх вялікіх перамен не заўважыла, а дакладней, не прызнала камісія МАГАТЭ, якая працавала ў забруджаных раёнах у 1991—92 гадах па запрашэнню таго ж бяздушна аблуднага, як сказаў аднойчы Станіслаў Шушкевіч, савецкага ўрада. Жэнева і Масква ў гэтай справе адзін аднаго зразумелі, і хутка ў так званым Міжнародным чарнобыльскім праекце была зроблена выснова: асаблівых вынікаў чарнобыльскай катастрофы няма, а ахоўныя меры ўрадаў СССР, Беларусі, Украіны і Расіі былі дастатковымі.

Гэта заключэнне адэпты МАГАТЭ нібы спісалі з набіўшых аскому прамоў дырэктара Інстытута біяфізікі акадэміка Л. Ільіна і яго, з дазволу, двайніка П. Рамзаева, прафесара з Санкт-Пецярбурга.

Сусветнае супольніцтва не мае па сённяшні дзень аб'ектыўнай інфармацыі аб маштабах чарнобыльскай катастрофы, не ведае практычна нічога аб яе наступствах, аб яе негатыўным уплыве на насельніцтва і прыроду рэспублік, якія пацярпелі ад нашэсця радыенуклідаў. Асабліва трагічна, няшчасна і гібельна складваецца постчарнобыльская экалагічная, а з прычыны гэтага і дэмаграфічная сітуацыя ў Беларусі. Звернемся да статыстыкі. Пачынаючы з 1986 года амаль у два разы зменшылася нараджальнасць, значна знізілася працягласць жыцця дарослага насельніцтва, узрасла смяротнасць, у тым ліку ў малым узросце, няўхільна скарачаецца колькасць інвалідаў з прычыны паскоранага распаду іхняга здароўя... Усё гэта наглядна адлюстравана на дыяграме, складзенай нядаўна прафесарам М. Цяўлоўскім. Дыяграма паказвае, што ўжо з 1993 года пачаўся працэс вымірання беларускага народа.

Цяпер у Беларусі больш актыўна, чым у мінулыя гады, праяўляюцца захворванні крыві, у тым ліку ў дзяцей. Тут прагноз дрэнны. І не дай Бог збыцца прадказанням анколагаў наконт таго, што праз 15 гадоў анкалагічныя праблемы ў нас будзе мець кожны другі жыхар краіны.

Ілюстрацыя. Да моманту 10-годдзя аварыі на ЧАЭС у Беларусі прааперыравана 1500 дзяцей з прычыны канцэрагенных захворванняў розных органаў, з іх у адной трэці — рак шчытападобнай залозы. Іх дыягназ напрамую звязваецца з Чарнобылем.

...Калі камусьці не хапае яшчэ лічбаў і фактаў, магу напомніць аб сацыяльна-эканамічных наступствах ядзернай катастрофы. Сумарны ўрон, нанесены рэспубліцы Чарнобылем за перыяд з 1986 па 2015 год, ацэньваецца ў 235 млрд. долараў ЗША. У структуры агульнага ўрону найбольшую долю (81,6 працэнта) займаюць затраты, звязаныя з ліквідацыяй і мінімізацыяй наступстваў аварыі. Яны складаюць 191,7 млрд. долараў.

Агульная крызісная сітуацыя ў рэспубліцы, характар і велічыня ўрону, нанесенага катастрофай на ЧАЭС, даюць падставу сцвярджаць, што маштабы бедства перавышаюць магчымасці краіны, патрабуецца міжнародная падтрымка.

Што ж рабіць у такой сітуацыі мне, беларусу, абарыгену гэтых раўнінных і крыху хвалістых прастораў, праз 10 гадоў пасля чарнобыльскай катастрофы? Што рабіць народу, якога абмінула міжнародная дапамога?

Пайсці пакорліва ў магілу, даруючы грахі, памылкі, амаль злачынствы тым, хто ператварыў нашу квітнеючую зямлю, на якой кіпела жыццё, у чарнобыльскую Палесціну? Ці прысесці на бурым чарнобыльскім вале ля заходняга парога Расіі і прасіць спісання даўгоў (гэта мы ёй павінны?)...

Я — беларус, хоць сам не ведаю чаму, і крыху забыў ужо сваю родную мову. Магчыма, з прычыны гэтага я не разумею, што раблю; таму што не тое раблю, што хачу, а што ненавіжу, тое раблю. Так напісана ў Бібліі. Мне кажуць: ёсць Міжнародны суд у Гаазе, падавай туды іск і патрабуй, што належыць, за ўрон, нанесены табе, твайму дому, гаспадарцы, народу. Зрабі гэта, каб дзеці твае цябе не праклялі, каб яны не сышлі разам з табой у магілу.

Шкада, што людзі, якія застануцца жыць у іншых землях і краінах, не зразумеюць маёй ахвяры, маёй сапраўднай высакароднасці, не возьмуць, нарэшце, з мяне прыклад. Народы, якія насяляюць зямлю, хочуць шчасця, пра гэта я ведаю. Мой народ — не выключэнне. Ён хацеў шчасця, а атрымаў два Чарнобылі. Прыняўшы літаральна на свае галовы радыяцыю (хоць бы дзве трэці яе выкідаў), мы выратавалі ад гэтага шкоднага грузу, які ішоў па паветры, часткова Расію і ў цэлым Маскву, ды і пазбавілі ад яго ў значнай ступені ўвесь свет.

І думаю я, што мы яшчэ за сябе пастаім — пакінем за Беларуссю яе месца на карце.

**Васіль ЯКАВЕНКА.**

**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

## Уладзімір СЯНЬКО:

# «Беларуска-расійская інтэграцыя не з'яўляецца вынікам недастатковай увагі Захаду да праблем Беларусі»

### З міністрам замежных спраў Беларусі Уладзімірам Сянько гутарыць карэспандэнт «Інтэрфакса» Вячаслаў Зяньковіч

**— Уладзімір Лявонавіч! Існуе думка, што падпісанне дагавора аб беларуска-расійскім супольніцтве з'яўляецца вынікам недастатковай увагі Захаду да рэспублік былога СССР і, у прыватнасці, Беларусі. Інертнасць Захаду, які прывык мець справу толькі з Расіяй і недаацэньвае значнасць новых незалежных дзяржаў, прывяла да таго, што Беларусь перастала спадзявацца на дапамогу Захаду ў развіцці нацыянальнай эканомікі і вымушана была добраахвотна пайсці на інтэграцыю з Расіяй. Наколькі абгрунтаваны, на ваш погляд, такі пункт гледжання?**

— Падпісанне дагавора аб беларуска-расійскім супольніцтве з'яўляецца лагічным увасабленнем вялізных, я сказаў бы, нястрымных мэтанакіраваных намаганняў Прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі па ажыццяўленню спадзяванняў большасці насельніцтва рэспублікі — паглыблення інтэграцыйных працэсаў з Расіяй.

Нікольні не абсалютызую, але і не магу недаацэньваць вынікі майскага 1995 года рэферэндуму, калі большасць народа выказалася ў падтрымку праводзімага Прэзідэнтам рэспублікі курсу на беларуска-расійскую інтэграцыю.

Было б яўна неправамерным лічыць інтэграцыйны курс Мінска вытворнай недастатковай дапамогі Захаду. Сапраўды, гэтае садзейнічанне пакуль нязначнае, нягледзячы на прымаемыя беларускім бокам намаганні. Беларусь адкрыта і паслядоўна выступае за інтэнсіўнае, дынамічнае супрацоўніцтва з ЗША, дзяржавамі Заходняй Еўропы. Пацвярджэннем таму служаць падпісанне нядаўна часовага пагаднення з Еўрапейскім саюзам аб гандлі, актыўныя крокі рэспублікі па хутчэйшаму ўступленню ў Савет Еўропы, удзел Беларусі ў праграме «Партнёрства дзеля міру», мэтанакіраваная дзейнасць па развіццю двухбаковых сувязей з рознымі дзяржавамі свету.

Вядома, нельга адмаўляць таго, што мы з'яўляемся сведкамі ўсё-такі стрыманай палітыкі, праводзімай Захадам у адносінах да Беларусі. Прычыны таму розныя. Сярод іх не толькі выразна рэалізуемы курс Беларусі на інтэграцыю з Расіяй, але і спецыфічныя ацэнкі ходу эканамічных рэформаў, што адбываюцца ў рэспубліцы.

Калі ў эканамічнай сферы цяжка гаварыць пра якую-небудзь ізаляцыю Беларусі, дык у палітычнай мы сутыкаемся з яўна негатыўнымі падыходамі Захаду ў адносінах да кіраўніцтва нашай рэспублікі. Мы жывём у Еўропе канца XX стагоддзя, калі ідэі стварэння агульнаеўрапейскага дома сапраўды завалодалі розумамі не толькі палітыкаў, але і пераважнай большасці насельніцтва як заходнееўрапейскіх, так і постсацыялістычных краін. Таму працяг Захадам такой палітыкі ў адносінах да нашай рэспублікі можа прывесці да непажаданых з'яў, у прыватнасці, да прыўнясення ў гэтыя ўзаемаадносіны элементаў ідэалагізацыі. У міжнародных адносінах, апошнія, як правіла, непазбежна вядуць да з'яўлення напружанасці і нават канфрантацыі.

**— Ці ёсць у дагаворы аб беларуска-расійскім супольніцтве што-небудзь, што выклікае ў вас неспакой?**

— Ёсць хутчэй нейкія сумненні, а іншы раз і неспакой.

Беларусь і Расія — дзяржавы цяжка параўнальныя па сваіх памерах і патэнцыялах. Напрыклад, суадносіны насельніцтва — 1:15, па тэрыторыі — 1:70. Я ўжо не гавару пра вялізную розніцу эканамічных патэнцыялаў. У гэтых умовах рэалізацыя прынцыпаў фармальнай роўнасці двух галасоў пры прыняцці рашэнняў у рамках Супольніцтва патрабуе надзвычай узважаных і паслядоўных дзеянняў прадстаўнікоў рэспублікі ў адпаведных яго органах.

Мне асабіста вельмі б хацелася, каб у саставе Супольніцтва з'явілася трэцяя і нават чацвёртая дзяржава. Два-тры галасы невялікіх краін былі б добрым балансам голасу магутнай Расіі.

У Беларусі цяпер няма ніякай хоць маленькай палітычнай сілы, што выступае супраць беларуска-расійскай інтэграцыі. Першы яе этап, у прынцыпе, не нясе ў сабе пагрозы паглынання Беларусі Расіяй.

У наступным, аднак, жыццёва важна збалансаванне механізма такой інтэграцыі, якая магла б быць дасягнута за кошт далучэння да Садружнасці іншых дзяржаў.

Я — за асаблівыя адносіны нашых краін, за тое, каб яны былі асабліва блізкія, каб Беларусь заўсёды была абсалютна надзейным стратэгічным партнёрам і сябрам вялікай суседкі ў самых розных сферах узаемадзеяння. Упэўнены, што такое становішча дасягальнае пры ўмове захавання галоўнага — дзяржаўнасці Беларусі.

**— У якой ступені, на вашу думку, узаемазвязаны ўзмацненне інтэграцыйных тэндэнцый у рамках СНД, з аднаго боку, і адкрытае працідзеянне Захаду пранікненню на свае рынкі збыту тавараў з дзяржаў Садружнасці, а таксама планы пашырэння НАТО за кошт усходнееўрапейскіх дзяржаў — з другога?**

— Не магу сцвярджаць, што цяпер існуе адкрытае процідзеянне Захаду пранікненню на свае рынкі збыту прадукцыі з краін СНД. Вядома, не выклікае сумненняў тое, што краіны Заходняй Еўропы ясна і адкрыта абараняюць свае рынкі ад некантралюемага імпарту. Заходнееўрапейская інтэграцыя перш за ўсё мае на ўвазе жорсткае рэгуляванне рынку ў сваіх дзяржавах з мэтай недапушчэння бескантрольнага пранікнення тавараў з краін, якія не ўваходзяць у еўрапейскае супольніцтва.

Нават уступленне ў Еўрапейскі саюз дзяржаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, не гаворачы ўжо пра постсавецкія рэспублікі, патрабуе працяглага працэсу «прыціркі», сумяшчэння параметраў і стандартаў. Тое, што мы называем барацьбой за рынкі збыту, яшчэ вельмі доўга будзе працягвацца на еўрапейскім кантыненце. Перш за ўсё, гэта будзе праяўляцца ў розных формах абароны сваіх рынкаў. Таму нашы кантакты з Заходняй Еўропай будуць жорстка рэгламентаваныя. Гэта трэба разумець і да гэтага трэба быць гатовым.

Тут, вядома ж, не варта цалкам абстрагавацца ад палітычных, стратэгічных матываў. Але ўсё ж трэба зыходзіць з рэалій эканамічнага ўзаемадзеяння дзяржаў на еўрапейскім кантыненце. Тым больш важна ўлічваць і тое, што многія прамысловыя тавары з краін СНД, як правіла, значна ўступаюць па якасці заходнееўрапейскім аналагам і проста неканкурэнтназдольныя на заходнім рынку.

Што датычыцца планаў пашырэння НАТО, дык наўрад ці гэты фактар можа істотна ўплываць на інтэграцыйныя працэсы як у беларуска-расійскіх адносінах, так і ў рамках СНД.

Дзяржавы Садружнасці па-рознаму ўспрымаюць планы пашырэння Паўночна-Атлантычнага альянсу, аднак усе яны падкрэсліваюць непажаданасць фарсіраванага вырашэння гэтага пытання. Краіны СНД выказваюцца за тое, што калі б працэс пашырэння НАТО і ажыццявіўся, дык абавязкова эвалюцыйна.

Відаць, так яно і будзе. Альтэрнатывы гэтаму не бачу, паколькі іншы шлях можа парадзіць раскол і канфрантацыю на еўрапейскім кантыненце.

**— У выпадку, калі некаторыя ўсходнееўрапейскія дзяржавы ўсё ж будуць прыняты ў Паўночна-Атлантычны альянс, ці існуе верагоднасць стварэння ў рамках СНД ваенна-палітычнага саюза, падобнага на раней існаваўшы блок краін Варшаўскага Дагавора?**

— Стварэнне новага ваенна-палітычнага блока на тэрыторыі былога Савецкага Саюза, ужо, відаць, немагчыма. Хоць бы таму, што яго ўдзельніцай яўна не стане Украіна, заканадаўства якой выключае падобную магчымасць.

У цэлым не выключаю стварэння на тэрыторыі СНД не столькі якога-небудзь ваеннага блока, колькі дакладна функцыянуючай сістэмы ўзаемадзеяння ўзброеных сіл новых незалежных дзяржаў. Напрыклад, цяпер ствараецца дастаткова эфектыўная ў рамках Садружнасці адзіная сістэма проціпаветранай абароны. Як бачна, ніякі ваенны блок не створаны, але супрацоўніцтва ажыццяўляецца на ўзаемавыгадных для многіх краін—удзельніц СНД аснове.

**— Можа, ваеннае супрацоўніцтва краін СНД стане больш цесным пасля ўнясення адпаведных карэктываў у цяпер дзеючы Дагавор аб калектыўнай бяспецы?**

— Мне невядома, якой думкі прытрымліваюцца на гэты конт аналітыкі Генеральнага штаба Узброеных Сіл Расіі, аднак зусім ясна, што наша ўсходняя суседка ў ваенным плане была і будзе заставацца краінай з глабальнымі інтарэсамі. Тэма пашырэння НАТО не можа не хваляваць Маскву. І калі Паўночна-Атлантычны альянс прасунецца на Усход, дык гэта непазбежна прывядзе да значных змен у цяперашняй ваеннай дактрыне Расіі. Разам з тым, прымаемыя Расіяй у гэтым выпадку меры, на мой погляд, не змогуць змяніць новую геапалітычную сітуацыю, якая складваецца.

**— Канфрантацыя Усходу і Захаду можа стаць рэальнасцю?**

— Спачатку трэба было б дакладна ўявіць, што мы ўкладалі ў паняцце «Усход».

Раней пад «Усходам» разумелі акрамя СССР вялізную частку Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Няхай, у параўнанні з Заходняй Еўропай, гэтыя тэрыторыі менш развітыя ў тэхналагічным плане, аднак па свайму прамысловаму, людскому патэнцыялу цяпер ужо былыя сацыялістычныя краіны надзвычай дапаўнялі патэнцыял адзінага Савецкага Саюза.

Ці можам мы цяпер укладваць у паняцце «Усход» (у вядомым тлумачэнні гэтага тэрміна) такія рэспублікі, як Казахстан, Узбекістан, Кыргызстан, Туркменістан, Таджыкістан, Арменія, Азербайджан, Грузія, Малдавія, Украіна, не гаворачы ўжо пра Польшчу, Венгрыю, Чэхію і іншыя?

Адназначна можна толькі сцвярджаць, што былыя сацкраіны ўжо ніяк нельга разглядаць у якасці ваенна-палітычных саюзнікаў Расіі.

Такім чынам, пад «Усходам» разумеецца ў асноўным Расія. Але Расія, адна ці разам з Беларуссю, не ў стане процістаяць Захаду. Таму, на мой погляд, мы наблізіліся да нейкага зусім новага становішча ў міжнародных адносінах, пры якім адзіна правільным рашэннем быў бы больш інтэнсіўны і настойлівы пошук шляхоў разумення і ўзаемадзеяння Расіі і Еўропы.

Калі б Беларусь уступіла ў цесны двухбаковы ваенны саюз з Расіяй, патэнцыяльна магчымая канфрантацыя з Захадам закранула б і нашу рэспубліку. Лічу, што дзяржавы—члены СНД не захочуць блакіравацца з Расіяй для процістаяння Захаду.

Гісторыя адносінаў Усходу і Захаду ведае нямала «пахаладанняў» і «адліг». Думаю, што занадта моцнай, палітызаванай канфрантацыі, якая даходзіць да якіх-небудзь ваенных захадаў, не адбудзецца. У цэлым раззбраенчыя тэндэнцыі ў свеце будуць прагрэсіраваць, хоць ядзерныя ракеты яшчэ доўга будуць знаходзіцца на ўзбраенні шэрага дзяржаў, выконваючы функцыю «стрымлівання». Вельмі многае будзе залежаць ад развіцця падзей у Расіі і, у прыватнасці, ад поспехаў праводзімых там эканамічных рэформаў...

**— Ці можна цяпер меркаваць, які характар здольна мець канфрантацыя Усходу і Захаду? У адрозненне ад процістаяння часоў «халоднай вайны», калі ў «барацьбе светаў» далёка не апошнюю ролю адыгрывалі ідэалагічныя ўстаноўкі, новае процістаянне, у прынцыпе, здольна стаць дэідэалагізаваным: усе краіны СНД, у тым ліку і Расія, узялі цвёрды курс на рыначныя пераўтварэнні, і іх падыходы да дзяржаўнай палітыкі даволі падобныя з падыходамі заходніх дзяржаў. Гісторыі вядома нямала фактаў, калі саперніцтва ідэалагічных саратнікаў праходзіла ў намнога больш вострых формах, чым ідэалагічных праціўнікаў...**

— Вельмі важна, каб у знешняй палітыцы ні ў Расіі, ні ў Захаду не перамагалі якія-небудзь ідэалагічныя меркаванні.

Сама меней непераканаўчымі здаюцца выказванні прыхільнікаў далейшага пранікнення НАТО на Усход аб тым, што гэты працэс з'яўляецца пашырэннем сферы дэмакратыі. Гэта не можа быць пераканаўчым аргументам яшчэ і таму, што сотні мільёнаў людзей, якія выраслі ва ўмовах ідэалагічнай канфрантацыі часоў «халоднай вайны», вельмі негатыўна ўспрымаюць ідэю пашырэння НАТО. Ва ўспрыманні большасці дарослага насельніцтва краін Садружнасці НАТО цяпер ужо не варожая арганізацыя, аднак яшчэ і не дружалюбная.

Калі Паўночна-Атлантычны альянс мае намер пашырацца, дык павінна існаваць адпаведная ўзаемапрыдатная для ўсіх бакоў канцэпцыя. Трэба памятаць: нельга ўмацаваць уласную бяспеку за кошт аслаблення бяспекі суседа.

**— Ці існуе рэальна выканальны рэцэпт правядзення Усходам і Захадам палітыкі, якая выключае якія-небудзь ускладненні ва ўзаемаадносінах?**

— Важна разумець: Расіі і нам будзе вельмі складана перашкодзіць імкненню былых сацыялістычных краін Еўропы ўступіць у НАТО. Гэтае жаданне прадыктавана зусім не імгненнай палітычнай кан'юнктурай, а абумоўлена іх гістарычным вопытам.

Тая ж Польшча здаўна ўспрымала Расію як крыніцу замахаў на свае нацыянальныя інтарэсы. У апошні раз інтарэсы Польшчы Савецкі Саюз ушчаміў у 1939 годзе — шляхам перадзелу існаваўшых тады дзяржаўных межаў, а ў 1945 годзе шляхам навязвання чужога палякам сацыялізму.

У сітуацыі, што цяпер склалася ў свеце, ідэальнай формулы прадухілення якіх-небудзь супярэчнасцей не існуе. Усяму сусветнаму супольніцтву трэба імкнуцца дасягаць узаемных кампрамісаў у імя галоўнай мэты — міру і добрасуседскага супрацоўніцтва.

Кожны крок у гэтым напрамку павінен разглядацца як элемент стварэння новай сістэмы міжнароднай бяспекі. Менавіта так трэба ўспрымаць паглыбленне інтэграцыі паміж Беларуссю і Расіяй, якая па сваёй сутнасці з'яўляецца натуральным і неад'емным кампанентам агульнаеўрапейскай інтэграцыі. Мэта беларуска-расійскіх пагадненняў — умацаванне стабільнасці як на постсавецкай прасторы, так і ў Еўропе ў цэлым. Такія ж мэты, на мой погляд, павінна праследаваць і палітыка заходніх краін на еўрапейскім кантыненце.

# ПРАВАВЫ КАНСУЛЬТАТЫЎНЫ САВЕТ БУДЗЕ ВЫРАШАЦЬ КАРДЫНАЛЬНЫЯ ПЫТАННІ

**Указам Прэзідэнта для вывучэння і прававой ацэнкі праектаў заканадаўчых актаў і канцэпцый дзяржаўнай палітыкі ў сферы прававога рэгулявання і правапрымяняльнай практыкі ў мэтах вызначэння неабходнасці іх прыняцця, а таксама прагназіравання эфектыўнасці дзеяння такіх законапраектаў і выпрацоўкі навукова абгрунтаваных прапаноў па іх рэалізацыі пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь створаны Прававы кансультатыўны савет.**

**На пытанні карэспандэнта аб дзейнасці савета адказвае яго старшыня, намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь доктар юрыдычных навук прафесар Аляксандр АБРАМОВІЧ.**

**— Аляксандр Міхайлавіч, якія пытанні будзе вырашаць Прававы кансультатыўны савет?**

— На яго ўскладаюцца задачы, вырашэнне якіх, думаю, будзе аказваць адпаведны ўплыў на нарматворчую і правапрымяняльную дзейнасць у нашай рэспубліцы. Асноўныя пытанні — гэта аналіз эканамічных, палітычных і іншых прадпасылак, якія прадвызначаюць прыняцце тых ці іншых нарматыўных актаў, вывучэнне сітуацыі ў прававой сферы, стану законнасці і правапарадку. Гэта таксама пытанні падрыхтоўкі праектаў нарматыўных актаў, вывучэнне практыкі работы адпаведных органаў у сферы правапрымянення. Савет будзе прагназіраваць вынікі рэалізацыі заканадаўчых актаў, даваць ацэнку мэтазгоднасці прыняцця як гэтых актаў, так і канцэпцый дзяржаўнай палітыкі ў сферы прававога рэгулявання грамадскіх адносінаў і правапрымяняльнай практыкі ў цэлым.

Вырашэнне гэтых пытанняў будзе мець вынікам падрыхтоўку адпаведных прапаноў і рэкамендацый прэзідэнту і іншым кампетэнтным органам, распрацоўку праектаў нарматыўных актаў або ўдзел у іх распрацоўцы, удзел у распрацоўцы і рэалізацыі адпаведных дзяржаўных праграм.

**— Што тут перш за ўсё маецца на ўвазе?**

— Ну, вось нядаўна, напрыклад, Вярхоўны Савет узняў, як вы ведаеце, пытанне аб унясенні адпаведных змяненняў у Канстытуцыю. І правільна. Хоць гэта не азначае, што Канстытуцыя, як некаторыя кажуць, не тая. Не. У цэлым яна адпавядае прагрэсіўным сучасным патрабаванням.

Аднак жыццё ідзе, яно паказвае, што некаторыя пытанні можна вырашыць больш удала і поўна. Да таго ж само развіццё нашага грамадства прадвызначае неабходнасць унясення адпаведных змяненняў і дапаўненняў у Асноўны закон, хоць наўрад ці будуць гэтыя змены кардынальнымі, прынцыповымі. У любым выпадку гэтае пытанне неабходна належным чынам вывучыць не толькі ў заканадаўчай, але і ў іншых галінах улады і зрабіць адпаведныя высновы, а магчыма, і даць прапановы суб'ектам заканадаўчай ініцыятывы, і перш за ўсё Прэзідэнту.

Акрамя таго, будзем прымаць удзел у распрацоўцы праграм па ўмацаванню грамадскага парадку, прававому выхаванню насельніцтва, планаванню і падрыхтоўцы законапраектных работ, арганізацыі распрацоўкі тых ці іншых кансалідаваных актаў, у першую чаргу кодэксаў. Ну, напрыклад, цяпер вядзецца распрацоўка праекта новага Грамадзянскага кодэкса. Магчыма, асобныя члены савета прымуць удзел у яго распрацоўцы або падрыхтуюць адпаведныя прапановы і рэкамендацыі.

А ўвогуле, гэта даволі складанае пытанне. Калі гаварыць сур'ёзна, то хочаш ці не хочаш, а ўсім нам — я маю на ўвазе не толькі наш савет, але і многія іншыя структуры — трэба падыходзіць да вырашэння існуючых як прававых, так і грамадскіх праблем наогул больш кардынальна. Гэта значыць, неабходна пачаць выпрацоўку канцэпцыі дзяржаўнага развіцця ў нашым грамадстве, выпрацоўку цэласнай канцэпцыі беларускай сістэмы заканадаўства. Зразумела, што ўсё гэта пажадана было б рабіць на базе распрацоўкі цэласнай канцэпцыі развіцця нашага грамадства, хаця б на бліжэйшы перыяд, 5—7 гадоў. Справа складаная, цяжкая, але, тым не менш, палітыкам, эканамістам, юрыстам, як і іншым спецыялістам, неабходна брацца за яе вырашэнне.

**— Якія ж сілы будуць прыцягнуты непасрэдна да распрацовак па ўдасканаленню прававой сістэмы?**

— Створаны пры Прэзідэнце савет будзе накіроўваць дзейнасць у галіне праватворчасці тых юрыдычных органаў і арганізацый, якія ёсць у сістэме выканаўчай улады. А іх нямала.

Паколькі ў савет уваходзяць і кіраўнікі іншых органаў дзяржаўнай улады, у тым ліку і адзін з намеснікаў кіраўніка Вярхоўнага Савета, то мы бачым добрыя магчымасці каардынацыі нашай працы са структурамі гэтых сістэм. Будзем абапірацца на вопыт і веды вядомых вучоных і спецыялістаў у галіне права, а іх у нас нямала, у тым ліку і сярод тых, хто не ўвайшоў па тых ці іншых прычынах у састаў Прававога кансультатыўнага савета.

**— Магчыма, савет будзе выконваць і адпаведныя экспертныя функцыі?**

— Так, калі ёсць прапановы, калі ёсць праекты, праграмы, унесеныя Прэзідэнту ва ўстаноўленым парадку, то яны павінны быць ацэнены з юрыдычнага пункту гледжання. Адпаведна патрэбна будзе рабіць і навуковыя заключэнні. А каб усё было звязана сістэмна, трэба мець і навуковы прагноз развіцця сітуацый пасля прыняцця і рэалізацыі адпаведных юрыдычных канцэпцый, праграм, праектаў і прававых актаў. Праўда, я не хацеў бы, каб вы думалі, што ўсё сказанае савет будзе рабіць у адносінах да ўсіх актаў, якія прымаюцца на прэзідэнцкім ці іншым узроўні, — ён фізічна не зможа гэта зрабіць. Уся наша дзейнасць павінна тычыцца важнейшых пытанняў прававога характару. Да таго ж не трэба забываць, што рашэнні савета будуць мець рэкамендацыйны характар. Праўда, у адпаведных выпадках і рэкамендацыя можа мець значныя вынікі.

**— Ці будзе савет нейкім чынам уплываць на няпростыя адносіны паміж Прэзідэнтам і парламентам?**

— На жаль, пакуль што Вярхоўны Савет нельга назваць у поўнай меры парламентам. Па сваёй дзяржаўна-прававой прыродзе ён у многім не парламент, а менавіта Вярхоўны Савет, гэта значыць орган з сістэмы савецкай арганізацыі дзяржаўнай улады. Так што нельга ў нашых вызначэннях забягаць наперад — яны не адпавядаюць рэчаіснасці.

Тым не менш, мяркую, што савет будзе імкнуцца аналізаваць развіццё арганізацыйна-прававых адносінаў паміж Прэзідэнтам, выканаўчай уладай, з аднаго боку, і заканадаўчай уладай, з другога боку, а магчыма, і некаторымі іншымі структурамі з тым, каб можна было прыняць узважаныя рэкамендацыі па забеспячэнню развіцця сітуацыі ў дэмакратычным накірунку, з улікам прынцыпу раздзялення дзяржаўнай улады, захавання стабільнасці ў краіне ў спалучэнні з неабходнай дынамікай на шляху да сацыяльнага прагрэсу.

**БЕЛТА.**

# ДЫПЛАМАТЫЧНЫ КОРПУС У МІНСКУ

**1. Пасольства Рэспублікі Балгарыя**
Адрас: Бранявы завулак, 5
Тэлефон: 27-55-00, 27-55-02
Факс: 36-56-61
Тэлекс: 25-21-84
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Марка Ганчаў Марынаў*

**2. Пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германія**
Адрас: вул. Захарава, 26
Тэлефон: 33-07-52, 33-27-14, 33-42-17
Факс: 36-85-52
Тэлекс: 25-22-72
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Готфрыд Альбрэхт*
Консульскі аддзел
Адрас: вул. Старавіленская, 44
Тэлефон: 34-00-87, 34-26-47

**3. Пасольства Рэспублікі Індыя**
Адрас: вул. Кальцова, 4, корп. 5
Тэлефон: 62-93-99
Факс: 62-97-99
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Рамеш Чандра Шукла*

**4. Пасольства Італьянскай Рэспублікі**
Адрас: вул. К. Маркса, 37
Тэлефон: 29-20-01/20/22, 29-29-69
Факс: 34-30-46
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Джан Лука Бертынета*

**5. Пасольства Кітайскай Народнай Рэспублікі**
Адрас: вул. Берасцянская, 22
Тэлефон: 22-44-95, 22-45-00
Факс: 22-44-96
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Чжао Сідзі*

**6. Пасольства Рэспублікі Польшча**
Адрас: вул. Румянцава, 6
Тэлефон: 33-02-60, 33-13-13
Факс: 36-49-92

**7. Пасольства Румыніі**
Адрас: зав. Масквіна, 4
Тэлефон: 23-80-97
Факс: 8-0172-10-40-85
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Нікалае Стыня*

**8. Пасольства Злучаных Штатаў Амерыкі**
Адрас: вул. Старавіленская, 46
Тэлефон: 31-50-00, 34-77-61
Факс: 34-78-53
Тэлекс: 52481 USARB SU
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Кенет Спенсер Ялавіц*

**9. Пасольства Турэцкай Рэспублікі**
Адрас: вул. Кірава, 17
Тэлефон: 27-13-83, 27-14-08
Факс: 27-27-46, 76-86-74
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Тансу Акандан (дуаен)*

**10. Пасольства Французскай Рэспублікі**
Адрас: пл. Свабоды, 11
Тэлефон: 23-62-29, 26-75-22
Факс: 8-0172-10-25-48
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Клод Жаліф*

**11. Пасольства Украіны**
Адрас: вул. Кірава, 17
Тэлефон: 27-70-04, 27-28-61
Тэлефон/факс: 27-28-61
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Уладзімір Іванавіч Жаліба*

**12. Пасольства Расійскай Федэрацыі**
Адрас: вул. Старавіленская, 48
Тэлефон: 50-36-65, 50-36-66, 34-63-56
Факс: 50-36-64
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Ігар Аляксандравіч Сапрыкін*

**13. Пасольства Латвійскай Рэспублікі**
Адрас: вул. Старажоўская, 15, гасцініца «Беларусь», 19-ы паверх
Тэлефон: 39-16-12
Факс: 50-67-84
Тэлекс: 252618 LATRB SU
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Яніс Лоўнікс*

**14. Пасольства Японіі**
Адрас: вул. Энгельса, 13, гасцініца «Акцябрская»
Тэлефон: 27-47-18
Факс: 27-43-19
*Паверааны ў справах сп. Акіра Татэяма*

**15. Пасольства Вялікабрытаніі**
Адрас: вул. К. Маркса, 37
Тэлефон: 29-23-03/04/05
Факс: 29-23-06
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Джэсіка Пірс*

**16. Пасольства Кыргызскай Рэспублікі**
Адрас: вул. Старавіленская, 57
Тэлефон: 34-91-17, 34-40-38
Тэлефон/факс: 34-16-02
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Барубек Чыйбылавіч Ашыраў*

**17. Пасольства Літоўскай Рэспублікі**
Адрас: вул. Варвашэні, 17
Тэлефон: 76-94-73, 34-77-84, 34-42-64
Факс: 76-94-71
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Віктарас Баўбліс*

**18. Пасольства Дзяржавы Ізраіль**
Адрас: Партызанскі пр., 6А
Тэлефон: 30-44-44, 30-42-98, 30-34-79
Факс: 8-017-2-10-52-70
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Эліяху Валк*

**19. Пасольства Рэспублікі Малдова**
Адрас: «Дразды», дача 32
Тэлефон: 50-39-52, 50-57-06
Факс: 50-65-73
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Іон Лешану*

**20. Пасольства Рэспублікі Арменія**
Адрас: вул. Кірава, 17
Тэлефон: 22-30-72, 27-51-53
Факс: 23-13-21, 27-23-39
*Паверааны ў справах сп. Спартак Ерыносавіч Кастанян*

**21. Пасольства Рэспублікі Казахстан**
Адрас: вул. Іванаўская, 56
Тэлефон: 35-59-43, 35-82-41, 36-20-61, 36-94-01, 29-30-83
Факс: 35-84-52
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Валерый Батаевіч Цемірбаеў*

**22. Нунцыят Святога Прастола**
Адрас: вул. Заслаўская, 25-242
Тэлефон: 23-47-27
Факс: 26-90-92
*Апостальскі Нунцый*

**23. Пасольства Чэшскай Рэспублікі**
Адрас: Бранявы зав., 5А
Тэлефон: 36-42-44, 36-34-50
Факс: 36-74-35
*Часовы Паверааны ў справах сп. Душан Даскачыл*
Гандлёвае прадстаўніцтва:
т. 36-94-11

**24. Пасольства Туркменістана**
Адрас: вул. Кірава, 17, к. 116
Тэлефон: 22-34-27
Факс: 29-33-67
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Ілья Вяльджанавіч Вяльджанаў*

●

**Генконсульства Рэспублікі Польшча ў Гродне**
Адрас: г. Гродна, вул. Будзённага, 48А
Тэлефон: 96-74-69
Факс: 44-85-17
*Генеральны консул сп. Марыуш Машкевіч*

**Генконсульства Расійскай Федэрацыі ў Брэсце**
Адрас: г. Брэст, вул. Вароўскага, 19
Тэлефон/факс: (01622) 5-56-70
*Генеральны консул сп. Анатолій Мікалаевіч Корсун*

**Генконсульства Эстоніі ў Мінску**
Адрас: Мінск, вул. Варвашэні, 17
Тэлефон: 34-64-86
Факс: 10-12-60
*Генеральны консул сп. Уладзімір Ф. Рэдпап*

**Генконсульства Славацкай Рэспублікі ў Мінску**
Адрас: Мінск, прасп. Пушкіна, 39, гасцініца «Арбіта», 12-ы паверх
Тэлефон: 57-78-52/53
Факс: 57-78-50
*Генеральны консул сп. Ізідор Пачыатэк*

**Консульства Латвійскай Рэспублікі ў Віцебску**
Адрас: Віцебск, вул. Леніна, 69
Тэлефон: 36-58-54
Факс: 37-01-40
*Віцэ-консул сп. Крузэ Армандс*

**Консульства Рэспублікі Польшча ў Брэсце**
Адрас: Брэст, вул. Крупскай, 14, гасцініца «Веста»
Тэлефон: (01622) 3-62-78
Факс: 80-64-24
*Консул сп. Ежы Рыхлік*

●

**Прадстаўніцтва ААН/ПРААН**
Адрас: вул. Кірава, 17
Тэлефон: 27-48-76, 27-81-49
Факс: 26-03-40
*Прадстаўнік сп. Павел Крал*

**Міжнародны валютны фонд**
Адрас: вул. Станкевіча, 1, к. 218
Тэлефон: 20-91-72
Факс: 20-30-19
*Прадстаўнік сп. Іштван Салкай*

**Выканаўчы сакратарыят СНД**
Адрас: вул. Кірава, 17
Тэлефон: 22-35-17
Факс: 27-23-39
*Выканаўчы сакратар СНД сп. Іван Міхайлавіч Каратчэня*

**Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця**
Адрас: вул. Савецкая, 7
Тэлефон: 20-32-39, 20-15-37
Факс: 20-76-68
*Прадстаўнік сп. Алан Папофф*

**Сусветны банк**
Адрас: Партызанскі прасп., 6А
Тэлефон: 26-06-44
Факс: 26-06-48
*Прадстаўнік сп. Крыстафер Уиллоўбі*

**Міжнародная фінансавая карпарацыя (Каардынацыйны цэнтр)**
Адрас: вул. Скарыны, 25
Тэлефон: 68-49-59/62, 68-59-88
Факс: 66-69-19
*Галоўны адміністратар сп. Джыл Цэціна*

**Міжнародная федэрацыя Таварыстваў Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца**
Адрас: вул. Маякоўскага, 14
Тэлефон: 21-72-37, 21-34-46
Факс: 21-90-60
*Кіраўнік прадстаўніцтва сп. Бернхард Хофман*

## ПАСЛЫ ПА СУМЯШЧАЛЬНІЦТВУ

**1. Пасольства Аўстраліі**
Адрас: г. Масква, Крапоткінскі зав., 13
Тэлефон: 956-60-70
Факс: 956-61-70
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Джэфры Бентлі*

**2. Пасольства Аўстрыйскай Рэспублікі**
Адрас: Масква, Стараканюшанны зав., 1
Тэлефон: 201-73-19/07/79
Факс: 230-23-65
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Вальтэр Зігль*

**3. Пасольства Іспаніі**
Адрас: г. Масква, вул. В. Нікіцкая, 50/8
Тэлефон: 202-21-61/80, 202-26-10/57
Факс: 200-12-30
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Эўхенео Брэгалат*

**4. Пасольства Фінляндскай Рэспублікі**
Адрас: ul. Klaipedas, 6, Yilnus, Lithuania
Тэлефон: 22-27-75
Факс: 22-24-63
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Тайста Талванен*

**5. Пасольства Каралеўства Швецыі**
Адрас: г. Масква, вул. Масфільмаўская, 60
Тэлефон: 956-12-00/01
Факс: 956-12-02
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Свен Хірдман*

**6. Пасольство Сацыялістычнай Рэспублікі В'етнам**
Адрас: г. Масква, вул. В. Пірагоўская, 13
Тэлефон: 247-02-12
Факс: 245-10-92
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Хуан Нгіем*

**7. Пасольства Новай Зеландыі**
Адрас: г. Масква, вул. Паварская, 44
Тэлефон: 956-35-79
Факс: 956-35-83

**8. Пасольства Каралеўства Нідэрланды**
Адрас: ul. Chocimska, 6, 00-791 Warsaw, Poland
Тэлефон: 49-23-51/2
Факс: 48-83-45
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Джорджэс Веры*

**9. Пасольства Вялікага Герцагства Люксембург**
Адрас: г. Масква, Хрушчоўскі зав., 3
Тэлефон: 202-21-71
Факс: 200-52-43

**10. Пасольства Каралеўства Даніі**
Адрас: г. Масква, зав. Астроўскага, 9
Тэлефон: 201-78-60/68
Факс: 201-53-57
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Хенрык Р. Іверсен*

**11. Пасольства Канады**
Адрас: г. Масква, Стараканюшанны зав., 23
Тэлефон: 956-66-66, 256-61-58
Факс: 241-44-00
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Джэрэмі Кінсман*

**12. Пасольства Рэспублікі Зімбабве**
Адрас: г. Масква, Серпаў зав., 6
Тэлефон: 248-43-64/67, 248-31-50
Факс: 230-24-97

**13. Пасольства Венгерскай Рэспублікі**
Адрас: ul. Cropina, 2,00-559, Warsaw, Poland
Тэлефон: 628-44-51/55
Факс: 621-85-61
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Габар Харс*

**14. Пасольства Швейцарскай Канфедэрацыі**
Адрас: Al. Ujazdowskie, 27, 00-540 Warsaw, Poland
Тэлефон: 628-04-81/82
Факс: 621-05-48
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Жан-Аліўе Кэнш*

**15. Пасольства Рэспублікі Карэя**
Адрас: г. Масква, вул. А. Талстога, 14
Тэлефон: 956-14-74, 956-24-34
Факс: 956-24-34
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Кім Сок Кю*

**16. Пасольства Каралеўства Нарвегіі**
Адрас: г. Кіеў, вул. Стралецкая, 15
Тэлефон: (044) 224-00-66, 212-43-85
Факс: 224-06-55
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Ойвінд Нордслеттэн*

**17. Пасольства Уругвая**
Адрас: г. Масква, Ламаносаўскі прасп., 38
Тэлефон: 143-04-04
Факс: 938-20-45
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Педра Донда*

**18. Пасольства Ісламскай Рэспублікі Іран**
Адрас: Кіеў, вул. Круглауніверсітэцкая, 12
Тэлефон: (044) 229-44-63, 229-34-66 31-11-39, 33-75-82, 33-78-08 (сакратар ў Мінску)
Факс: 229-32-55
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Бехзад Мазахеры*

**19. Пасольства Каралеўства Тайланд**
Адрас: г. Масква, Яропкінскі зав., 3
Тэлефон: 201-27-15, 201-48-93
Факс: 201-28-53

**20. Пасольства Рэспублікі Куба**
Адрас: ul. Rejtana 15 m. 9, 02-516 Warsawa
Тэлефон: (8-10-48-22) 48-25-73, 48-17-15
Факс: 48-22-31
Тэлекс: 813588 cuba pl
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Анна М. Р. Інхідуа*

**21. Пасольства Каралеўства Бельгіі**
Адрас: г. Масква, вул. М. Малчанаўка, 7
Тэлефон: 291-60-18/27, 291-05-31
Факс: 291-60-05
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Барон Цьеры дэ Грубен*

**22. Пасольства Мексіканскіх Злучаных Штатаў**
Адрас: г. Масква, вул. Шчукіна, 4
Тэлефон: 201-23-28, 201-22-97
Факс: 230-20-42
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп: Абелардо Трэвінья*

**23. Пасольства Аргенцінскай Рэспублікі**
Адрас: г. Масква, вул. Садовая-Трыумфальная, 4/10
Тэлефон: 299-16-70, 299-23-29
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Арнольд Мануэль Лістрэ*

**24. Пасольства Ірландыі**
Адрас: г. Масква, зав. Грахольскі, 5
Тэлефон: 288-41-01, 280-65-00
Факс: 975-20-66
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Ронан Мэрфі*

**25. Пасольства Кабо-Вердэ**
Адрас: г. Масква, вул. В. Спасская, 9
Тэлефон: 208-07-63, 208-08-56
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Луіш Фансека*

**26. Пасольства Рэспублікі Кіпр**
Адрас: г. Масква, вул. Герцэна, 51
Тэлефон: 291-37-26
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Антоніс Вакіс*

**27. Пасольства Рэспублікі Кенія**
Адрас: г. Масква, вул. В. Ардынка, 70
Тэлефон: 237-34-62, 237-47-02
Факс: 230-23-40
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Дзіксан І. Катамбана*

**28. Пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Бразілія**
Адрас: г. Масква, вул. Герцэна, 54
Тэлефон: 290-40-26
Факс: 200-12-85
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Тэрэза Марыя Машаду Кінтэла*

**29. Пасольства Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі**
Адрас: г. Кіеў, вул. Чырвонаармейская, 9/2 комплекс «Макулан», 7
Тэлефон: 227-71-72
Факс: 220-72-06
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Дыён ван Скуер*

**30. Пасольства Славацкай Рэспублікі**
Адрас: г. Масква, вул. Ю. Фучыка, 17/19
Тэлефон: 250-84-03, 251-29-29, 250-28-72
Факс: 973-20-81, 250-15-91
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Раман Палдан*

**31. Пасольства Рэспублікі Коста-Рыка**
Адрас: Масква, Рублеўская шаша, 26-23
Тэлефон: 415-40-14
Факс: 415-40-42
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Артура Роблес Арыяс*

**32. Пасольства Чылі**
Адрас: г. Масква, вул. Юнацтва, 11, будынак 1
Тэлефон: 373-91-76
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Джэймс Холгер*

**33. Пасольства Рэспублікі Албанія**
Адрас: г. Масква, вул. Мытная, 3-24
Тэлефон: 230-77-32
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Арбен Цыцы*

**34. Пасольства Рэспублікі Інданезія**
Адрас: ul. Wachocka 9, warsaw
Тэлефон: 617-51-79, 617-29-35
Тэлекс: 813680 indo pl
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Абдул Салам Гані*

**35. Пасольства КНДР**
Адрас: г. Кіеў, вул. Горкага, 114
Тэлефон: 269-99-82
Факс: 269-99-85
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Чжо Сон Бом*
Гандлёвае прадстаўніцтва
Адрас: Мінск, вул. В. Харужай, 5-29
Тэлефон/факс: 33-02-02
Тэлекс: 252494

**36. Пасольства Грэчаскай Рэспублікі**
Адрас: г. Масква, вул. Станіслаўскага, 4
Тэлефон: 290-22-74
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Кірыякас Радусакіс*

**37. Пасольства Рэспублікі Замбія**
Адрас: г. Масква, прасп. Міра, 52А
Тэлефон: 288-50-83, 288-18-88
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Нчымунья Джон Сікаулу*

**38. Пасольства Эфіопіі**
Адрас: г. Масква, Арлова-Давыдаўскі зав., 6
Тэлефон: 280-93-34, 280-99-17, 280-15-02, 280-98-18, 280-87-21

**39. Пасольства Саюзнай Рэспублікі Югаславіі**
Адрас: г. Масква, вул. Масфільмаўская, 46
Тэлефон: 147-41-03/04/05/06, 147-90-08
Факс: 147-41-08

**40. Пасольства Йеменскай Рэспублікі**
Адрас: г. Масква, 2-і Неапалімаўскі зав., 6
Тэлефон: 246-18-14, 246-15-31, 246-27-99, 246-44-27, 230-23-05

**41. Пасольства Камбоджы**
Адрас: Масква, Стараканюшанны зав., 16
Тэлефон: 201-47-36, 201-23-65, 201-21-15
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Сек Сетха*

**42. Пасольства Малайзіі**
Адрас: г. Масква, вул. Масфільмаўская, 50
Тэлефон: 147-15-14, 938-20-97
Факс: 147-15-26
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Датук Ях'я Баба*

**43. Пасольства Мальты**
Адрас: г. Масква, Каровін вал, 7-219
Тэлефон: 237-19-39
Факс: 237-19-39
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Джордж Саліба*

**44. Пасольства Бурундзі**
Адрас: г. Масква, Успенскі зав., 7
Тэлефон: 299-72-00, 299-48-58
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Эмануэль Гахунгу*

**45. Пасольства Партугаліі**
Адрас: г. Масква, Грахольскі зав., 3
Тэлефон: 280-15-74, 230-24-35
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Жазэ Мануэл Віллаш-Бааш*

**46. Пасольства Манголіі**
Адрас: г. Кіеў, вул. Кацюбінскага, 3
Тэлефон: 216-86-39, 216-87-51
Факс: 216-87-51
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Гуржавын Эрдэнэ*

**47. Пасольства Ганы**
Адрас: г. Масква, Скацертны зав., 14
Тэлефон: 202-18-70/71/90
Факс: 202-29-41
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол сп. Джон Бава*

# «СПАКОЙНЫ» РЭЙД

**Разгорнем карту беларускай сталіцы. У заходняй частцы мегаполіса размешчаны Фрунзенскі раён, па сваёй плошчы роўны цэламу гораду Брэсту. Зараз тут пяць буйных мікрараёнаў — Масюкоўшчына, Кунцаўшчына, Захад, Сухарава, Чырвоны Бор. Жыве шмат моладзі, і, на вялікі жаль, квітнее беспрацоўе. Акрамя ўсяго іншага, за Фрунзенскім замацавалася няслава аднаго з самых крыміналгенных куткоў Мінска.**

**І сапраўды, апошнім часам у раёне адбываецца мноства загадкавых і жахлівых здарэнняў. Пачасціліся кватэрныя крадзяжы — ці то ад нядбайнасці жыхароў, ці то ад нахабнасці рабаўнікоў. Скажам, на вуліцы Альшэўскага бандыты «накрылі» групу камерсантаў у іх кватэры і канфіскавалі на ўласную карысць 40 тысяч долараў.**

**А вось які «сюрпрыз» вырашылі паднесці сабе ў святочны дзень 8 сакавіка дзве жанчыны: першая, 21-гадовая дзяўчына, выкінулася з акна шостага паверха і разбілася насмерць, а ў яе пакоі потым знайшлі візіткі з замежнымі прозвішчамі; другая, старэйшая, таксама пераняла гэты негуманны прыклад, кінуўшыся ўніз з сёмага паверха, але яе выратаваў высокі сумёт — абышлася пераломамі некалькіх рабрын. Не ад добрага жыцця хацелі яны скончыць самагубствам.**

**Таму недарэмна праводзяцца масіраваныя міліцэйскія аперацыі, каб папярэдзіць жорсткія наступствы сямейных сварак, вулічных боек ці яшчэ больш сур'ёзных парушэнняў закона. Менавіта на такім прафілактычным рэйдзе ўдалося пабываць, калі ў пасляабедзенны час, а асабліва ў змрочную вячэрнюю пару горад «аблыталі» маршруты аўта- і пешых патрулёў аддзелаў УУС Мінгарвыканкома і брыгад унутраных войскаў. Мінск набыў нейкае зеленаватае адценне формы і латунны водбліск кукардаў.**

**ГАДЗІНА НА ПАСТУ ДАІ**

Інструктаж пачаўся ў тым самым Фрунзенскім РАУС, а дзесьці а палове трэцяй машыны ДАІ выехалі на «сцежку вайны». Наша 743-я перакрыла Т-падобнае скрыжаванне вуліцы Альшэўскага і праспекта Пушкіна. На шляху туды спачатку развезлі па дамах папярэднюю змену, а пасля руль «Жыгулёў» перайшоў у рукі сяржанта з пары іх зменшчыкаў.

Стаяць ля абочыны разбітай веснавой дарогі не вельмі ж прыемна: пырскі з-пад колаў праходзячага транспарту пастаянна вымушаюць адварочваць твар убок, а тралейбусы, што імчаць у кроку ад цябе, нагадваюць аб правіле «хто не паспеў — я не вінаваты»: не здолееш прадбачліва адскочыць, глядзіш, і закране металічным корпусам «прывязанага».

Праўда, бывалыя сяржанты-даішнікі не звярталі ўвагі на дробязі, а сканцэнтравалі яе ў асноўным, на святлафоры. Усе чамусьці з дзяцінства лічаць, што галоўныя агні ў гэтым электронным апараце — чырвоны і зялёны, а атрымліваецца — жоўты. Літаральна за дзесяць хвілін жазло бойкага міліцыянера прыпыніла дзве «Аўдзі» і фургон-«міжнароднік» «МАЗ» з Літвы. Іх вадзіцелі дапусцілі даволі распаўсюджанае парушэнне правілаў дарожнага руху — спрабавалі праскочыць з другараднай веткі на галоўную трасу на жоўтае святло. Прычым грузавік выкочваўся на праезную частку аднекуль з двароў, ствараючы дадатковую небяспеку. Стомлены і запэцканы маслам «дальнабойшчык» на аплату штрафу не пашкадаваў, усунуўшы замест належных 10 тысяч паперку наміналам у пяць разоў большую. Квіток забраў, а ад рэшты адмовіўся наадрэз.

Тармазнулі «ВАЗ-2101» з пластом бруду на пярэднім нумарным знаку. Да таго ж шафёр, хлопец у акулярах, не зусім пільна сачыў за тэхнічным станам асабістага «аўто», бо падчас дагляду знайшліся сякія-такія няспраўнасці. Нумары знялі, выпісалі накіраванне на дыягностыку, дзе, акрамя рамонту, чакаюць 50 тысяч штрафу.

Бачна, што санкцыі да парушальнікаў зусім не жорсткія: — што такое «паўрубель» для ўладальнікаў іншамарак? І скорасць яны часта перавышаюць, і з правіламі знаёмы вельмі прыблізна. Многія з іх доўга ездзяць па сумніўных даверанасцях, хоць і з усімі неабходнымі пячаткамі і штампамі, не змяняюць транзітныя нумары.

Праз гадзіну рацыя прашыпела: «743-і! Неадкладна ў распараджэнне 738-га на кальцавую, на Лагойскую развязку». Пакуль дабіраліся за горад, падумалі: а можа там буйная аварыя? Інакш навошта так тэрмінова выклікаць пост з Фрунзенскага раёна так далёка — на ўскраіну іншага канца сталіцы? За акном машыны, якая выціскала ўсю магчымую скорасць, мільгалі нязменныя атрыбуты сучасных прыгарадаў — недабудаваныя пакуль катэджы, а таксама на кожным павароце стаялі даішныя «Жыгулі» розных мадэляў.

Вось нарэшце і 738-ы. Становішча праяснілася: сёння тут прамчыцца картэж высокага дзяржаўнага мужа, а значыць, уся шуміха дзеля яго бяспекі. Дакладны час невядомы. Назад у Мінск, каб паспець на вячэрні развод патрулёў у райаддзел, прыйшлося ехаць на спадарожных з перасадкамі, слухаючы разважанні аб цяжкім і небяспечным жыцці-быцці на шашы.

**8 ГАДЗІН НА ПАТРУЛЬНАЙ МАШЫНЕ**

Мяркуючы па пастаўленай задачы, аперацыя ці рэйд нічым не адрозніваецца ад звычайнай штодзённай службы патрулёў. Увечары і ўначы будзем кружыць па маршруту,назіраючы за становішчам на вуліцах і працуючы па выкліках з цэнтра. Таму на задняе сядзенне знакамітага «УАЗа «— і наперад у невядомасць.

Наш шлях па працягласці немалы: плошча Прытыцкага—праспект Пушкіна—вул. Панамарэнкі—вул. Бельскага—вул. Жудро—вул. Альшэўскага з заездамі ў бліжэйшыя раёны па вул. Харкаўскай, вул. Матусевіча і інш. Пад наглядам гасцініца «Арбіта», дзе ёсць казіно і прастытуткі, якія любяць зрэдку «пазабаўляцца» з кліентамі, рэстаран «Баварыя», дзе летась чатырма кулямі быў забіты багаты наведвальнік, ну, і яшчэ некалькі забаўляльных устаноў. Можна чакаць развіцця бурных падзей гэтым вечарам.

Аднак дзяжурства выпала адносна спакойнае (міліцыянеры прама-такі дзякавалі нябёсам, што падкінулі мала працы) — не зарэгістравалі тады ў Фрунзенскім ні забойстваў, ні рабаўніцтваў, ні нават сямейных сварак, якіх, напэўна, і здарыцца не магло, бо народ латаў фінансавыя «дзіркі» пасля святаў, калі былі дашчэнту знішчаны запасы «выбухованебяспечнага» спіртнога.

Начны эфір прыносіў трывожныя паведамленні толькі ад суседзяў. Дзяжурны па гораду перадаваў прыметы чацвёркі малайцоў, што знялі з прахожага футравую шапку. Яшчэ два злодзеі пры дапамозе пісталета абчысцілі кішэні мужыка, адабраўшы апошнія 5 долараў і залатыя вырабы. Дзесьці ў падземным пераходзе ляжыць непрытомны таварыш — можа, выпіў лішняга, можа, больш сур'ёзна пацярпеў.

Мы ж праездзілі амаль упустую. Упершыню выклікалі нас на вымаганне. Праўда, як хутка ні імчалі, але частка вымагальнікаў паспела збегчы з кватэры ахвяры. Прыбыўшы па адрасу, убачылі ў пакоях 4 мужчын-каўказцаў са змрочнымі поглядамі, іх малалетніх суайчыннікаў і п'яную жанчыну-славянку. Што ж здарылася?

Брат аднаго з «нярускіх» здымаў у сястры гэтай мінчанкі кватэру, а выселіўшыся, не разлічыўся поўнасцю. Вось ваяўнічая амазонка і вырашыла аднавіць справядлівасць: напаіла трох былых зэкаў і ў іх кампаніі наведалася сюды, каб атрымаць свае 90 долараў. Каўказцы залапаталі, што грошай няма, тады экспрапрыятары ўзяліся выносіць тэлевізар. Пачуўшы званок у міліцыю, яны рэціраваліся, пакінуўшы разбірацца ініцыятарку. Прыйшлося загружаць у «клетку на колах» і яе, і гасцей Беларусі, у якіх аказаліся пашпарты без адзнак аб рэгістрацыі. Карацей, у апорным пункце ўсё высветляць.

Другім разам «кінулі» на сямейны скандал па вул. Берута. Беглі па лесвіцы на апошні, пяты паверх. Пазванілі ў дзверы, а з-за яе пачуўся голас выпіўшага старога:

— Навошта міліцыя? Ужо нічога няма. Зbrowікніце туды, адкуль прыехалі.

Суседзі, якія звярнуліся ў аддзел, таксама не адчынілі дзверы. Няхай, спатрэбімся — выклічуць яшчэ. Дзверы ламаць без санкцыі пракурора дазваляецца толькі ў выпадках, калі чуваць гукі барацьбы, крыкі аб дапамозе, ці там засеў небяспечны злачынца.

Вось і ўсё, што здарылася на маршруце. У асноўным прыходзілася стаяць і чакаць, эканоміць каштоўнае паліва, якога звычайна не хапае на змену, ці ездзіць па вуліцах, выглядаючы «здабычу». «Эканом, эканом, эканом!» — правіла нашай патрульна-паставой службы: машыны старыя, рацыя старая, бензін па ліміту і г. д.

**15 ХВІЛІН У РАЙАДДЗЕЛЕ**

Пакуль дзяжурная машына рыхтавалася развозіць па дамах адпрацаваўшую змену патрулёў, паназіралі за начным РАУС. Неймаверны шум, гоман, мітусня. З вуліцы прыводзяць хуліганаў, падазроных. Старэйшы ў нарадзе піша пратакол затрымання, астатнія тоўпяцца за шклом дзяжуркі і кураць.

Тут і хлопец, у аўтамабілі якога на вул. Панамарэнкі знайшлі дзве гаспадарчыя торбы з каністрамі, дзе боўтаецца 31 літр разбаўленага спірту. У камеру ўкінулі буянага мацака з разбітымі вуснамі: ён пры затрыманні парваў кішэню на форменнай куртцы старшага сяржанта, а пасля, ужо ў аддзеле, блытаўся, крычаў, пляваўся і ўсім перашкаджаў працаваць. Суткі напралёт людскі рух...

**Сяргей ХРЫПАЧ, прэс-цэнтр МУС.**

## КАНЕЦ АЎТАМАБІЛЬНАЙ БАНДЫ

**Крычаўская міліцыя абясшкодзіла арганізаваную групу аўтаўгоншчыкаў. Зладзеі і сапраўды былі надзвычай нахабнымі: толькі ў студзені ўчынілі 9 гаражных узломаў, з іх 7 — у адну ноч.**

У пачатку лютага чавуская міліцыя паведаміла крычаўскім калегам, што ў лесе выяўлены цэлыя аўтамогілкі, дзе «ляжала» і «паўраздзетая» крычаўская «васьмёрка». Пачаліся пошукі слядоў, адпрацоўка версій. І вось у чарговага жыхара Крычава такім жа спосабам укралі «дзевятку».

— Нам ужо было вядома, — расказвае начальнік мясцовага крымінальнага вышуку Аляксандр Маісееў, — што ў вёсцы Антонаўка Чавускага раёна жывуць браты М., «страшэнна захопленыя» аўтамабілямі. Яны і «раскалоліся», выдаўшы чатырох супольнікаў. Чатыры опергрупы выехалі ў Магілёў і ўзялі іх цёпленькіх у пасцелі. У аднаго з іх, дарэчы, аказаўся газавы пісталет, пераабсталяваны пад баявы.

**Аляксандр МІХАЙЛАЎ.**

## З'ЯВЯЦЦА НОВЫЯ МОГІЛКІ

**Як паведамілі ва ўпраўленні камунальнага абслугоўвання Мінгарвыканкома, у сталіцы плануецца адкрыццё новых могілак — «Заходніх». Прыкладна за 15 км ад Мінска (раён ЦЭЦ-4) пад іх адводзіцца тэрыторыя ў памеры 60 га.**

На сённяшні дзень на двух дзеючых могілках горада — «Міханавічы» і «Калодзішчы» — прадугледжаны так званыя сямейныя пахаванні, дзе сваякі нябожчыка маюць магчымасць пакінуць побач з магілай месца для іншага члена сям'і. Прычым зямля ў гэтым выпадку прадастаўляецца бясплатна. Акрамя таго, у мінчан ёсць і іншы спосаб не разлучаць блізкіх людзей пасля іх смерці — крэміраванне. Той, хто аддаў перавагу менавіта гэтаму віду пахавальных паслуг можа без перашкод пахаваць урну з прахам нябожчыка побач з магілай любога сваяка (у тым ліку і на закрытых ужо на гэты час могілках).

**Надзея НІКАЛАЕВА.**



*ПОГЛЯД*

# УВЕРХ ПА ПРЫСТУПКАХ ДАВЕРУ

**У апошні час шэраг газет змясцілі фотарэпартажы, фотаздымкі, каментары, на якіх супрацоўнікі міліцыі паказаны толькі як адмоўныя персанажы: яны цясняць неўтаймоўных маніфестантаў, абыякава глядзяць на людзей, якія ляжаць на асфальце. Вось таму ў некаторых чытачоў хочаш не хочаш узнікае думка, што ў чалавека ў форме счарсцвелая душа, адсутнічаюць элементарнае пачуццё суперажывання і імкненне да справядлівасці.**

Усё гэта не можа ў чалавека, які праслужыў у органах унутраных спраў верай і праўдай дзесяткі гадоў, не выклікаць пачуцця горычы і перажывання, бо супрацоўнік міліцыі, і гэта павінен ведаць кожны, нават у самыя адказныя моманты гісторыі не павінен быць падобным на звычайную лакмусавую паперку, якая ў залежнасці ад таго, куды яе апусцяць, лёгка можа змяніць сваю афарбоўку. У любым выпадку яго дзейнасць павінна грунтавацца на законе, які патрабуе абараняць чалавека, яго правы, годнасць, гонар і ўласнасць, незалежна ад грамадзянскай пазіцыі таго, палітычных і рэлігійных поглядаў. Гэта з'яўляецца лейтматывам усёй службы супрацоўніка міліцыі. Прыстойныя людзі незалежна ад чыну сумленна рэалізоўваюць свае функцыі, пра гэта гавораць і паказчыкі раскрытых злачынстваў а ў шэрагу выпадкаў і паспяховая прафілактычная работа. Але ў дзейнасці праваахоўных органаў ёсць яшчэ адзін «пікантны» абавязак — нясенне службы па ахове грамадскага парадка ў перыяд правядзення рознымі рухамі шэсцяў, дэманстрацый, мітынгаў. Як тут не пераступіць нябачную мяжу, знайсці залатую сярэдзіну?

Возьмем, напрыклад, вядомыя падзеі 24, 31 сакавіка і 2 красавіка бягучага года ў сталіцы.

Супрацоўнікі міліцыі ў гэтыя дні, як вядома, неслі службу па ахове таго ж грамадскага парадку ў час правядзення мітынгаў і пікетаў. Чытачы газеты, мяркую, ведаюць розныя меркаванні ў іх ацэнцы. Думаю, што было б пахрысціянску яшчэ ў гэтыя велікодныя дні папрасіць прабачэння ў тых, хто 24 сакавіка атрымаў у запале эмоцый траўму маральную ці фізічную, вывіх, рану. Бо гэта былі нашы беларускія грамадзяне, і ў рэшце рэшт пры жаданні прымірэння не так важна хто ў гэтым павінен: супрацоўнікі міліцыі, ці самі пацярпеўшыя. Было б велікадушна, калі б гэта зрабілі і тыя ўдзельнікі мітынгу, якія, згараючы ад імгненнай нянавісці да чалавека ў форме, плявалі яму ў твар, а той, апусціўшы вочы, толькі паспяваў выцірацца рукавом.

Паглядзіш на зусім яшчэ маладыя твары байцоў АМОНа — і становіцца не па сабе. Яшчэ ўчора гэтыя хлопцы з добразычлівымі, адкрытымі позіркамі патрулявалі па вуліцах горада, дапамагалі тым, хто трапіў у бяду. Ім незразумела, чаму сёння ў позірках сваіх суграмадзян яны бачаць нянавісць і чуюць выкрыкі тыпу: «Ну што, зарабілі сабе на пахлёбку...» Як няўмела юнакі часам спрабуюць напусціць суровасць на свае твары, некаторыя з якіх яшчэ пакрыты дзіцячым пушком.

Не менш важна, каб і ў грамадзян не пахіснуўся давер, калі ў іншых абставінах ужо заўтра ўзнікне неабходнасць звярнуцца па дапамогу да супрацоўніка міліцыі.

Скажу шчыра, без асаблівага энтузіязму супрацоўнікі розных падраздзяленняў міліцыі выходзяць на службу ў час дэманстрацый, шэсцяў і мітынгаў. Кожны супрацоўнік хоча, каб не было сутычак паміж людзьмі, каб старэйшыя змаглі правільна ацаніць абстаноўку і не паспяшаліся б даць неабдуманую каманду, якая пагражае ўзрушыць наэлектрызаваны натоўп людзей. Горш за ўсё, калі знойдуцца такія людзі, якія памыляцца ці захочуць справакаваць канфлікт, парушыць хрупкую раўнавагу, тады чакай бяды.

У мэтах папярэджання сутыкненняў і масавых беспарадкаў прымяняюцца і цярплівая растлумачальная работа, і там, дзе трэба, дэманстрацыя сілы ў выглядзе курсіравання побач з усхваляванымі натоўпамі людзей экіпіраваных, са шчытамі і ў касках байцоў. Элементы гэтага былі прыменены супрацоўнікамі міліцыі ў тыя дні ў сталіцы, у прыватнасці і 2 красавіка. Не бяруся меркаваць аб дзейнасці міліцыі ў той вечар у цэлым, але ў яе дзеяннях бачна было жаданне знайсці тую залатую сярэдзіну, якая не робіць чалавека ў форме крайнім, вінаватым «ва ўсіх грахах», падобным на «ланцужнага сабаку». Толькі на праспекце Ф. Скарыны ля помніка Дзяржынскаму сітуацыя магла выйсці з-пад кантролю, калі супрацоўнікі міліцыі атрымалі каманду не дапусціць дэманстрантаў на несанкцыяніраваны мітынг на плошчу Незалежнасці і строга выконвалі загад. На невялікі пятачок прыбывалі і прыбывалі людзі.

Супрацоўнікі міліцыі маглі пагарачыцца, што было б памылкай, але стрымаліся, уступілі, хоць гэта і не прадугледжвалася раней, правы бок праезнай часткі праспекта. І калі ўдзельнікі мітынгу нарэшце выйшлі да Палаца спорту, высветлілася, што ў іх няма гучнагаварыцеляў, а гэта ставіла пад пагрозу зрыву іх мерапрыемствы. Як сцвярджалі выступіўшыя на мітынгу, мегафоны ім далі самі супрацоўнікі міліцыі, нават былі сказаны словы падзякі за гэта, а таксама выказана ўдзячнасць за забеспячэнне парадку ў час руху калоны людзей па вуліцах горада. І хоць не было чуваць апладысментаў, тым не менш, супрацоўнікі вярталіся на базу з пачуццём выкананага абавязку. Галоўнае — гэта тое, што не было яўных сутыкненняў, сур'ёзных маральных і фізічных траўмаў у людзей. Значыць, чалавек, які жадае ўдзельнічаць у мітынгу, сваё права рэалізаваў чаму не перашкодзілі і супрацоўнікі міліцыі. Але ўсё-такі без «ЧП» не абышлося. Пасля таго, як усе ўдзельнікі мітынгу разышліся, каля Палаца спорту застаўся ляжаць з разбітай галавой чалавек, якому нехта з супрацоўнікаў міліцыі палажыў пад галаву шапку. Была выклікана «хуткая». У той жа час адна ўсхваляваная жанчына старалася знайсці трох сведак, якія маглі б пацвердзіць, што пацярпеўшы ўпаў сам. Бо пасля, як яна лічыла, удзельнікі мітынгу маглі б абвінаваціць у яго наўмысным збіванні тых, хто нёс службу. Было відаць, што меў месца няшчасны выпадак, што сярод прысутных непрыстойных людзей няма, было больш даверу і нармальнай чалавечай павагі адзін да аднаго.

Так і напрошваецца вывад: — вось і надалей бы так. Хочацца спадзявацца, што прыйдзе той час, калі людзі, незалежна ад іх меркаванняў і палітычных поглядаў, пачнуць больш давяраць супрацоўнікам якія, у сваю чаргу, будуць непрадузята дзейнічаць у межах закона. А значыць і іх будуць больш паважаць, і яны будуць адчуваць сваю неабходнасць грамадству. У гэтым, мяркую, патрэбна ім дапамога.

**Васіль КУРЛОВІЧ,**
**афіцэр міліцыі.**

## ДАЧНЫЯ КЛОПАТЫ

# У дапамогу лапаце




*Ручны каток: 1 — драўляная калода (абабітая жалезам), 2 — скрабок, 3 — дзяржанне.*

**Колькі б ні выпускала прамысловасць розных машын і прылад працы, механізаваць усе сельскагаспадарчыя працэсы на агародзе і ў садзе наўрад ці каму-небудзь удасца. А для ручной работы патрэбны не проста добры, а высокапрадукцыйны інвентар — толькі тады праца на індывідуальным участку стане сапраўды ў радасць. І такія інструменты можна зрабіць самому.**

Вось, напрыклад, **ручны каток** *(гл. мал.)*. Ён прызначаны для ўшчыльнення зямлі ў парніках, садзе і на градках. Прымяняюць яго і для прыкочвання глебы пасля пасеву.

Каткі бываюць рознага дыяметра і шырыні — у залежнасці ад памераў участка. Вага іх можа быць ад 5 да 20 кг. Змайстраваць ручны каток прасцей за ўсё з драўлянай калоды. А каб зямля менш прыліпала, паверхню катка абіваюць лістом жалеза і фарбуюць. Для ачысткі ад зямлі, якая наліпла, устанаўліваюць скрабок з паласавога жалеза. Каток насаджваюць на дзяржанне даўжынёй 1500—1700 мм.

Другі зручны інструмент — **ручныя маркёры**. Іх прымяняюць пры падрыхтоўцы баразёнак або лунак перад пасевам насення або пікіраваннем расады. Самы просты па канструкцыі — націскны 3-радны драўляны маркёр. Яго вы бачыце на другім малюнку. Для вырабу такога маркёра спатрэбіцца толькі дошка і рэйкі. Ён складаецца з асновы, дзяржання, распоркі, трохгранных рэек, якія ўтвараюць баразну, і метчыка.

Даўжыня асновы маркёра роўная шырыні парніка ці градкі. Рэйкі мацуюцца да яе пры дапамозе цвікоў. Адлегласць паміж вяршынамі рэк — 50 мм, але можа быць і іншай, у залежнасці ад патрабаванняў агратэхнікі да высяваемай культуры.

Метчык служыць для абазначэння чарговага месца, куды павінен быць перастаўлены маркёр. Пры рабоце яго проста ўціскаюць у глебу нагой.




*Трохрадны ручны маркёр: 1 — аснова, 2 — дзяржанне, 3 — распорка, 4 — рэйка (3 шт.), 5 — метчык.*



## ВЫ ПРАСІЛІ РАСКАЗАЦЬ

# Як прыгатаваць шпаклёўку для падлогі?



**З такім пытаннем звярнуўся ў «ХЭ» наш чытач Хвайніцкі Г. Б. «Пенсіі не хапае для таго, каб запрасіць спецыялістаў, таму рамонт падлогі вырашыў рабіць сам», — напісаў Генадзь Баляслававіч.**

У магазінах прадаюцца гатовыя шпаклёвачныя матэрыялы, але пры неабходнасці іх можна прыгатаваць і самому. Рыхтуецца шпаклёўка непасрэдна ў дзень яе прымянення і выкарыстоўваецца цёплай. А каб яна не астывала ў час работы, яе можна паставіць у таз з цёплай вадой, якую перыядычна трэба мяняць.

Пад алейныя фарбы прымяняюць паўалейныя і алейныя шпаклёўкі. Для атрымання **паўалейнай шпаклёўкі** 20 г вадкага мыла раствараюць у 200 г 10-працэнтнага гарачага клеявога раствору. Дабаўляюць 1 кг пакосту (олифы), 250 г шкіпінару, 50 г сікатыву і, бесперапынна памешваючы, усыпаюць мел да атрымання рыхлага цеста.

**Алейная шпаклёўка** рыхтуецца з пакосту «Аксоль» або натуральнага пакосту — 500 г, сікатыву вадкага — 25 г, 10-працэнтнага сталярнага клею — 100 г, шкіпінару — 125 г, мыла вадкага — 10 г, сухога прасеянага мелу — 2,5—3 кг. Тэхналогія прыгатавання такая ж, як і паўалейнай шпаклёўкі.

Перад шпакляваннем падлогі з яе абавязкова неабходна зняць старую фарбу, што лушчыцца, і старую шпаклёўку. Потым зачысціць падлогу і вымыць мыльнай вадой або растворам соды (20—25 г на 1 л вады), добра прасушыць і толькі пасля гэтага нанава шпакляваць і фарбаваць падлогу. Пры шпакляванні падлогі трэба старанна замазаць усе шчыліны і выбоіны. Пасля засыхання шпаклёўку зачышчаюць і шліфуюць пемзай і шліфавальнай скуркай, прымацаванай да драўлянага бруска. Іншы раз для паляпшэння якасці падлогі шпаклёўку выконваюць двойчы.

Каб паверхня падлогі была роўнай, без трэшчын, яе пакрываюць марляй. На толькі што нанесеную шпаклёўку рассцілаюць марлю, добра яе расцягваюць і шпаклююць падлогу яшчэ раз так, каб марля была закрыта зусім. Пасля высыхання шпаклёўку зачышчаюць і шліфуюць. Потым пачынаюць фарбаванне падлогі (лепш у 2-3 прыёмы). Калі падлога высахне, яе мыюць цёплай вадой, у якую дабаўляюць 1-2 шклянкі воцату і 2-3 сталовыя лыжкі нашатырнага спірту, каб папярэдзіць адлушчванне фарбы ад падлогі. І акрамя таго, пасля такой апрацоўкі падлога набудзе прыемны бляск.



# УСХОДНІ ГАРАСКОП

## НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ

***З Дэлі перадае кар. ІТАР—ТАСС Юрый КАЗЬМІН***

КАЗЯРОГУ важна на гэтым тыдні не заблытацца ў тых складаных лабірынтах, у якіх ён апынецца. Абстаноўка на службе мяняецца так хутка, што часам можна не паспець за падзеямі. Для набыцця каштоўнага падарунка ці вырабу звярніцеся па дапамогу да вопытнага эксперта. Памятайце, што махлярства яшчэ існуе. Устрымайцеся ў гэтыя дні ад ужывання «зялёнага змея».

ВАДАЛЕЮ зоркі абяцаюць многае, але для атрымання ўсяго гэтага неабходна прыкласці нямала намаганняў. Хоць некаторым абяцаны прыбытак, усё ж праверце ўсе паперы, што датычацца вашага бізнесу, — існуе магчымасць падману з боку даўняга дзелавога партнёра. Потым можаце смела заключаць новыя здзелкі, перыяд для гэтага будзе спрыяльны.

У справах дамашніх РЫБЫ зноў паказваюць сябе з выдатнага боку. Ваша гаспадарчасць па заслугах будзе ацэнена членамі сям'і. Для некаторых магчыма атрыманне каштоўнага падарунка. Студэнтам пажадана ў гэтыя дні пабольш часу правесці над падручнікамі. Памятайце, што набліжаецца сесія і ад вынікаў здадзеных экзаменаў будзе залежаць многае. Маладой даме прапануюць перайсці на новае месца службы.

Даволі добра ідуць справы ў АВЕНА. Можна спадзявацца на сваю інтуіцыю і смела распачынаць любыя справы. Бізнесменам пажадана старанна ўсё праверыць, а потым ужо падпісваць новы кантракт. У адносінах з дамашнімі поўнае ўзаемаразуменне. Магчыма захапленне маладой незнаёмкай, але не забывайцеся пра справы. Занятым у гуманітарных навуках могуць уручыць прэмію ці падарунак.

ЦЯЛЬЦУ наступны тыдзень пагражае неспакоем і лепш устрымацца ад актыўнай дзейнасці. Некаторым рэкамендуем адпачыць у краіне блізкага замежжа. Не выключана, што ў канцы тыдня вас могуць запрасіць на сямейную ўрачыстасць даўнія сябры. У гэтыя дні пастарайцеся пазбягаць прастудных захворванняў.

З-за нявырашанасці праблем па службе БЛІЗНЯТЫ могуць апынуцца ў даволі складанай сітуацыі. Як раяць зоркі, цяпер неабходна больш часу ўдзяляць менавіта гэтым пытанням. У той жа час небяспечная паспешлівасць, можна аказацца ўцягнутым у складаную здзелку, якая не дасць чакаемага даходу.

Авантуры проціпаказаны РАКУ, які спрабуе ў сціслыя тэрміны стаць багатым. У гэтыя дні лепш не падпісваць прапануемы партнёрам кантракт, а пачакаць больш спрыяльнага для гэтага часу. Бойцеся доўга знаходзіцца на адкрытым паветры: не выключана магчымасць прастудных захворванняў. Пазбягайце канфліктаў у грамадскіх месцах.

Зноў поўны сіл і аптымізму ЛЕЎ. У гэтыя дні даўні сябар дапаможа ажыццявіць адну даўно задуманую вамі ідэю, што яшчэ вышэй ўздыме ваш аўтарытэт. Што датычыцца адносінаў у сям'і, дык не выключана непаразуменне ў адносінах з дзецьмі, але, як запэўніваюць астролагі, гэта часовая з'ява і не варта надаваць гэтаму асаблівага значэння. Праз нейкі час маладое пакаленне зразумее свае памылкі.

ДЗЕВЕ ў гэтыя дні пажадана больш часу ўдзяляць справам, звязаным з пакупкай нерухомасці. Гэтае пытанне цяпер з'яўляецца адным з самых важных. Зоркі таксама ўказваюць, што неабходна праявіць пабольш асцярожнасці ў адносінах з новымі знаёмымі. Апасайцеся хатніх жывёл. Занятым у гандлі лепш не мяняць месца службы на больш высокааплатнае.

Дастаткова стабільна вядуць свае справы ШАЛІ. Добрыя адносіны з саслужыўцамі служаць залогам далейшага прасоўвання па службовай лесвіцы. На працягу тыдня вам будзе зроблена адразу некалькі дзелавых прапаноў, і трэба выбраць найбольш аптымальную. У гэтых справах не слухайце парад, а спадзявайцеся на ўласныя сілы. З'явяцца дадатковыя магчымасці папаўнення бюджэту.

СКАРПІЁНУ ў гэтыя дні неабходна актывізаваць намаганні для пошукаў новага месца службы. Праблемы ў сям'і ствараюць неспрыяльную абстаноўку, але варта памятаць, што дасягненне ўзаемаразумення залежыць не толькі ад вашай «палавіны», але ў многім і ад вас саміх. Устрымайцеся ад ужывання спіртных напояў, гэта станоўча адаб'ецца на стане здароўя.

СТРАЛЬЦУ трэба менш марыць, а актыўна заняцца даручанай яму справай па службе. Маладым зоркі раяць павысіць узровень сваёй адукацыі, паколькі не выключана, што вам прапануюць месца па службе, якое раней здавалася недасягальным. Занятым у медыцыне абяцаюць абарону дысертацый, а ў гандлі — заключэнне новай выгаднай здзелкі.

## ВАРТА ПРЫСЛУХАЦЦА

# Каб не нашкодзіць

**Аматаркі ўпрыгажэнняў часта ўнізваюць пярсцёнкамі ўсе пальцы. Але ці такая ўжо бяскрыўдная гэтая фанабэрыя?**

Справа ў тым, што на руках шмат адчувальных кропак, звязаных з тымі ці іншымі ўнутранымі органамі. Спецыяльныя замежныя даследаванні паказалі, што цесныя «абдымкі» пярсцёнка небясшкодныя, асабліва калі яго носяць не здымаючы. Пярсцёнак на безыменным пальцы можа правакаваць мастапатыю, захворванні палавых органаў і эндакрынных залоз, пярсцёнак на сярэднім пальцы — атэрасклероз, гіпертанію, на ўказальным — астэахандроз і радыкуліт. Цесны пярсцёнак на мезінцы прыводзіць да паталогіі дванаццаціперснай кішкі. Таму не перагружайце рукі пярсцёнкамі, абавязкова здымайце на ноч нават заручальны пярсцёнак. Час ад часу давайце рукам поўны адпачынак.

***

Папулярнасць плеера з'яўляецца прычынай таго, што сярод моладзі стала імгненна распаўсюджвацца глухата. Цесна прыціснутыя навушнікі і занадта моцная музыка выклікаюць праблемы слыху ва ўсё большай колькасці дзяцей. Калі выкарыстоўваць прыбор на поўную моц, то на вушы прыпадае нагрузка ў 110 дэцыбел. Здаровыя барабанныя перапонкі могуць вытрымліваць гэта без шкоды максімум паўтары хвіліны. Дарэчы, 110 дэцыбелаў адпавядаюць шуму, які ўтвараецца стартуючым паблізу самалётам. Урачы апасаюцца, што многія маладыя людзі адразу ж пасля плеера пяройдуць да слухавога апарата. Як лічаць спецыялісты, у бліжэйшыя гады сярэдні ўзрост людзей з непаўнацэнным слыхам значна панізіцца.

## РАПТАМ СПАТРЭБІЦЦА

# Незаменны ў паводку

**Для многіх жыхароў нашай рэспублікі гумавыя боты цяпер — асноўны абутак. Таму дарэчы будуць наступныя рэкамендацыі.**

◆ Ніколі не сушыце гумавы абутак каля агню. Лепш змайструйце няхітрую вешалку з дроту, якая дазволіць ботам не толькі хутка прасохнуць, але і захавае халявы ад паяўлення на іх паверхні складак, а значыць і трэшчын.



◆ Старым гумавым вырабам можна вярнуць эластычнасць і мяккасць, апусціўшы на 20—30 хвілін у слабы раствор нашатырнага спірту або на 1-2 гадзіны ў чыстую газу. Пры гэтым трэба памятаць, што працяглае знаходжанне гумы ў газе не толькі размякчае яе, але і значна павялічвае ў аб'ёме. Размякчаную гуму неабходна прамыць у цёплай вадзе з мыйным сродкам і насуха выцерці.

◆ Надзяваючы на нагу гумавы бот з вузкай халявай, апусціце ў яго з боку задніка старую капронавую панчоху і прытрымлівайце яе канец з вонкавага боку. Гладкая слізкая паверхня панчохі ўнутры бота дапаможа назе без асаблівых намаганняў прайсці праз халяву. Пасля гэтага панчоху лёгка выцягнуць.



## РУКАДЗЕЛЛЕ

# Вам патрэбны дыванок

**«Толькі падмяла — зноў пяску нанеслі!» — выгаворвае гаспадыня дзецям. А яны невінаватыя: у гэтую пару года, калі зямля адтала, а травы яшчэ няма, цяжка падтрымліваць чысціню ў пярэднім пакоі, усё роўна будзе пясок на падлозе.**



Дапамагчы справе можа спецыяльны дыванок для выцірання ног ля парога. І не гумавы, які ёсць у продажы ў гаспадарчых магазінах, а лепш самаробны, звязаны са старых капронавых панчох або калготак з абрэзаным верхам і нізам. Сшыць такі дыванок проста. Кожную панчоху разразаем па касой спіралі на палоскі, палоскі звязваем адна з адной і змотваем у клубок. З атрыманай «ніткі» вяжам з дапамогай тоўстага кручка палатно дыванка памерам 40х50 см. З краёў яго можна абшыць тасьмой або звычайнай стужкай. Такі дыванок лёгка мыць, і сохне ён хутка. Вельмі практычны: трывалы, цудоўна ўбірае вільгаць, пыл, утрымлівае пясок, сухую зямлю.

## СКАРБОНКА ВОПЫТУ

# Навука прасаваць

**Правільна прасаваць — гэта цэлая навука, сцвярджаюць вопытныя гаспадыні. Прапануем некалькі карысных парад з гэтай нагоды.**

◆ Прасаваць рэкамендуецца толькі чыстую бялізну, бо гарачы прас выявіць нават ледзь прыметныя раней плямы.

◆ Перад прасаваннем неабходна зашыць, зацыраваць усе дзіркі: яны маюць уласцівасць распаўзацца пад прасам.

◆ Перасушаную бялізну цяжка прасаваць, у гэтым выпадку трэба пакласці на прасавальную дошку намочаную і адціснутую прасціну — прасаваць стане лягчэй.

◆ Адзенне з натуральнага шоўку і чыстай шэрсці не рэкамендуецца часта прасаваць. Лепш яго пачысціць вільготнай шчоткай і потым павесіць на плечкі.

◆ Шоўк прасуюць не вельмі гарачым прасам з левага боку. Не пырскайце на яго вадой. Ад яе застаюцца плямы і разводы, утвараюцца зборкі, згібы.

◆ Пакамечанае шарсцяное адзенне не заўсёды трэба распрасоўваць. Дастаткова павесіць яго на плечыках над тазам з гарачай вадой, ад якой падымаецца пара.

◆ Джынсавыя тканіны можна прасаваць па рэжыму прасавання баваўняных вырабаў, але ні ў якім разе іх нельга перасушваць пасля мыцця.

◆ Рэчы з аб'ёмнай пражы прасаваць нельга, бо магчыма страта рэльефнасці малюнка.

◆ Каб не дапусціць псавання вырабаў, неабходна ведаць тэмпературу прасавання асноўных відаў валокнаў. Ніжэй прыводзім гранічную тэмпературу, дапушчальную пры прасаванні:

ільняныя — 200—220°
баваўняныя — 180—190°
шарсцяныя — 150—170°
поліэфірныя (лаўсан) — 120—140°
з натуральнага шоўку і віскознага палатна — 120—130°
з ацэтатнага шоўку — 120—130°.



— Дзядзька, а СНІДу не баішся?

— А ў мяне дэпутацкі імунітэт.

# Васіль КЛЮЧНІК



*Нарадзіўся ў 40-я гады — вайна, аднаўленне. Скончыў сямігодку, вячэрнюю школу, школу міліцыі.*

*Размовамі аб пагонях і перастрэлках мы пакуль што займацца не будзем. У асноўным работа ў міліцыі мела мастацка-афарміцельскі ўклон. Наглядная агітацыя за перавагі сацыялізму і барацьба супраць п'янства і іншых недахопаў, якія мелі месца ў міліцэйскім асяроддзі, з чым не спраўляліся сям'я і калектыў. За свае мастацкія здольнасці і таленты, праяўленую на службе пільнасць Васіль Браніслававіч атрымаў міліцэйскае званне старшыны і з усведамленнем сумленна выкананага абавязку пайшоў на пенсію.*

*Але, безумоўна, найважнейшую станоўчую ролю ў фарміраванні карыкатурыста адыгралі заняткі ў мастацкай студыі пад кіраўніцтвам Анатоля Зайцава. А прага да малюнка прыйшла яшчэ ў дзяцінстве. Праўда, спробы маляваць жарты не заўсёды канчаліся мірна. Былі крыўды, былі сваркі, пра лупцоўкі Васіль Браніслававіч сціпла прамаўчаў.*

*Прозвішча Ключніка з'явілася ў «Вожыку», калі Васіль разменяў ужо чацвёрты дзесятак. Быць мастаком-сатырыкам і не здраджваць сумленню ў той час было вельмі няпроста, бо пра кіраўніцтва, як і пра нябожчыкаў, можна было гаварыць альбо добра, альбо нічога. (Ну амаль як сёння.) Тады ў «Вожыку» супрацоўнічалі цікавыя і самабытныя мастакі: Я. Бусел, Р. Грамыка, А. Волкаў, А. Гурло, А. Чуркін і іншыя. Адным словам — канкурэнцыя, якую Васіль Браніслававіч дастойна вытрымаў. І цяпер, калі вы набудзеце часопіс «Вожык», абавязкова сустрэнеце там прозвішча Ключніка.*

*Так трымаць і надалей, Васіль!*

**Леанід РАЗЛАДАЎ.**















*36,6°*

# ДЗЕВЯЦЬ АНТЫРАКАВЫХ ЗАПАВЕДЗЯЎ

1. Не курыць. Курэнне забірае кожны год тры мільёны жыццяў і з'яўляецца прамым віноўнікам узнікнення не толькі злаякасных пухлін на лёгкіх, але таксама рака стрававода, горла і поласці рота. Курэнне павялічвае таксама рызыку лейкеміі і рака тонкіх кішак.

2. Знізіць ужыванне алкаголю. Этанолавы спірт, які змяшчаецца ў алкагольных напоях, уяўляе сабой у сапраўднасці вельмі важны спадарожны фактар узнікнення рака стрававода, печані і горла.

3. Павялічыць штодзённае ўжыванне свежых садавіны, зеляніны і зерневых з высокім утрыманнем цэлюлозы — яны адыгрываюць ахоўную ролю ў адносінах да эпітэлію ўнутраных органаў.

4. Знізіць лішнюю вагу і абмежаваць ужыванне тлушчаў, а таксама павялічыць фізічныя нагрузкі. Комплекснае ўжыванне тлушчаў, што перавышае 40 працэнтаў дзённай нормы калорый, спрыяе ўзнікненню рака прамой кішкі, печані і падстраўнікавай залозы. Фізічная актыўнасць, наадварот, не толькі спрыяе абмену рэчываў і згаранню тлушчаў, але і перашкаджае старэнню тканак.

5. Пазбягаць празмернага знаходжання пад прамымі сонечнымі прамянямі. За апошнія дзесяць гадоў удвая павялічылася колькасць выпадкаў з'яўлення такіх новаўтварэнняў, як меланома. Эксперты ставяць гэтыя даныя ў прамую сувязь з колькасцю сонечных апёкаў, што былі атрыманы чалавекам у дзіцячым і падлеткавым узросце.

6. Строга прытрымлівацца правілаў засцярогі ў адносінах да канцэрагенных рэчываў. Асабліва трэба клапаціцца аб тым, каб не знаходзіцца працяглы час у асяроддзі «працы вялікай рызыкі».

7. Неадкладна пракансультавацца з урачом у выпадку непрадбачаных крывацёкаў, з'яўлення пухлін і ран, якія не загойваюцца (перш за ўсё ў поласці рота), а таксама ў выпадку з'яўлення радзімак, якія мяняюць сваю форму, памеры і колер.

8. Кансультавацца з урачамі ў выпадках пастаяннага кашлю, ларынгіту, мочаспускальных парушэнняў ці раптоўнай страты вагі.

9. Правяраць рэгулярна малочныя залозы пры дапамозе самапальпіравання, эхаграфіі залоз, а пасля 45 гадоў — пры дапамозе рэнтгенаграфіі.

*«Не может быть».*

## *СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ*

### КРЫЖАВАНКА

***Па гарызанталях і вертыкалях:*** 1. Выбуховае рэчыва. 2. Частка арганізма, якая выконвае пэўную функцыю. 3. Заключная частка спартыўных спаборніцтваў. 4. Рускі савецкі паэт. 5. Бясколернае крышталічнае пахучае рэчыва. 6. Сталіца астраўной дзяржавы ў Еўропе. 7. Літаратурны тэкст оперы, балета і г. д. 8. Грашовае ўзнагароджанне за літаратурную працу. 9. Сукупнасць снасцей судна. 10. Прыбярэжнае суднаходства паміж портамі адной дзяржавы. 11. Выраб са скуры або іншага матэрыялу, які носяць на нагах. 12. Род літаратуры. 13. Двухкорпуснае судна. 14. Старажытнаславянскія плямёны, якія жылі ў басейне ракі Сож. 15. Перапынак у спектаклі. 16. Струнны смычковы музычны інструмент. 17. Дакумент на атрыманне грошай за працу, тавар і г. д. 18. Пляцоўка для спартыўнай стральбы. 19. Работа, заданне на пэўны час. 20. Горад у Расіі, які пэўны час быў абласным цэнтрам. 21. Планка, якая закрывае шчыліну паміж сцяной і падлогай. 22. Парус. 23. Чалавек, вельмі падобны на другога. 24. Дакумент, які пацвярджае нейкія звесткі. 25. Раённы цэнтр у Гомельскай вобласці. 26. Участак поля, пакінуты незасеянным да наступнай сяўбы. 27. Раённы цэнтр у Брэсцкай вобласці. 28. Гарызантальны выступ, які вяршыць сцяну будынка. 29. Месца на службе, звязанае з выкананнем пэўных абавязкаў. 30. Вадаспад з уступамі. 31. Вялікая скрыня для захоўвання адзення і іншых рэчаў. 32. Лабараторная шкляная пасудзіна з доўгім рыльцам. 33. Пласт карыснага выкапня ў зямной кары. 34. Мяжа, рубеж. 35. Укрыццё ад мін, снарадаў. 36. Старажытны прыём марскога бою.

**Склаў Іван ХАБЯН.**
*Лідскі раён, в. Вангі.*

### КРЫПТАГРАМА



Калі правільна адгадаць ключавыя словы ў крыптаграме і замяніць лічбы адпаведнымі літарамі, то можна будзе прачытаць вядомую прымаўку аб хлебе і зямлі.

а) 1-2-3-4-5-6 — агародная расліна; б) 7-8-1-9-10-5 — сталярны інструмент; в) 11-6-12-3-13 — частка вупражы; г) 14-15-16-2-6 — верхні слой лімоннай ці апельсінавай лупіны; д) 7-17-12-18-19 — частка плуга; е) 20-6-14-21 — запруда на рацэ.

**Даслаў Уладзімір АБАБУРКА.**
*Клецкі раён, в. Морач.*

### ЧАЙНВОРД «Н»



1. Сінтэтычнае валакно. 2. Нарвежскі акіянограф, даследчык Арктыкі. 3. Арганічнае рэчыва з класа араматычных вуглевадародаў. 4. Рускі пісьменнік, аўтар рамана «Расіі верныя сыны». 5. Лякарства для абязбольвання. 6. Англійскі механік, астраном, матэматык, фізік. 7. Беларусі літаратурна-мастацкі часопіс. 8. Лекавая вада. 9. Сукупнасць жывёл, якія жывуць у вадзе і добра плаваюць. 10. У старарымскай рэлігіі — бог мора. 11. Опера А. Рубінштэйна. 12. Рака ў Сярэдняй Азіі. 14. Армянскі акцёр тэатра і кіно, народны артыст СССР. 15. Агульная назва часцінак атамнага ядра — пратона, нейтрона. 16. Аўтар аповесці «Жорсткасць». 17. Хімічны элемент, інертны газ. 18. Армянскі мастак, народны мастак СССР. 19. Нервовая клетка з адросткамі. 20. Рускі падарожнік, цвярскі купец, які пакінуў апісанне «Падарожжа за тры моры». 21. Мінерал, разнавіднасць ураніціту. 22. Горад у Кітаі, на рацэ Ганцзян. 23. Персанаж аднайменнай паэмы А. Пушкіна.

**Склаў Уладзімір НЕСЦЯРОВІЧ.**
*г. Мінск.*

### ПРАВЕРЦЕ АДКАЗЫ

**Крыжаванка (13 красавіка). Па гарызанталях:** 5. Афінаж. 6. Дублёр. 9. «Плясуха». 10. Еўразія. 12. Лаваш. 13. Амфібія. 14. Андантэ. 17. Ківач. 19. Бабадаг. 20. Ракаў. 21. Муніціпалізацыя. 24. «Маякі». 26. Аксакал. 27. Іртыш. 31. «Крутаяр». 32. Штандар. 33. Рэкет. 35. Каларыт. 36. Вялюгін. 37. Куніца. 38. Асяцін. **Па вертыкалях:** І. Нікулін. 2. Марал. 3. Кулеш. 4. Клірынг. 5. Асяніна. 7. Развага. 8. Новалазарэўская. 9. Помнік. 11. Ястраб. 15. «Марынка». 16. Балівар. 18. «Чонкі». 20. Рацэі. 22. Батрак. 23. Дызайн. 25. Каталік. 28. Рэнтген. 29. Сябрына. 30. Сталіца. 33. Ртуць. 34. Твіст.

**Крыптаграма (13 красавіка).** Ключавыя словы ў ёй: сячкарня, Зельва, піхта, унты. А прыказка такая: «Вучыся, пакуль храсткі не зрасліся».

**Нядзельны адпачынак (6 красавіка).**

Каця Нікава — настаўніца, ёй 54 гады, яна маці Марыі, бабуля Дзімча, Галі і Жыўка.

Марыя Пеева — лабарантка, ёй 27 гадоў, яна маці Галі і Жыўка, цётка Дзімча. Жыўку — 5 гадоў, Галі і Дзімчу — па 3 гады.

Сям'я Стоевых: Іосіф — будаўнік, яму 28 гадоў. Лідзія — касірка, ёй 26 гадоў, блізнятам Бістры і Веску — па 4 гады.

Сям'я Радзевых: Ілка — механік, яму 26 гадоў, Зоя — краўчыха, ёй таксама 26 гадоў, блізнятам Ане і Еле — па 3 гады.









***У сувязі са святам Радаўніцы, а таксама пераносам выхаднога дня на панядзелак наступны нумар «Звязды» выйдзе, згодна з графікам, у чацвер, 25 красавіка г. г.***

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100634. Індэкс 63850.
Зак. № 1994.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12